


## тэма



## зробім лепш!



## інфарматар



## меркаваньне



## аргаразьвіцьцё



## memory



## кампанія



## de facto



## кансультацыя

# ДЗЯРЖАВА І НЯЎРАДАВЫЯ АБ'ЯДНАНЬНІ

Юры Чавусаў,
юрыст Выканаўчага Бюро Асамблеі

**Ці «вместо», ці «вместе»**

**Адносіны паміж беларускай дзяржавай і «трэцім сэктарам» далёкія ад ідэальных. Гэта - аксыёма для кожнага прадстаўніка беларускіх НДА: дзяржаўная палітыка барацьбы і вынішчэньня грамадзянскай супольнасьці толькі пацьвярджае яе. Але большасьць з нас разумее, што такі пункт погляду актуальны толькі на дадзены момант: каб мара зрабілася рэальнай і мы нарэшце пабудавалі дэмакратычную дзяржаву, патрэбнае пазытыўнае ўзаемадзеяньне дзяржавы і структураў грамадзянскай супольнасьці.**

**У гэтым артыкуле мы акінем вокам поле баявых дзеяньняў паміж беларускай дзяржавай і НДА ды паспрабуем адказаць на пытаньне, ці магчымае ў сёньняшніх умовах плённае і ўзаемавыгоднае супрацоўніцтва «першага» і «трэцяга» сэктараў ці, прынамсі, перамір'е.**

### НАВОШТА ДЗЯРЖАВЕ ГРАМАДЗКІЯ АБ'ЯДНАНЬНІ?

Дзеля больш-менш поўнага адказу на гэтае пытаньне зьвернемся да тэорыі.

Існаваньне дэмакратычнага грамадства, яго плюралізм і сацыяльная стабільнасьць забясьпечваюцца ня столькі інстытутамі электаральнае дэмакратыі, колькі пастаянным дыялёгам паміж кіраўніцтвам і грамадзянамі, удзелам грамадзкасьці ў працэсе прыняцьця рашэньняў. У шырокім сэнсе да структураў грамадзянскай супольнасьці мы адносім палітычныя партыі і грамадзкія рухі, рэлігійныя аб'яднаньні і прафсаюзы, СМІ. Сярод гэтых структураў асобнае месца займаюць непрыбытковыя аб'яднаньні грамадзянаў.

Няўрадавыя арганізацыі (паводле беларускага заканадаўства - грамадзкія аб'яднаньні) ня маюць за мэту атрымаць прыбытак, ажыцьцяўляюць пэўную дзейнасьць, кіруючыся сваімі перакананьнямі і грунтуючыся на пачуцьці ўласнай грамадзкай місіі. Пры гэтым НА непазьбежна сутыкаюцца з актыўнасьцю прыватнага сэктару, прадстаўнікі якога працуюць дзеля грамадзкага дабрабыту на падставе атрыманьня прыбытку, і актыўнасьцю дзяржавы, якая таксама мабілізуе грамадзкія рэсурсы для грамадзка-карысных мэтаў, грунтуючыся на манаполіі зьбіраць падаткі і ўжываць пакараньні легітымным чынам.

У тым, што дзейнасьць сэктараў перакрываецца, няма нічога дзіўнага - разнасэктарная актыўнасьць дапаўняе адна адну, працуючы на карысьць грамадства. Але стасункі з уладамі, якія ўстанаўліваюць агульныя для ўсіх правілы гульні і вызначаюць прававы клімат - вельмі важны момант, і ён шмат чаго вырашае. Асабліва што датычыцца беларускай дзяржавы, якая імкнецца ўплываць на структуры «трэцяга сэктару» і раўніва ставіцца да іх посьпехаў.

Імклівае павелічэньне колькасьці няўрадавых арганізацыяў у Беларусі за апошнія пятнаццаць год можа падацца назіральніку штучным працэсам, які інсьпіраваўся звонку. Гэтую аблуду адкідае сацыёлаг Ральф Дарэндорф: «Нехта стварае Рэспубліканскую партыю, нехта - газэту «Нью-Ёрк Геральд», яшчэ нехта засноўвае Гарвардзкі каледж і гэтак далей. Гэта працэс натуральны, яго нельга плянаваць і кантраляваць цалкам, але можна ствараць спрыяльныя для яго ўмовы».

Такія ўмовы былі створаныя працэсамі дэмакратызацыі напачатку 90-х гадоў: як толькі дзяржава перастала забараняць грамадзянскія ініцыятывы і асацыяцыі, пачалося іх імклівае разьвіцьцё. Запрацавала своеасаблівая ланцуговая рэакцыя, такі «інкубатар грамадзянскай супольнасьці»: там, дзе толькі што была адна арганізацыя, літаральна праз год-два зьявіўся тузін грамадзкіх аб'яднаньняў, ініцыятываў, дабрачынных фундацыяў і г.д.

Ня дзіва, што беларускія ўлады, якіх гэты спантанны працэс застаў зьнянацку, вагаюцца паміж дзьвюма альтэрнатывамі. Яны палягаюць у традыцыйнай бюракратычна-савецкай стратэгіі мысьленьня: калі паўстае нейкая новая ініцыятыва, якую ты ня можаш кантраля-



ваць, - альбо забарані, альбо ўзначаль яе. У той жа час дзе-нідзе можна ўбачыць выпадкі канструктыўнага, па-сапраўднаму карыснага для грамадства супрацоўніцтва «трэцяга сэктару» з органамі ўлады і кіраваньня. На жаль, такія выпадкі нешматлікія - іх пазытыўны досьвед губляецца ў палітычных заклёнах і канстатаваньнях немагчымасьці супрацоўніцтва з «гэтым палітычным рэжымам».

### КАРПАРАТЫВІЗМ: ДЗЯРЖАВА ВЫЗНАЧАЕ СВАІХ ФАВАРЫТАЎ

Сапраўды, беларуская дзяржава, якая дэкляруе сябе як прававую, па вялікім рахунку арыентуецца не на супрацоўніцтва з грамадзянскай супольнасьцю, а на пабудову гэтак званай карпаратыўнай мадэлі супрацоўніцтва з грамадзтвам. То бок дзяржава вылучае з пэўнай сацыяльнай групы, «карпарацыі», аднаго суб'екта, які прадстаўляе інтарэсы гэтай групы ў дыялёгу з уладай. Астатнія прадстаўнікі «карпарацыі» могуць кантактаваць з уладай толькі пры пасярэдніцтве (і згодзе) гэтага суб'екта-прадстаўніка.

Такая мадэль узаемаадносінаў дзяржавы і грамадзтва надта пасуе аўтарытарнаму рэжыму. Дарэчы, найлепшым чынам яна была рэалізаваная падчас дыктатуры Франка ў Гішпаніі і Салязара ў Партугаліі. Для нас дзяржаўны карпаратывізм у адносінах да грамадзкіх арганізацыяў таксама не навіна: гэтая зьява была распаўсюджаная ў часы БССР, калі прадстаўнікі вэтэранскіх арганізацыяў мелі ільготныя ўмовы на выбарах у парлямэнт (памятаеце фармулёўку «дэпутаты Вярхоўнага Савету, абраныя ад вэтэранскіх арганізацыяў»?), а за год у дзяржаве рэгістравалася тры-чатыры грамадзкія аб'яднаньні.

Клясычны прыклад «сучаснага беларускага карпаратывізму» - БПСМ, якому ў 1997 раз і назаўжды была адведзеная роля моладзевага авангарду, пры дапамозе якога адпаведным чынам будуецца дзяржаўная палітыка. Іншыя арганізацыі ў лепшым выпадку не заўважаюцца, у горшым - перасьледуюцца. Кажуць, што недзе ў калідорах улады блукае сьпіс моладзевых арганізацыяў, зь якімі дазваляецца мець зносіны дзяржаўным чыноўнікам. Далібог, калі гэта толькі чуткі, але і яны не зьявіліся на пустым месцы.

Для заходніх дэмакратыяў «мяккі» карпаратывізм - гэта, прынамсі, не канчатковая адмова ад выкарыстаньня дзяржавай незаангажаванай грамадзянскай актыўнасьці. Шмат у якіх краінах Эўропы і Амэрыкі існуюць ільготы для асобных НДА, для часткі зь іх ствараецца клімат спрыяньня супрацоўніцтву зь дзяржавай. Беларускі кіруючы рэжым ня мае ахвоты ні з кім «цацкацца»: «У Беларусі зараз занадта многа грамадзкіх аб'яднаньняў. Павінна быць 200-300 - гэтага было б дастаткова», - шчыра заяўляе адзін небезьвядомы чыноўнік. Верагодна, астатнім 2 тысячам зарэгістраваных НДА «дзешавей» самаліквідавацца.

### АБРАНЫЯ І АДКІНУТЫЯ

Такім чынам, для беларускіх няўрадавых аб'яднаньняў ствараюцца ўмовы існаваньня, якія цяжка назваць спрыяльнымі. У Беларусі пабудаваная жорсткая сыстэма кантролю за дзейнасьцю грамадзкіх аб'яднаньняў, асабліва калі яны маюць выразна незалежны ад уладаў характар. Натуральна, NGOs вымушаныя прымаць захады па сваёй абароне. Менавіта дзяржаўны ціск прымусіў стварыць у 1997 годзе Асамблею няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў. Адной з галоўных яе мэтаў стала абарона NGO ад неабгрунтаванага перасьледу з боку дзяржавы, у тым ліку і шляхам гарманізацыі стасункаў паміж «трэцім сэктарам» і афіцыёзам.

Ці трэба лішні раз жывапісаць крыўды, што чыніліся няўрадавым арганізацыям з боку ўладаў: перарэгістрацыя-99 выкрэсьліла каля 10% НДА са сьпісу існуючых; да гэтага часу незразумела, на якіх падставах былі ліквідаваныя ЗБС, МІЦ, «Вежа»; кожны сутыкнуўся з адыёзнай Камісіяй па дзяржаўнай рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў; вядома, што бывае за распаўсюд зьвестак ад імя незарэгістраваных арганізацыяў і якія нормы ўсталяваў Дэкрэт №8.

Няўрадавыя арганізацыі імкнуцца аказваць уплыў на дзяржаўную палітыку, няхай сабе і ў асобнай яе галіне. Ці адрозьніваецца гэткая дзейнасьць ад актыўнасьці палітычных партыяў? Пэўна, так, але адрозьненьне партыяў і няўрадавых арганізацыяў ня ёсьць абсалютным: нават самая непалітызаваная арганізацыя можа адчуць патрэбу ў выкарыстаньні рэсурсу дзяржаўнае ўлады, тым самым мабілізавацца і часткова ператварыцца ў агента палітычнага дзеяньня.

Магчыма таму беларускія ўлады бачаць у любой «несанкцыяванай» грамадзкай актыўнасьці НДА палітычную пагрозу існуючаму ладу. Напрыклад, калі МГА «Гісторыка» ладзіла пад Баранавічамі краязнаўчы летнік, кіраўніцтва выканкаму Берасьцейскай вобласьці намагалася забараніць «апазыцыйную акцыю бээнэфаўцаў».

Ды й пазыцыя некаторых грамадзкіх аб'яднаньняў вызначаецца як падкрэсьлена палітызаваная - гаворка пра дэкляратыўнае непрызнаньне вынікаў канстытуцыйнага рэфэрэндуму 1996 году, пра характарыстыку існуючага рэжыму як аўтарытарнага і г.д. Часам самі актывісты няўрадавых арганізацыяў кажуць, маўляў, гэтая арганізацыя «палітызаваная», а тая - не. Ясна, што гэткая пазыцыя нарадзілася ў тым ліку ў выніку актыўнага ўдзелу няўрадавых арганізацыяў у выбарчых кампаніях мінулага году, калі НДА працавалі больш эфэктыўна, чым палітычныя арганізацыі.

Але пры ўсім гэтым палітычная праца няўрадавых арганізацыяў ня ёсьць асноўным складнікам іх дзейнасьці.

Большасьць NGO цалкам адхіляецца ўладамі ад працэсу прыняцьця дзяржаўных рашэньняў. Пад увагу бярэцца толькі пазыцыя выбраных арганізацыяў, якія адпавядаюць вызначаным палітыка-ідэалягічным крытэрам. Так, у жніўні 2001 Менгарвыканкам разгледзіў пытаньне супрацоўніцтва мэрыі з грамадзкімі арганізацыямі. Сярод прынятых рашэньняў (у тым ліку па інтэнсыфікацыі барацьбы зь незарэгістраванымі арганізацыямі, па

**дачыненьні паміж уладай і НДА могуць разьвівацца так...**



паляпшэньні ўзаемадзеяньня грамадзкіх арганізацыяў і органаў улады, вызначэньні парку Дружбы Народаў як месца, дзе арганізацыям дазваляецца праводзіць свае мітынгі) было вырашана прызнаць стан супрацоўніцтва ўлады і «трэцяга сэктару» задавальняючым і стварыць Гарадзкую каардынацыйную раду грамадзкіх аб'яднаньняў.

У лістападзе мінулага году такая Рада была створаная. У яе склад увайшлі арганізацыі, «большыя каталікі, чым Папа Рымскі»: БПСМ, БСМ, Саюз Афіцэраў, Гарадзкі савет вэтэранаў, Гарадзкі савет жанчынаў, Таварыства інвалідаў і інш. Выбар адпаведны: менавіта гэтыя арганізацыі будуць забясьпечваць «рэалізацыю дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі» і «падтрымку стабільнасьці ў грамадстве», а таксама праводзіць Адзіныя дні інфармаваньня насельніцтва.

Тым часам самымі неабароненымі застаюцца незарэгістраваныя арганізацыі. Яны, выкінутыя за межы прававога поля, пазбаўленыя магчымасьці мець рахункі і набываць маёмасьць, ня маюць права выступаць у прэсе, а іх сябры могуць быць прыцягнутыя да адміністратыўнай адказнасьці па артыкуле 167-10 КаАП.

Часьцей за ўсё прычынай адмовы ў рэгістрацыі ініцыятывы зьяўляецца нежаданьне інстытуалізаваць пэўную арганізацыю і, адпаведна, легалізаваць пэўную грамадзкую пазыцыю. Замкнёнае кола: адміністрацыя не ўважае нават добра артэкуляваныя інтарэсы за пазыцыю арганізацыі, паколькі арганізацыя незарэгістраваная, і менавіта з-за непажаданасьці гэткай грамадзкай пазыцыі.

На тыя грамадзкія арганізацыі, якім пашчасьціла атрымаць дзяржаўную рэгістрацыю, таксама аказваецца ціск; чаго варты Дэкрэт № 8 ці пастаянная пагроза папярэджаньняў, якія, зноў жа, могуць пацягнуць за сабой пазбаўленьне рэгістрацыі.

Ініцыятары ціску на NGO ня грэбуюць і такімі бруднымі мэтадамі, як выкарыстаньне крымінальнікаў для нападу на офісы арганізацыяў. Гэта датычыцца ня толькі крадзяжоў, якія ўжо сталі звыклай зьявай, але і бандыцкіх нападаў з выкарыстаньнем зброі - узгадайма напад на офіс ЗБС.

Ці можна змагацца прававым шляхам з парушэньнем правоў NGOs? Пра пэрспэктыўнасьць гэтага шляху сьведчыць, напрыклад, выпадак зь незалежнай газэтай «Беларускі Усход» (г. Хоцімск), якая здолела судовым парадкам вярнуць аргтэхніку, канфіскаваную на падставе Дэкрэту №8. Зараз недзяржаўная газэта «Куцейна» і Цэнтар імя Філона Кміты (Ворша) дамагліся адмены рашэньня суду першай інстанцыі па канфіскацыі аргтэхнікі і рызографа - ужо распачаты перагляд справы.

### «НЕ ВМЕСТО, А ВМЕСТЕ»

Але ў жыцьці беларускага «трэцяга сэктару» сустракаюцца таксама і выпадкі сапраўды пазытыўнага супрацоўніцтва дзяржаўных структураў і няўрадавых арганізацыяў.

На сёньняшні дзень дзяржаўныя органы Беларусі найбольш адэкватна настроеныя на супрацоўніцтва зь няўрадавымі арганізацыямі ў сфэры аховы навакольнага асяродзьдзя. У асяродку экалягічных арганізацыяў можна пачуць пра падзел на «праўрадавыя» і «ляяльныя да дзяржавы», але, прынамсі, узровень узаемадзеяньня дзяржавы і «трэцяга сэктару» ў гэтай галіне можна прызнаць ледзь ня ўзорным.



...альбо так

Удзел грамадзкасьці ў працэсе прыняцьця экалягічна значных рашэньняў, у справе аховы навакольнага асяродзьдзя і кантролю за экалягічным станам заканадаўча замацаваны ў Канцэпцыі дзяржаўнай палітыкі ў галіне аховы навакольнага асяродзьдзя. У тым ліку Канцэпцыя патрабуе дзяржаўнай падтрымкі грамадзкіх арганізацыяў і рухаў, якія займаюцца ахоўвай жывой і нежывой прыроды.

Беларускі закон «Аб ахове навакольнага асяродзьдзя» заахвочвае няўрадавыя арганізацыі да супрацоўніцтва зь дзяржавай у правядзеньні экалягічнай экспэртызы па разьмяшчэньні, пабудове, праектаваньні экалягічна небясьпечных аб'ектаў, дазваляе ім праводзіць грамадзкую экалягічную экспэртызу, удзельнічаць у падрыхтоўцы і абмеркаваньні матэрыялаў ацэнкі ўзьдзеяньня на навакольнае асяродзьдзе гаспадарчай і іншай дзейнасьці, якая плянуецца. Ім таксама прадастаўлена права ўносіць прапановы, патрабаваць у судовым парадку адмены рашэньняў па разьмяшчэньні, пабудове, эксплюатацыі экалягічна небясьпечных аб'ектаў, абмежаваньні ці перапрафіляваньні іх дзейнасьці.

Сэнс грамадзкай экспэртызы ў тым, што пры дзяржаўным дасьледаваньні вынікі экспэртызы часам скажаюцца на карысьць эканамічна-гаспадарчай мэтазгоднасьці.

На жаль, зараз NGO ня могуць актыўна карыстацца гэтым правам: прычына ў тым, што няўрадавая экспэртыза звычайна праводзіцца

тэма

на сродкі самой арганізацыі. Першай такую экспэртызу правяло ГА «Экаляйн» - па будоўлі палігону для захаваньня цьвёрдых бытавых адходаў у Іванава (Берасьцейская вобласьць). «Экаляйн» лічыць, што вынікі экспэртызы былі ўлічаныя і дазволілі мінімізаваць шкодныя наступствы пабудовы палігону.

Між іншым, Палажэньне аб грамадзкіх інспэктарах па прыродаахоўным кантролі дазваляе прадстаўніку грамадзкасьці без абмежаваньня і незалежна ад права ўласнасьці наведваць прадпрыемствы і гідратэхнічныя аб'екты, патрабаваць тлумачэньня ад службовых асобаў, дастаўляць парушальнікаў у органы МУС (!!!), складаць на іх адміністратыўныя пратаколы, праводзіць праверку дакумэнтаў і інш.

Менавіта экалягічныя NGOs былі сярод актыўных ініцыятараў парлямэнцкіх слуханьняў па атамнай і альтэрнатыўнай энэргетыцы, у выніку якіх фінансаваньне праектаваньня беларускай АЭС было афіцыйна спыненае (але фактычна працягваецца).

Спалучэньне шэрагу фактараў (зацікаўленасьць грамадзкасьці, патрабаваньні міжнародных фінансавых інстытутаў, нэўтральнае стаўленьне ўлады да экалягічных NGOs) прывяло да кансалідацыі экалягічных арганізацыяў у Беларусі і да іх актыўнага ўдзелу ў працэсе распрацоўкі Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця Беларусі. Пры ўрадзе дзейнічае Нацыянальная камісія па ўстойлівым разьвіцьці (складзеная з чыноўнікаў), але згодна з праектам Праграмы ААН «Садзейнічаньне ўраду РБ у фармаваньні і рэалізацыі Нацыянальнай стратэгіі ўстойлівага разьвіцьця» да гэтай справы падключаная грамадзкасьць. У Каардынацыйнай радзе праекту (нацыянальны каардынатар - першы намесьнік Міністра эканомікі) з 14 сябраў 2 - прадстаўнікі няўрадавых арганізацыяў.

Акрамя таго, у межах праекту створаны і дзейнічае Грамадзкі кансультатыўны орган. Зараз ён аб'ядноўвае 16 экалягічных NGOs (у тым ліку і незарэгістраваных) агульнай колькасьцю 23 000 сябраў і зьяўляецца адкрытым для любой грамадзкай арганізацыі, якая хоча далучыцца да гэтай структуры. Такі фармат стварае ўмовы для максымальнага ўдзелу грамадзкасьці ў праекце і іншых мерапрыемствах па выпрацоўцы Канцэпцыі ўстойлівага разьвіцьця.

Застаецца спадзявацца, што калі-небудзь падобны мэханізм узаемадзеяньня дзяржаўных органаў і «трэцяга сэктару» будзе ўстаноўлены і ў іншых сфэрах.

# Што трэба для ўстойлівасьці «трэцяга сэктару»?

давед ка

Якасьць, моц і трываласьць «трэцяга сэктару» залежаць ад асяродзьдзя, у якім арганізацыі мусяць дзейнічаць. Разьвіцьцё «трэцяга сэктару» ў вялікай ступені залежыць ад прававых нормаў і прававога асяродку, які існуе ў дадзенай краіне.

Магчымасьць існаваньня арганізацыйных структураў «трэцяга сэктару» патрабуе праўнай філязофіі, якая асобна займаецца пытаньнямі гэтага сэктару і патрабуе разьвіцьця асобнай галіны права - права некамэрцыйных арганізацыяў. Законы, якія дазваляюць рэгістраваць NGO як юрыдычную асобу, выключна важныя для таго, каб свабода асацыяцыяў, абароненая міжнародным і канстытуцыйным правам, была рэальнай і значнай. Прававое асяродзьдзе дзейнасьці няўрадавых арганізацыяў можна апісаць, грунтуючыся на наступных прынцыпах:

- Для NGO патрэбныя такія законы, якія б абаранялі іх незалежнасьць і доўгатэрміновую ўстойлівасьць. Але празьмернае рэгуляваньне з боку закону і дзяржавы можа перашкодзіць разьвіцьцю «трэцяга сэктару». Надзвычайная ўвага да прававога рэгуляваньня ўсялякіх дробязяў пры адсутнасьці ўсеабдымнай юрыдычнай філязофіі ўскладняе законапаслушэнства для няўрадавых арганізацыяў.

- Заканадаўцам трэба кансультавацца з арганізацыямі «трэцяга сэктару» ў працэсе заканатворчай практыкі. Адкрытая камунікацыя і супрацоўніцтва, заахвочваньне да дыялёгу выключна важныя для задавальненьня патрэбаў дзяржавы, няўрадавых арганізацыяў, грамадзтва ў цэлым.

- Цэнтральныя і мясцовыя органы ўлады часта заключаюць дамовы з арганізацыямі «трэцяга сэктару», напрыклад, для выкананьня апошнімі дзяржаўных функцыяў па забесьпячэньні сацыяльнай дапамогі. Але такія дамовы сумленнага конкурсу паміж NGO вымагаюць іх зьдзяйсьняць справаздачнасьць у адпаведнасьці з нормамі, вызначанымі дзяржавай. Тут магчымае зрастаньне няўрадавых арганізацыяў зь дзяржаўнымі органамі.

- Заканадаўства рэгулюе ўвесь цыкль існаваньня няўрадавай арганізацыі ад яе стварэньня да яе ліквідацыі. Таму дзяржава павінна забясьпечыць, каб працэс рэгістрацыі або падачы заяўкі мусіў быць адназначным, ясным, пасьлядоўным, адносна хуткім, ня вельмі дарагім і даступным для ўсіх грамадзянаў. Пытаньне ліквідацыі арганізацыі павінна знаходзіцца ў выключнай кампетэнцыі самой арганізацыі, за выключэньнем выпадкаў, калі судом устаноўленая яе незаконная дзейнасьць. Сродкі, якія застаюцца пасьля ліквідацыі, павінны накіроўвацца па прызначэньні.

- Увогуле, структуры «трэцяга сэктару» павінны быць заканадаўча адрозныя ад камэрцыйных арганізацыяў, у тым ліку па падатковым статусе. Той факт, што арганізацыя займаецца камэрцыйнай дзейнасьцю, не выключае яе аўтаматычна з «трэцяга сэктару». Тым ня менш, непрыбытковы аспэкт павінен пераважаць у дзейнасьці арганізацыі.

- Лепшае, што можа зрабіць дзяржава для забесьпячэньня сумленнай працы няўрадавых арганізацыяў - гэта ўстанавіць мінімальныя справаздачныя стандарты і правілы фінансавай транспарэнтнасьці. Толькі пры такой умове «трэці сэктар» будзе лічыцца шчырым, некарумпаваным, легітымным і вартым даверу з боку грамадзтва. Мінімальнымі патрабаваньнямі зьяўляюцца штогадовыя бухгальтарскія і рабочыя справаздачы перад кіраўніцтвам арганізацыі, яе сябрамі і заснавальнікамі, а таксама перад дзяржаўнымі органамі.



ПАВОДЛЕ МАТЭРЫЯЛАЎ ЗАЛЬЦБУРСКАГА СЭМІНАРУ

# МОЖНА СУПРАЦОЎНІЧАЦЬ ЗЬ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАВАЙ?

Алена Кузьмініч,

**кансультант па прававых пытаньнях Альянсу Партнэрства Каўнтэрпарт (CAP) у Беларусі, праграма CAP фінансуецца Агенцыяй ЗША па міжнародным разьвіцьці**

У пытаньнях супрацоўніцтва грамадзкіх аб'яднаньняў зь дзяржаўнымі органамі можна вылучыць наступныя аспэкты:

1) уцягненьне грамадзкіх аб'яднаньняў (ГА) у працэс прыняцьця рашэньняў дзяржаўнымі органамі;

2) наўпроставая фінансавая падтрымка (у выглядзе грантаў, субсыдыяў, дзяржзаказу);

3) ненаўпроставая падтрымка ў выглядзе падатковых і іншых ільготаў.

1) Найбольш распаўсюджанай магчымасьцю ГА ўплываць на прыняцьце рашэньняў зьяўляецца іх прадстаўніцтва ў кансультатыўных органах, радах. У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб сацыяльнай абароне інвалідаў» была створаная Рэспубліканская міжведамасная рада па праблемах інвалідаў, дзе прадстаўленыя такія грамадзкія аб'яднаньні, як «Беларускае таварыства глухіх», «Беларускае таварыства інвалідаў», «Беларуская рэспубліканская асацыяцыя інвалідаў-калясачнікаў», Фонд міласэрнасьці і здароўя і інш.

Пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь у 2000 годзе была створаная Нацыянальная рада па гендэрнай палітыцы (у яе склад увайшлі лідэры такіх жаночых арганізацыяў, як Беларуская асацыяцыя маладых хрысьціянскіх жанчынаў, Жаночы незалежны дэмакратычны рух).

У шэрагу міністэрстваў прадугледжана стварэньне кансультатыўных органаў, дзе могуць быць прадстаўленыя і профільныя ГА. Да такіх структураў можна аднесьці навукова-кансультатыўную раду пры Міністэрстве юстыцыі (Палажэньне аб Міністэрстве юстыцыі, зацьв. Пастановай Савету Міністраў РБ (далей ПСМ РБ) ад 31.10.2001 №1605), рады па кірунках дзейнасьці пры Міністэрстве адукацыі (Палажэньне аб Міністэрстве адукацыі, зацьв. ПСМ РБ ад 29.10.2001 N 1554). Пры Міністэрстве прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяродзьдзя РБ створаная каардынацыйная рада, дзе прадстаўленыя экалягічныя грамадзкія аб'яднаньні.

У палажэньнях пра некаторыя міністэрствы наўпростава не прадугледжана стварэньне дарадчых органаў на грамадзкіх пачатках, але замацоўваецца прынцып супрацоўніцтва, узаемадзеяньня з грамадзкімі арганізацыямі: Міністэрства інфармацыі РБ супрацоўнічае з грамадзкімі арганізацыямі па пытаньнях, зьвязаных з распаўсюдам масавай інфармацыі (гл. Палажэньне аб Міністэрстве інфармацыі, зацьв. ПСМ РБ ад 26.10.2001 № 1545; гл. Палажэньне аб Міністэрстве жыльлёва-камунальнай гаспадаркі РБ, зацьв. ПСМ РБ ад 24.10.2001 № 1529).

Экспэртныя ацэнкі грамадзкіх аб'яднаньняў могуць быць запатрабаванымі пры рабоце над законапраектамі ў рамках працоўных групаў і радаў, якія ствараюцца камісіямі Палаты Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу. Падчас парлямэнцкіх паседжаньняў магчымае заслухваньне думак грамадзкіх аб'яднаньняў. Гэтыя працэдуры прадугледжаныя Рэглямэнтам ПП НС РБ.

На мясцовым узроўні ў адпаведнасьці з Законам РБ «Аб мясцовым кіраваньні і самакіраваньні», рэглямэнтамі Саветаў дэпутатаў і выканаўчых камітэтаў прадстаўнікі ГА таксама могуць ня толькі прысутнічаць на паседжаньнях, але і заклікацца для работы ў працоўных і рэдакцыйных групах.

Ад лідэраў НДА часта можна пачуць скаргі, што яны ня могуць «прабіцца» да ўладаў, іхная думка ня ўлічваецца пры распрацоўцы і рэалізацыі нарматыўных актаў. Часткова гэта выклікана пасыўнасьцю саміх НДА, іх нежаданьнем і часьцяком непадрыхтаванасьцю працаваць зь дзяржаўнымі органамі. Толькі заклікаў і наяўнасьці добрай волі да супрацы ў абодвух бакоў яўна недастаткова, каб дасягнуць патрэбных вынікаў. Высокі прафэсійны ўзровень, ініцыятыўнасьць, своечасовае выкананьне ўзятых на сябе абавязкаў, паслядоўнасьць - гэта простыя прынцыпы, безь якіх нельга спадзявацца, што ў кабінэтах чыноўнікаў зь нецярплівасьцю будуць чакаць ідэі лідэраў «трэцяга сэктару».

2) Найбольш вядомыя варыянты дзяржаўнага фінансаваньня грамадзкіх аб'яднаньняў:

- асыгнаваньні зь дзяржаўнага бюджэту (у 2002 істотна скарочаныя);
- падтрымка моладзевых праграмаў праз Фонд сацыяльнай абароны моладзі (Палажэньне аб Фондзе, зацьв. Указам Прэзыдэнта ад 30.10.1997 №556). Верагодна, пасьля аб'яднаньня БСМ і БПСМ адбудуцца зьмены ня толькі ў Праўленьні Фонду, але і ў парадку ягонай дзейнасьці. Па пытаньнях фінансаваньня, запаўненьня заяваў варта зьвяртацца ў Дэпартамэнт па справах моладзі Міністэрства адукацыі РБ;
- да нядаўняга часу асобныя грамадзкія арганізацыі маглі разьлічваць на ўстойлівае фінансаваньне з боку Фонду прэзыдэнцкіх праграмаў (адна зь іх - «Дзеці Беларусі»). Мэтавыя групы - дзеці-сіроты, дзеці-інваліды;
- аплата выдаткаў асобных мерапрыемстваў грамадзкіх аб'яднаньняў, калі гэта прадугледжана бюджэтам дзяржаўнага органа (як на рэспубліканскім, так і на мясцовым узроўнях).

У Беларусі, у адрозьненьні ад краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, Украіны, Расеі, ня дзейнічае мэханізм муніцыпальнага гранту для праграмаў НДА і/ці сацыяльнага заказу. У Расеі сталі традыцыйнымі конкурсы сацыяльных праектаў у рамках суб'ектаў фэдэрацыі (ці фэдэральных акругаў), калі бюджэтныя сродкі на конкурснай аснове разьмяркоўваюцца ня толькі паміж дзяржаўнымі ўстановамі (адукацыйнымі, сацыяльнай абароны), але і сярод недзяржаўных арганізацыяў. Нарматыўнае рэгуляваньне гэтых пытаньняў знайшло сваё адлюстраваньне ў адпаведных законах і палажэньнях суб'ектаў фэдэрацыі.

На Ўкраіне аналягічныя мэханізмы таксама замацаваныя на ўзроўні актаў мясцовых органаў.

Працэсы, якія адбываюцца ў суседніх краінах, дазваляюць казаць пра нейкія тэндэнцыі ў

сацыяльнай сфэры: «дзяржаўная манаполія» на вырашэньне сацыяльных праблемаў адыходзіць у мінулае, і як прыкмета гэтага - бюджэтныя сродкі робяцца дасягальнымі для некамэрцыйных арганізацыяў незалежна ад формы ўласнасьці (дзяржаўная ці прыватная). Працэдуры фармальна замацаваныя, папярэдне вядомыя крытэры і ўмовы конкурсу, яго аб'яўленьне і вынікі адкрытыя для грамадзкасьці. Адно што можна толькі шкадаваць, бо ў гэтай частцы ёсьць прабел у беларускім заканадаўстве. Хоць тэндэрны мэханізм ужываецца для закупу тавараў, работаў, паслугаў для дзяржаўных патрэбаў як на нацыянальным, так і на мясцовым узроўнях.

Можа здарыцца і так, што НДА, якія маюць устойлівы доступ да дзяржаўных сродкаў, не зацікаўленыя ў пашырэньні кола «прэтэндэнтаў» на малы «пірог» фінансаваньня.

3) НДА справядліва адзначаюць, што падатковыя ільготы для саміх НДА і мясцовых ахвярадаўцаў, якія жадаюць адкрыта дапамагаць «трэцяму сэктару», мінімальныя. Разам з тым на дадзены момант у парлямэнцэ ідзе праца над праектам Падатковага кодэксу РБ (пакуль не прынятыя ні Агульная, ні Асобная часткі). Але ў нас няма інфармацыі пра ўцягваньне экспэртаў ад НДА (за выключэньнем бізнэс-асацыяцыяў) у працу над такім важным законапраектам.

# на дарозе

## Çàñòàëîñÿ âûñüâåòë³öü

ÊÓÄÛ ?

Янка Воран

Напрыканцы жніўня ў Слоніме адбыўся першы круглы стол з удзелам гарадзкіх НДА і ўладаў. Мясцовым арганізацыям і прадстаўнікам райвыканкаму ўдалася спроба дамовіцца аб супрацоўніцтве ў некаторых сфэрах грамадзкага жыцьця.

У круглым стале ўдзельнічалі прадстаўнікі дзесяці грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў, сябры КПБ і ПКБ, журналісты мясцовых СМІ, чатыры чыноўнікі Слонімскага райвыканкаму, у тым ліку і намесьнік старшыні сп.Анатоль Цярэнін.

Ініцыятарамі сустрэчы выступілі слонімскія арганізацыі Цэнтар «Давер'е» і аб'яднаньне «Ветразь». Па прызнаньнях арганізатараў, яны не рабілі на гэтую сустрэчу вялікіх ставак. Галоўнай мэтай было пазнаёміцца і завязаць кантакты з новай мэрыяй, якая памянялася паўгода таму. Са старымі гарадзкімі ўладамі стасункі ў мясцовых НДА, як вызначыў старшыня «Ветразя» Алесь Маўсюк, былі «ніякія». Нельга сказаць, каб іх зусім не было, але часьцей за ўсё яны насілі нэгатыўную афарбоўку: прадстаўнікі «Ветразя», скажам так, мелі канфлікты з уладамі з-за таго, што выступалі ў якасьці назіральнікаў падчас прэзыдэнцкіх выбараў. Выдатныя стасункі зь мясцовай вэртыкальлю мела хіба толькі прапрэзыдэнцкая Камуністычная Партыя Беларусі. Улады не шукалі шляхоў да супрацоўніцтва, а самі НДА не спрабавалі дамовіцца з мэрыяй.

Новая слонімская вэртыкаль на жнівеньскую сустрэчу з НДА пагадзілася ахвотна. На круглым стале абмяркавалі праблемы, якія маюць грамадзкія арганізацыі, былі прапанаваныя шляхі да супрацоўніцтва. Сп. Цярэнін абяцаў матэрыяльна дапамагчы арганізацыям, што займаюцца хворымі дзецьмі, абяцаў прадаставіць памяшканьне «Ветразю», які ўжо некалькі месяцаў ня можа вырашыць гэтую праблему. Са свайго боку прадстаўнікі райвыканкаму прапанавалі арганізацыям паспрабаваць сумесна заняцца вырашэньнем некаторых гарадзкіх праблемаў: экалёгіяй Слоніму, прыборкай сьмецьця, апекай над хворымі дзецьмі, падтрымкай здольных юнакоў і дзяўчатаў і г. д. Было вырашана правесьці сумесны круглы стол па праблемах дзяцей-інвалідаў.

На круглым стале ўздымалася пытаньне беларускамоўнага навучаньня ў горадзе - ужо некалькі гадоў у Слоніме не набіраюцца дзеці ў беларускамоўныя клясы. Спадар Цярэнін абяцаў у бліжэйшы час склікаць асобны круглы стол па гэтым пытаньні.

Нягледзячы на тое, што абяцаньні і запэўніваньні ў супрацоўніцтве ліліся як манна нябесная на сэрцы прадстаўнікоў «трэцяга сэктару», пытаньне пра парушэньне правоў прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў атрымала досыць канкрэтны адказ ад спадара Цярэніна: «Уладу нельга чапаць рукамі. Грамадзкія арганізацыі ня мусяць лезьці ў палітыку».

Безумоўна, гэта амаль неаспрэчная ісьціна, адно што разуменьне палітыкі ў Анатоля Цярэніна даволі спэцыфічнае: няясна, ці такую ён убачыў у жаданьні сябраў арганізацыяў удзельнічаць у якасьці назіральнікаў на прэзыдэнцкіх выбарах, ці ў тым, што «Ветразь» рыхтуе да выпуску зборнік беларускамоўных вершаў. «Цар нас душыт!.. Хацім свабоды!... Ну што гэта за вершы... Калі хочаце нечым займацца - атрымайце на гэта дазвол. А то: хочам - і ўсё!» Адным словам, крок праваруч, крок леваруч - і нам з вамі не па дарозе.

Паказальна, што на сустрэчы арганізацыі мелі магчымасьць пазнаёміцца адно з адным - падчас круглага стала неаднойчы высьвятлялася, што прысутныя НДА ня ведалі, чым канкрэтна займаюцца іх калегі.

Але відавочна, што круглым сталом засталіся задаволеныя і НДА, і ўлады.

- Цалкам станоўча ацэньваю сустрэчу. Атрымалася так, што мы робім адну справу, але нічога ня ведаем адзін пра аднога, - сказаў спадар Цярэнін.

- Сустрэча паказала, што мы ня ворагі. Жывем у адным горадзе, і нам трэба працаваць разам, - лічыць Алесь Маўсюк. - Мы навязалі супрацоўніцтва ў культурнай і сацыяльнай сфэры, ну а ў палітыцы кожны мае свае погляды.

# ДЗЯРЖАЎНАЕ ПЫТАНЬНЕ

Пытаньне «супрацоўнічаць ці не супрацоўнічаць?» толькі недасьведчанаму падасца далёкім ад шэкспіраўскага. Большасьць грамадзкіх арганізацыяў сутыкаюцца зь ім ледзь не штодня, астатняя меншасьць, прынамсі, пераживае падобныя да гамлетаўскіх пакуты ў спробах сфармуляваць адказ на яго. Пытаньне, якое адны называюць недарэчным ва ўмовах абвешчанай дзяржавай «халоднай» вайны «трэцяму сэктару», а іншыя - цалкам лягічным у абставінах, што склаліся на дадзены момант, магчыма, так і рызыкуе застацца рытарычным - кожны выбірае адказ сам.

Зрэшты, а хто які адказ выбірае?

Мы зьвярнуліся да лідэраў некаторых грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятываў з наступнымі пытаньнямі:

1. Наколькі, па-вашаму, спрыяльныя ўмовы складаюцца зараз для супрацоўніцтва НДА і дзяржструктураў?

2. Ці мела вашая арганізацыя досьвед супрацоўніцтва зь дзяржструктурамі? Прывядзіце прыклад станоўчага і адмоўнага досьведу.

3. З чыйго боку мусіць зыходзіць ініцыятыва па супрацоўніцтве: з боку НДА ці з боку дзяржструктураў?

**Віталь Васількоў**
**дырэктар Магілёўскага грамадзкага аб'яднаньня «Кола Сяброў»**

1. Перад адказам давайце дамовімся, што і ў НДА, і ў дзяржустановах працуюць людзі, прычым розныя. І там, дзе інтарэсы арганізацыяў і людзей супадаюць, дзе ёсьць давер і прыязнасьць, узьнікае супрацоўніцтва. Прычым улада ня можа адмяніць супрацоўніцтва паміж людзьмі і арганізацыямі, яна можа стварыць перашкоды або наадварот - спрыяльны клімат для супрацоўніцтва.

Сёньня агульны клімат нельга назваць спрыяльным, але супрацоўніцтва ёсьць, існуе мноства прыкладаў, калі яно пасьпяховае - у такім выпадку яго вынікі робяцца карыснымі для людзей і грамадзтва. Пералічваць ня буду, бо баюся каго-небудзь не ўзгадаць і пакрыўдзіць, а каго - узгадаць і нашкодзіць.

2. Нашая арганізацыя мела досьвед супрацоўніцтва зь людзьмі, якія працуюць у дзяржаўных установах, - як станоўчы, так і адмоўны. На жаль, у такім супрацоўніцтве ня можа быць агульных рэцэптаў.

3. Вядома ж, ініцыятыва можа зыходзіць і ад людзей, і ад арганізацыяў. Але шанец быць пасьпяховай яна мае большы, калі падтрымліваецца дзяржавай на ўзроўні дзяржаўнай палітыкі і законаў.

**Юнэля Сальнікава, намесьніца старшыні Гомельскага Моладзевага цэнтру «Гарт»**



1. Увогуле, на сёньняшні дзень наладжваньне партнэрскіх стасункаў паміж грамадзкімі арганізацыямі і ўладай уяўляецца малаверагодным. Сярод розных прычынаў варта вылучыць існаваньне шэрагу ўстойлівых узаемных стэрэатыпаў, уласьцівых як дзяржаўным структурам, так і самім грамадзкім арганізацыям. Да прыкладу, зусім нядаўна ва Ўпраўленьні юстыцыі адна адказная асоба шчыра зьдзіўлялася, навошта моладзевай ініцыятыве рэгістравацца, калі «і так можна піва разам папіць». У той жа час ёсьць аб'ектыўныя прычыны, па якіх недзяржаўныя арганізацыі не імкнуцца да папулярызацыі сваёй дзейнасьці на афіцыйным узроўні, што можа прывесьці да непажаданай увагі кантралюючых органаў.

Зараз мы рэгіструемся як новая арганізацыя з новай назвай, каб фармальна само слова «Гарт», зь якім «не рэкамэндавана» супрацоўнічаць, не адштурхоўвала патэнцыйных партнэраў у школах, унівэрсытэтах і іншых дзяржаўных установах гораду. Але фактычна застаецца тая ж самая місія арганізацыі, стратэгічныя прыярытэты, каманда, матэрыяльна-тэхнічная база.

Моладзевы цэнтар «Гарт» вытрымаў багата выпрабаваньняў з прычыны таго, што адважыўся зьмяніць сваё напаўлегальнае існаваньне на адкрытую працу з моладзьдзю г.Гомеля. Але, нягледзячы на рознага кшталту ком-

плексныя праверкі з боку падатковых, архіўных органаў, шчыльнае знаёмства з КДБ, міліцыяй, мы як моладзевая арганізацыя выяўляем ініцыятыву да супрацоўніцтва, бо перакананыя: немагчыма эфэктыўна працаваць і дасягаць сапраўды рэальных вынікаў без супольных намаганьняў.



2. Увесну мінулага году мы арганізавалі круглы стол з удзелам моладзевых арганізацыяў Гомельскага рэгіёну, збольшага незарэгістраваных, таму непадкантрольных уладзе. Пасьля гэтага дзяржава зьвярнула на нас пільную ўвагу, стала запрашаць на свае паседжаньні хаця б для таго, каб быць у курсе, што робіцца ў моладзевым нефармальным асяродку. Я мяркую, гэта быў станоўчы досьвед, бо са словам «Гарт» пачалі асацыявацца сіла, улада, уплыў. Але потым прайшла выбарчая прэзыдэнцкая кампанія, мы набылі імідж апазыцыйнасьці, і зараз канкрэтных прыкладаў пазытыву ва ўзаемаадносінах з уладай, па сутнасьці, няма.

Наконт канкрэтнай акцыі, якая была б прыкладам станоўчага супрацоўніцтва... Гэта быў 2001 год, калі «Гарт» яшчэ не засьвяціўся як арганізацыя, якая займаецца перадвыбарчымі кампаніямі. Даволі пасьпяховым можна назваць Першы Краёвы фэстываль графіці, малюнкі зь якога да гэтага часу ўпрыгожваюць цэнтар Гомеля. Для правядзеньня гэтай акцыі нам давялося задзейнічаць цэлы шэраг дзяржструктураў: аддзел па архітэктуры і мастацтве, розныя электратэхнічныя службы, гатэль, каля якога адбывалася імпрэза і г.д.

Што да адмоўнага досьведу, то ў гэтым годзе мы паспрабавалі пайсьці ў гомельскія школы, каб арганізаваць выступы бардаў, дзеячоў нацыянальнай культуры. Але там і блізка не хацелі пра гэта чуць, бо ў нас вельмі «засьвечанае» імя. Хаця па Гомельскай вобласьці (Мазыр, Калінкавічы, Рагачоў) нашыя актывісты здолелі правесьці шэраг культурніцкіх мерапрыемстваў.

Іншы прыклад. «Моладзевы адукацыйны цэнтар «Фіяльта» зь Менску рэалізуе агульнанацыянальны праект па прафіляктыцы СНІДу. Сэнс яго ў тым, што маладыя людзі, мультыплікатары, на валянтэрскіх пачатках праводзяць у навучальных установах міні-сэмінары, на якіх распавядаюць сваім аднагодкам, як усьцерагчыся ад СЬНІДу. Моладзевы цэнтар «Гарт» быў гомельскім партнэрам па гэтым праекце. Але ва Ўпраўленьні адукацыі, чыя падтрымка была неабходная, вельмі насьцярожана паставіліся да нас, хаця самой ідэяй дужа зацікавіліся. І каб не сарваць праект, мы перадалі яго кіраваньне па Гомелі іншай арганізацыі.

3. Натуральна, з боку НДА. Таму што менавіта НДА - носьбіты новых тэхналёгіяў, інавацыяў для грамадзтва і дзяржавы ў прыватнасьці. Дзяржава - гэта кансэрватыўная сыстэма, з вызначанымі правіламі, з устойлівымі парадкамі. Не яе справа распачынаць нешта новае - хаця б здолела спраўджваць свае пляны. У НДА працуюць больш прасунутыя, творчыя людзі, знаёмыя з досьведам іншых краінаў, якія могуць дазволіць сабе выйсьці за вызначаныя межы і прапанаваць новыя эфэктыўныя шляхі вырашэньня сацыяльных праблемаў.

**Аляксандар Перасыпкін, старшыня грамадзкага аб'яднаньня «Новая Касталія»**

1. Пра ўмовы зараз казаць цяжка. Але сытуацыя склалася такім чынам, што супрацоўніцтва можа прынесьці толькі карысьць - гэта відавочна і для грамадзкіх арганізацыяў, і для дзяржаўных структураў (хаця не для ўсіх). Гэта яшчэ не зусім умовы, а толькі нейкая інтэнцыя - паспрабаваць, што з гэтага атрымаецца.

Асноўныя праблемы вядомыя. Па-першае, існуе недавер паміж НДА і дзяржаўнымі структурамі. На працягу апошніх гадоў складаліся такія адносіны кіраўніцтва дзяржавы да грамадзкіх арганізацыяў, калі нас разглядаюць толькі як палітычную апазыцыю. Па-другое, людзі, якія працуюць у дзяржаўных арганізацыях, лічаць, што вырашэньне праблемаў эканамічнага, сацыяльнага характару - справа выключна дзяржорганаў, і ніхто, акрамя іх, у грамадстве ня можа нічога вырашаць. Гэта - неразуменьне таго, што дзяржава можа будавацца па-іншаму, што ёсьць іншыя сыстэмы, іншыя структуры, існуе падзел на сфэры. Па-трэцяе, мне здаецца, проста адсутнічае досьвед такога супрацоўніцтва. Яго пакуль што ў нас няма, але добра, што ён ёсьць у нашых суседзяў: у Заходняй Эўропе, на Ўкраіне, у Расеі.

2. Нашая арганізацыя імкнулася ўзаемадзейнічаць зь дзяржструктурамі па розных праграмах. На працягу апошніх двух гадоў намі была рэалізаваная сацыяльная праграма пры падтрымцы Альянсу Каўнтэрпарт. У праграму ўваходзіла праца зь цяжкавыхоўнымі падлеткамі, зь дзецьмі са складаных сем'яў. Апошняя акцыя ладзілася ў рамках кампаніі «Зробім лепш!». Мы добраўпарадкавалі дзіцячы садок №14: фарбавалі альтанкі, падрыхтавалі гарадок для вывучэньня правілаў дарожнага руху, графітысты зрабілі малюнкі па матывах казак, і шмат чаго яшчэ. Рабілі гэта разам з кіраўніцтвам дзіцячага садку, шукалі дапамогі ў іншых дзяржарганізацыяў, якія маглі прадаставіць фарбу, матэрыялы, спэцадзеньне для працуючых. Было шмат добрых водгукаў, кіраўніцтва гэтага дзіцячага садку напісала ў гарадзкую газэту падзяку арганізатарам акцыі.

Акрамя таго, мы ўвесь час працуем з настаўнікамі па розных асьветніцкіх праграмах.

Што датычыцца адмоўнага досьведу: «Новая Касталія» больш-менш дасьведчаная арганізацыя, і мы ведаем тыя пытаньні, тыя галіны, дзе супрацоўніцтва немагчымае ці не прынясе карысьці. У першую чаргу гэта тое, што тычыцца акцыяў, якія б закраналі палітычныя пытаньні ці пытаньні пэўных асобаў, пэўных пасадаў. І за гэтую мяжу дзяржава ніколі ня ступіць.

На пачатку дзейнасьці «Новай Касталіі» гарадзкія адукацыйныя ўстановы забаранілі, каб

да нас прыходзілі дзеці, бо нашыя асьветніцкія сэмінары былі накіраваныя на раскрыцьцё характару гэтых маладых людзей, на фармаваньне іх уласнай годнасьці. Калі пасьля падлеткі прыходзілі ў школу, то ставілі пытаньні пра свае правы, пра адносіны з настаўнікамі і г.д. І гэта не падабалася.

Супрацоўніцтва спачатку ішло вельмі цяжка, але сытуацыя пачала мяняцца, калі «Новая Касталія» запрасіла на сэмінары настаўнікаў, калі пачалася рэальная супраца зь імі.

3. Я думаю, што гэта мусіць быць двухбаковы працэс. Вядома, у большасьці эўрапейскіх дзяржаваў пры ўрадавых структурах на цэнтральным і рэгіянальным узроўнях ёсьць чалавек, які адказвае за сувязь з НДА. Ён і павінен ініцыяваць узаемадзеяньне па тых праграмах, дзе дзяржава ня можа самастойна працаваць, альбо ў яе не хапае рэсурсаў, альбо дзе прасьцей укласьці грошы ў арганізацыі, якія зробяць работу таньней. Але пакуль што ў нас такой практыкі няма.

У нас ёсьць нейкія людзі ў выканкамах, адказныя за сувязь з грамадзтвам, але ў большасьці яны проста адмоўна ставяцца да НДА. Зь іншага боку, ня варта ідэалізаваць «трэці сэктар», таму што ён пакуль не такі моцны, асабліва ў рэалізацыі сур'ёзных, вялікіх праграмаў, як на Захадзе.

Беларускія НДА на сёньняшні дзень павінныя быць больш актыўнымі, браць на сябе ініцыятыву і грукаць у як мага большую колькасьць дзьвярэй. Але грукаць трэба з канкрэтнай прапановай, зь ідэяй, з жаданьнем і гатоўнасьцю прэзэнтаваць сябе, пераконваць у эфэктыўнасьці сумеснай дзейнасьці. Памылковае пераканаваньне пра магчымасьці НДА ведаюць усе. Кожны раз гэта трэба даказваць наноў.

**Яраслаў Манцэвіч,**
**кіраўнік Моладзевага цэнтру грамадзянскай супольнасьці «Вэрас»**

1. Умовы, зразумела, ня дужа спрыяльныя, калі ўлічваць тую грамадзка-палітычную сытуацыю, якая зараз у краіне. Але, прынамсі, для супрацоўніцтва па сацыяльных і культурніцкіх праектах магчымасьці ёсьць, і ёсьць станоўчыя прыклады такой працы.

У стасунках зь дзяржструктурамі ўзьнікае шэраг праблемаў. Па-першае, гэта недасканалая сыстэма сувязі «першага» і «трэцяга» сэктараў. Не сакрэт, што дзяржаўныя структуры часьцяком проста незнаёмыя зь мясцовымі грамадзкімі аб'яднаньнямі, яны проста ня ведаюць, што такое НДА, за кошт чаго яны існуюць, што яны робяць і чаго яны дамагаюцца. Няма наладжанай камунікацыі. Па-другое, часта чыноўнікі проста баяцца супрацоўнічаць, калі нават і ведаюць, што такая магчымасьць ёсьць: хочуць, каб не было ніякіх праблемаў з-за таго, што яны нібыта супрацоўнічаюць з гэтак званай «апазыцыяй».

А здараецца і так, што самі грамадзкія лідэры не імкнуцца выйсьці на кантакт з чыноўнікамі, бо ў многіх зь іх існуе стэрэатып наконт таго, што дзяржаўныя структуры выключна варожа ставяцца да НДА, і пэрспэктывы з таго ня будзе. Хаця я лічу, што гэты стэрэатып няслушны.

2. Досьвед пакуль невялікі. Аднак варта зазначыць: нягледзячы на тое, што нашая арганізацыя дагэтуль афіцыйна не зарэгістраваная, усё ж такі ў гарвыканкаме нас ведаюць. У прыватнасьці, мы знаёмыя зь некаторымі чыноўнікамі Аддзелу па справах моладзі і Сэктару інфармацыі і сувязі з грамадзкімі аб'яднаньнямі гарвыканкаму, у тым ліку з кіраўнікамі гэтых структураў. Таксама мы сутыкаліся з Упраўленьнямі культуры і камунальнай гаспадаркі. З усімі названымі чыноўнікамі мы маем альбо добрыя, альбо нэўтральныя стасункі.

Што датычыцца канкрэтнай працы, то тут, напэўна, варта ўзгадаць кампанію «Зробім лепш!». Мы запрашалі некаторых прадстаўнікоў гарвыканкаму на імпрэзу, якая адбылася 30 чэрвеня, і можна сказаць, посьпех быў: прыйшла прадстаўніца Сэктару інфармацыі і сувязі з грамадзкім аб'яднаньнямі. Яна прысутнічала на сьвяточнай частцы мерапрыемства, сказала колькі цёплых словаў у адрас НДА, выказала жаданьне надалей супрацоўнічаць. На жаль, праігнараваў запрашэньне начальнік Упраўленьня культуры, які, можа быць, проста спужаўся дажджу.



Ня дужа паказальны прыклад супрацоўніцтва, але, прынамсі, бачна, што няма адмоўнага стаўленьня да грамадзкіх аб'яднаньняў з боку Віцебскага гарвыканкаму. Проста варта часьцей ісьці на кантакт з чыноўнікамі.

Калі ж казаць пра адмоўны досьвед, то для нас ён зьвязаны з праблемай дзяржаўнай рэгістрацыі. Галоўны спэцыяліст Упраўленьня юстыцыі аблвыканкаму спадарыня Мазурава ня вельмі карэктна з намі кантактуе. Аднойчы мы ўжо атрымалі адмову ў рэгістрацыі, і некаторыя заўвагі, на якіх гэтая адмова грунтавалася, былі проста абсурдныя. Калі мы тэлефануем ці сустракаемся са спн. Мазуравай, яна ня дужа ветліва размаўляе з намі. Не адчувае ніякай няёмкасьці з-за таго, напрыклад, што аблвыканкам парушае вызначаны законам тэрмін на рэгістрацыю. Нягледзячы на ўсе нашыя спробы не падтрымлівае нармальныя чалавечыя адносіны.

Яшчэ адзін прыклад. Калісьці мы прасілі дазволу на правядзеньне сьвяточнага пікету, падчас якога ў якасьці аздабленьня мусіў адбыцца невялічкі выступ гітарыстаў. Нягледзячы на тое, што пікет быў дазволены, выконваць музыку нам забаранілі. Прычыну не патлумачылі, але сказалі, што калі ў нас будуць выступаць гітарысты, нас проста разгоняць. Давялося праводзіць мерапрыемства без музычнага аздабленьня.

3. Ініцыятыва павінна зыходзіць і з аднаго, і зь іншага боку. Хаця, зважаючы на сучасныя варункі, грамадзкі сэктар мусіць першым паспра-

бавацьвыйсці на кантакт, бо мы па вынначэнні актыўныя людзі. Калі гара ня йдзе да Магамета, то Магамет ідзе да гары - нашая арганізацыя ў стратэгічны плян гэта ўжо заклала.



**Ігар Тышкевіч, старшыня Рады ГА «Агенцыя рэгіянальнага разьвіцьця «Варута»**

1. Умовы і раней не былі надта адмоўнымі. Папросту ў пэўны час грамадзкія арганізацыі з прычыны цеснай сувязі з палітычнымі партыямі пачалі ўспрымаць дзяржструктуры як асноўных сваіх ворагаў. Яны тыражавалі гэтую атмасфэру праз сродкі масавай інфармацыі, называлі дзяржструктуры «антынародным рэжымам». Такія выразы можа выкарыстоўваць палітычная партыя, але ніякім чынам не грамадзкая арганізацыя, якая ня мусіць займацца ацэнкай дзейнасьці органаў дзяржаўнага кіраваньня з пункту гледжаньня палітыкі. Адпаведна, дзяржструктуры перасталі ўважаць частку няўрадавых арганізацыяў за тых, з кім можна весьці размову. Таму ўмовы і раней не былі надта кепскімі, а цяпер сталі нават лепшымі ў параўнаньні зь іншымі гадамі, таму што зараз можна бяз моцнай выбарчай рыторыкі заняцца канкрэтнай справай, абмеркаваньнем канкрэтных праблемаў.

Калі грамадзкая арганізацыя ставіць за мэту зьмяненьне дзяржаўнай улады ў Беларусі, то, зразумела, у дзяржструктураў ня можа быць ніякай зацікаўленасьці ў гэтай НДА. А калі за мэту бярэцца паляпшэньне ўмоваў жыцьця людзей у сваёй мясцовасьці, то можна вельмі лёгка знайсьці агульныя кропкі для прыкладаньня намаганьняў. Гэта сацыяльныя праблемы, гэта праблемы жыцьця гораду, гэта праблемы эканомікі, праблемы павышэньня прывабнасьці рэгіёну для інвэстыцыяў - менавіта інвэстыцыяў, як ні дзіўна гучыць. Можна, вядома ж, сказаць: «Давайце зладзім эканамічны байкот, што заўгодна для гэтага будзем рабіць», - але калі жывыя грошы круцяцца ў Беларусі, то любая нармальная НДА мусіць думаць, як пакінуць іх у сваім горадзе. Бо гэта заробкі сыноў, жонак, бацькоў сябраў арганізацыі.

2. У мінулым годзе мы сталі аб’ектам невялічкай PR-атакі, калі ўвесь горад пераконваўся ў тым, што «Варута» страшнейшая за любую палітычную партыю ў горадзе. Але падчас гэтай атакі мы рэалізоўвалі праграму па падрыхтоўцы ўмоваў для прыняцьця ўцекачоў у Баранавічах. І ў гэтай праграме цалкам спакойна бралі ўдзел дзяржаўныя структуры.

У гэтым годзе справа зайшла далей: пры ўдзеле праграмы Альянсу Каўнтэрпарт абмяркоўваюцца праграмы па стварэньні гарадзкога дабрачыннага фонду. Перамовы вядуцца сур’ёзныя, і існуе вялікая зацікаўленасьць з боку дзяржорганаў на ўзроўні мэра. Таксама важна, што гарвыканкам ідзе насустрач ініцыятыве прадэмакратычных НДА па арганізацыі кірмашу грамадзкіх арганізацыяў гораду.

Вельмі вялікіх праблемаў падчас супрацоўніцтва зь дзяржавай не было. Калі ў мінулым годзе яны і былі, то з-за нашых уласных памылак, таму, што недзе мы не выконвалі заканадаўства. Напрыклад, пры праверцы, якую ажыцьцяўляла Баранавіцкае міжраённае ўпраўленьне дзяржкантролю, з кіраўніка арганізацыі быў спагнаны штраф за тое, што своечасова не былі пададзеныя дакументы на перарэгістрацыю пры зьмене юрыдычнага адрасу. Я не лічу, што дзяржкантроль меў нейкія палітычныя меркаваньні, калі прысуджаў такое спагнаньне, бо гэта сапраўды было парушэньне закону, за якое трэба адказваць.

3. На сёньняшні момант, я лічу, з боку грамадзкіх арганізацыяў. Прычым я ня маю на ўвазе ініцыятыву «дайце нам», я кажу пра тое, што арганізацыі павінны прапанаваць нейкі прадукт, паказаць, што яны могуць або што яны жадаюць зрабіць у горадзе. І пасьля на падставе гэтых прапановаў думаць разам з гарадзкой адміністрацыяй, чаго можна ў выніку дасягнуць. Бо мэрыя, чыноўнікі таксама хварэюць - у іх комплекс: «мы зараз усіх паклічам, усім загадаем». Новы фармат працы мусіць прапанаваць арганізацыя. І я лічу, што 90 адсоткаў посьпеху ці няўдачы ў супрацоўніцтве з органамі ўлады - віна ці заслуга грамадзкай арганізацыі. Натуральна, лягчэй заявіць: «Нам перашкодзілі ў нашай дзейнасьці». Значна цяжэй задаць сабе пытаньне: «Што мы зрабілі, каб дзейнічаць бесьперашкодна?»

# ПРАВА ЗАКАНАДАЎЧАЙ ІНІЦЫЯТЫВЫ

## ў тэорыі і на практыцы



Вольга Чадзеева,
юрыст ГА «Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў»

**Пытаньне пра ўдзел грамадзкіх аб'яднаньняў у заканатворчым працэсе на дадзены момант зьяўляецца надзвычай важным. Адказ на яго дазваляе зразумець меру свабоды любой грамадзянскай супольнасьці, узровень яе разьвіцьця.**

Што тычыцца праватворчых паўнамоцтваў грамадзкіх аб'яднаньняў, то па законе (арт. 44 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь») апошнія не зьяўляюцца суб'ектамі нарматворчай дзейнасьці, але яны могуць ініцыяваць нарматворчы працэс, калі зьвернуцца з прапановай па прыняцьці (выданьні) нарматыўнага прававога акту альбо калі ўнясуць яго праект у дзяржаўны орган (службовай асобе), які мае адпаведныя паўнамоцтвы, у парадку, устаноўленым заканадаўствам.

**Сэнс нарматворчай ініцыятывы - магчымасьць звароту ў заканадаўчы орган з прапановай прыняць, зьмяніць, дадаць альбо адмяніць, а таксама ўнесьці праект нарматыўнага акту. Суб'ектамі такіх зваротаў могуць быць прадпрыемствы, установы і арганізацыі незалежна ад формаў уласнасьці, а таксама грамадзяне, у тым ліку аб'яднаныя ў грамадзкія арганізацыі.**

Аналіз палажэньняў Закону Рэспублікі Беларусь «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь» дазваляе вызначыць наступную пасьлядоўнасьць дзеяньняў, неабходных для пачатку нарматворчага працэсу: зацікаўленыя асобы зьвяртаюцца з нарматворчай прапановай у дзяржаўны орган (да службовай асобы), у кампэтэнцыю якога ўваходзіць унясеньне праектаў нарматыўных актаў, прапановаў па іх прыняцьці, зьменах, дапаўненьнях, прыпыненьні іх дзеяньня, а таксама прыняцьце нарматыўных прававых актаў, г.зн. да суб'ектаў нарматворчай ініцыятывы. Далей упаўнаважаны орган пасьля разгляду прапановы ці праекту можа пачаць нарматворчую дзейнасьць, калі накіруе прапанову іншаму суб'екту, у чыю кампэтэнцыю ўваходзіць нарматворчасьць па дадзеным пытаньні. У адпаведнасьці з арт. 52 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь» нарматворчы орган па выніках разгляду праекту нарматыўнага акту можа:

- ухваліць праект і прыняць нарматыўны прававы акт ;
- адхіліць праект з указаньнем матываў і прычынаў;
- адкласьці прыняцьце праекту на вызначаны тэрмін;
- вярнуць праект на дапрацоўку з указаньнем сваіх заўвагаў і прапановаў.

У любым выпадку суб'ект нарматворчай ініцыятывы ня мае права вярнуць праватворчую прапанову без разгляду, таму што гэта будзе супярэчыць арт. 40 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь і практыцы дзейнасьці Канстытуцыйнага суду, які ўзбуджае вытворчасьць на аснове арт. 40 і п. 1 арт. 116 Канстытуцыі.

Трэба таксама адзначыць, што па законе праватворчасьць пачынаецца з плянаваньня нарматворчай дзейнасьці кампэтэнтнымі дзяржаўнымі органамі ўсіх узроўняў. Акрамя таго, ч. 5 арт. 41 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь» устанаўлівае, што пры распрацоўцы дзяржаўных праграмаў і плянаў падрыхтоўкі праектаў нарматыўных прававых актаў улічваюцца прапановы суб'ектаў права заканадаўчай ініцыятывы, іншых зацікаўленых органаў, навуковых установаў, а таксама прапановы грамадзянаў і грамадзкіх аб'яднаньняў.

**Зацікаўленыя суб'екты могуць зьвярнуцца з прапановай уключыць пытаньне ў плян распрацоўкі і прыняцьця пэўнага нарматыўнага акту.**

Зьвяртае на сябе ўвагу нявызначанасьць заканадаўства ў адносінах да матываў і прычы-

наў, па якіх можа быць адмоўлена ў ініцыяваньні нарматворчага працэсу. Гэта дае магчымасьць дзяржаўнаму органу (службовай асобе) дзейнічаць паводле свайго меркаваньня. Пры гэтым грамадзянін ці грамадзкая арганізацыя цалкам трапляе ў залежнасьць ад апаратных структураў. Ствараецца сытуацыя, пры якой орган (службовая асоба), да якога трапляе нарматворчая прапанова, самастойна вызначае яго лёс. Пры карыстаньні сваім палажэньнем ён можа нават не дапусьціць зварот да разгляду заканадаўчым органам, г. зн. фактычна спыніць тую ці іншую грамадзянскую ініцыятыву. Ня выключанае і зацягваньне справы.

Аднак складанасьць у тым, што зварот да суб'екта нарматворчай ініцыятывы па законе магчымы толькі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам. Пры гэтым раўназначная працэдура замацаваная толькі ў Законе Рэспублікі Беларусь «Аб зваротах грамадзянаў», спэцыяльная ж працэдура звароту з прапановай прыняць, адмяніць, зьмяніць альбо дапоўніць нарматыўны акт заканадаўствам не прадугледжаная.

**Такім чынам, магчымасьць таго, каб якаянебудзь грамадзянская ініцыятыва змагла знайсьці замацаваньне ў новых нарматыўных рашэньнях улады, фактычна ня можа зьдзяйсьняцца на практыцы.**

Асобна заканадаўца рэглямэнтуе права афіцыйнага ўнясеньня праекту закону ў заканадаўчы орган - права заканадаўчай ініцыятывы (Арт. 1 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь»).

Характэрнай асаблівасьцю заканадаўчай ініцыятывы, якая адрозьнівае яе ад іншых відаў праватворчых прапановаў, зьяўляецца тое, што яна можа быць заяўленая толькі суб'ектамі, вызначанымі Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь. Згодна з арт. 99 Канстытуцыі правам заканадаўчай ініцыятывы валодаюць Прэзыдэнт РБ, дэпутаты Палаты прадстаўнікоў, Савет Рэспублікі, Урад, а таксама грамадзяне, якія валодаюць выбарчым правам, у колькасьці ня менш за 50 тысячаў чалавек.

У выпадку, калі з заканадаўчай ініцыятывай выступаюць грамадзяне, яны ўтвараюць ініцыятыўную групу зь ліку асобаў, якія валодаюць выбарчым правам. Ініцыятыўная група і законапраект, які яна прапануе для ўнясеньня ў Палату прадстаўнікоў, рэгіструюцца Цэнтральнай камісіяй Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў. Ініцыятыўная група ўносіць законапраект у Палату прадстаўнікоў з улікам патрабаваньняў, якія ўстанаўлівае вышэйзгаданы закон. Ад імя ініцыятыўнай групы законапраект прадстаўляе яе старшыня альбо намесьнік старшыні.

Беларускае заканадаўства прадугледжвае магчымасьць, калі значная група грамадзянаў самастойна ўносіць на разгляд заканадаўчага органа прапановы з мэтай урэгуляваньня грамадзкіх адносінаў альбо ўнясеньня зьменаў у дзеючыя законы. У гэтым выпадку можна казаць пра зьяўленьне новага суб'екта нарматворчай ініцыятывы, які ствараецца для ўнясеньня канкрэтнага праекту нарматыўнага акту ў нарматворчы орган.

Безумоўна, такі падыход надае сэнс грамадзкім акцыям, фармуе ўстаноўку асобы на



# NGO ЯК АГЕНТ ЛЯБІЯВАНЬНЯ



**Традыцыйна паняцьці «лябізм», «лябіяваць» ужываюцца ў нашай мове двухсэнсоўна. Маўляў, гэтыя зьявы палягаюць на мяжы карупцыі і злоўжываньня службовым становішчам. Лябіста ўяўляюць як нейкага злачынцу, які крадзецца па калідорах выканкаму з кейсам, поўным грошай.**

**Сапраўды, і лябізм, і карупцыя - гэта спосабы выяўленьня сваіх інтарэсаў. Аднак сам па сабе лябізм не зьяўляецца чымсьці процізаконным - гэта папросту прасоўваньне сваіх уласных інтарэсаў у дзяржаўную палітыку з дапамогай дазволеных законам стратэгіяў і сродкаў. Суб'ект лябіяваньня рознымі шляхамі спрабуе давесьці дзяржаўным структурам, што яго ўласная зацікаўленасьць па нейкім пытаньні супадае з зацікаўленасьцю дзяржавы, і таму чыноўнікі мусяць прымаць рашэньне, улічваючы гэтую зацікаўленасьць. Лябіяваньне карэнным чынам адрозьніваецца ад хабарніцтва і карупцыі, калі дзяржаўныя інтарэсы скажаюцца і адкідаюцца на карысьць уласных інтарэсаў. Розьніца паміж гэтымі зьявамі палягае ў матывацыі і працэдуры.**

**А між тым лябізм ёсьць вельмі карысным для грамадзтва сродкам узаемадзеяньня ўраду і няўрадавага сэктару, што дазваляе апошняму карыстацца рэсурсамі дзяржаўнай улады дзеля агульнаграмадзкай карысьці.**

**У нас з савецкіх часоў распаўсюджаны эканамічны лябізм: ім займаюцца прыватныя бізнэсоўцы, кіраўнікі дзяржпрадпрыемстваў і органаў улады, прадстаўнікі мясцовых органаў самакіраваньня - паводле савецкага слэнгу, «талкачы».**

**Лябізм няўрадавых арганізацыяў у Беларусі значна менш распаўсюджаны. Пераважна гэта лябізм нэгатыўны - барацьба суп-**

ўдзел ва ўпраўленьні справамі сваёй дзяржавы, што служыць гарантыяй разьвіцьця прававой дзяржавы, якая дае магчымасьць асобнаму грамадзяніну, розным сацыяльным групам, грамадзянскай супольнасьці ў цэлым аказваць рэальнае ўзьдзеяньне на бягучыя падзеі.

**А галоўнае - такога характару ініцыятыва дазваляе ў працэсе заканатворчасьці ўлічваць рэальныя грамадзянскія патрэбы і інтарэсы канкрэтных грамадзянаў.**

Аднак што тычыцца самой працэдуры рэалізацыі грамадзянамі права на заканадаўчую ініцыятыву, то на сёньняшні дзень яна таксама заканадаўствам ніяк не ўрэгуляваная. Так, напрыклад, адсутнічаюць канкрэтныя прававыя нормы, якія рэгулююць:

- парадак стварэньня і рэгістрацыі ініцыятыўнай групы грамадзянаў з мэтай унясеньня законапраекту ў Палату прадстаўнікоў (форма заявы, неабходны пакет дакумэнтаў);
- працэдура збору і афармленьня подпісаў (хто засьведчвае сьпіс, у які тэрмін);
- тэрмін разгляду дакумэнтаў аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы і законапраекту ў Цэнтарвыбаркаме і інш.

Ілюстрацыяй дадзенай праблемы можа быць канкрэтны прыклад з практыкі.

Прадстаўнікамі грамадзкіх аб'яднаньняў, дзейнасьць якіх так ці інакш тычыцца сфэры дабрачыннасьці, была створаная грамадзкая працоўная група з мэтай распрацоўкі праекту закону «Аб дабрачыннай дзейнасьці», які быў бы здольны прапанаваць мадэль заканадаўчага рэгуляваньня, што адпавядала б сапраўдным патрабаваньням «трэцяга сэктару» і сучасным міжнародным стандартам. Але адсутнасьць канкрэтных прававых нормаў, якія рэгулююць грамадзянскія адносіны, істотна замаруджвала прасоўваньне законапраекту.

У сувязі з гэтым ГА «Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў» зьвярнулася ў Цэнтарвыбаркам (ЦВК) з просьбай растлумачыць шэраг пытаньняў, якія тычацца парадку рэгістрацыі ініцыятыўнай групы і законапраекту. Пры адказе на нашае пытаньне ЦВК не правяла неабходную працу па зборы інфармацыі, якая нас цікавіла, ня выкарыстала дадзеныя ёй законам паўнамоцтвы на зварот да суб'ектаў, што валодаюць правам заканадаўчай ініцыятывы, па тлумачэньні нормаў права. ЦВК вырашыла проста адхіліцца ад тлумачэньняў, даючы спасылку на адсутнасьць у РБ спэцыяльнага заканадаўства, якое рэгулюе парадак рэалізацыі права заканадаўчай ініцыятывы грамадзянамі РБ. Такія дзеяньні парушылі ч.2 арт. 40 Канстытуцыі РБ, якая ўстанаўлівае, што дзяржаўныя органы, а таксама службовыя асобы абавязаныя разгледзіць любы зварот і даць адказ.

Акрамя гэтага, адсутнасьць у прававой сыстэме дзяржавы нормаў, якія рэгулююць тыя ці іншыя грамадзянскія адносіны, безумоўна, не спыняе іх. Таксама неабходнасьць рэалізацыі права грамадзянаў на заканадаўчую ініцыятыву абумоўлена існасьцю і зьместам Канстытуцыі РБ, прынцыпамі і нормамі міжнароднага права. На неабходнасьць больш поўнай абароны канстытуцыйных правоў грамадзянаў РБ шляхам своечасовага абнаўленьня дзеючага заканадаўства і прыняцьця закону аб парадку

## NGO ЯК АГЕНТ ЛЯБІЯВАНЬНЯ

**раць прыняцьця пэўных дзяржаўных рашэньняў. На гэтым фронце NGO амаль ня могуць пахваліцца (апошні факт - адхіленьне Саветам Рэспублікі Закону аб веравызнаньні). Магчыма, слабасьць нашых NGO, іх фантомнасьць - прычына нераспаўсюджанасьці пазытыўнага лябізму.**

**Напрыклад, у ЗША, радзіме лябізму (як тэрміну, а не як зьявы, паколькі зьява існуе спрадвеку), НДА нават больш актыўныя лябісты, чым карпарацыі: апошнія лічаць эфэктыўным дзейнічаць праз грамадзкі сэктар. Напрыклад, кампаніі па вытворчасьці зброі спансуюць Нацыянальную стралковую асацыяцыю (некалькі мільёнаў сябраў), аднаго з найбольш уплывовых лябістаў, які адчыняе нагамі дзьверы шмат якіх кангрэсмэнаў. Толькі з 1980 па 2000 год колькасьць лябістаў (афіцыйна зарэгістраваных групаў ціску) павялічылася ў паўтара разы - з 14,7 тысяч да 23 тысяч, сярод якіх толькі 3,7 тысяч - групы бізнэсу. Пры гэтым толькі 20% ад гэтых групаў зарэгістраваныя ў якасьці адмысловых лябісцкіх бюро, што «вядуць працу» з палітыкамі на нацыянальным узроўні. Найбольш уплывовыя групы ціску - Асацыяцыя пэнсіянэраў (40 мільёнаў сябраў), Фэрмэрскае бюро, Нацыянальная адукацыйная асацыяцыя, Рада амэрыканцаў сталага ўзросту, Міжнароднае братэрства кіроўцаў (кожная - каля 2 мільёнаў сябраў).**

**Уявіце сабе, што будзе, калі кожны зь сябраў гэтых асацыяцыяў накіруе свайму кангрэсмэну ліст з пэўнымі патрабаваньнямі! Таму прадстаўнікі гэтых кантораў - шаноўныя госьці ў камітэтах Кангрэсу, зь імі раяцца літаральна па любым пытаньні, якое можа іх закрануць. Але лябісты ведаюць сваю моц і часам гандлююць гэтым рэсурсам, выказваючы свае патрабаваньні па законах, што наўпрост іх ня тычацца.**

**Лябіяваньне - гэта больш актыўны сродак узьдзеяньня на палітыку, чымсьці выбары, паколькі, у адрозьненьні ад электарату, лябіст уплывае на палітычны працэс пэрманэнтна, адначасова ціснучы на розныя органы дзяржаўнай улады. Лябізм - гэта важны сродак дэмакратыі і збалансаваньня розных інтарэсаў у грамадзтве.**

рэалізацыі грамадзянамі права на заканадаўчую ініцыятыву ўказвае і Канстытуцыйны суд РБ (рашэньне N Р-92/2000 ад 31.01.2000 г.).

Зыходзячы са сказанага вышэй і кіруючыся палажэньнямі дзеючага заканадаўства, якія тычацца права заканадаўчай ініцыятывы грамадзянаў (арт. 99 Канстытуцыі РБ, арт. 46 Закону РБ «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь»), прадстаўнікі грамадзянскіх аб'яднаньняў зьвярнуліся ў ЦВК з просьбай зарэгістраваць ініцыятыўную групу па рэалізацыі права заканадаўчай ініцыятывы грамадзянаў і растлумачыць мэханізм далейшых дзеяньняў, выкананьне якіх неабходнае для рэгістрацыі законапраекту «Аб дабрачыннай дзейнасьці».

Пастановай ЦВК ад 10.07.2001 гэтым грамадзянам было адмоўлена ў рэгістрацыі. У адмове было сказана, што «ініцыятыўнай групай ня выкананы шэраг патрабаваньняў, якія ўстаноўленыя ў законах РБ «Аб нарматыўных прававых актах Рэспублікі Беларусь» і «Аб Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў». Далей прыводзіліся палажэньні ўказаных вышэй законаў, якія ўстанаўліваюць, што ЦВК рэгіструе ініцыятыўную групу і законапраект, які прапаноўваецца ёю для ўнясеньня ў Палату прадстаўнікоў пасьля выкананьня патрабаваньняў, усталяваных законам (арт. 46, ч. 7 і 8 і арт. 4 адпаведна).




Аднак, на наш погляд, з сутнасьці ўказаных артыкулаў не вынікае неабходнасьць адначасовай падачы заявы аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы грамадзянаў і заявы аб рэгістрацыі законапраекту. А ўнясеньне законапраекту ў Палату прадстаўнікоў увогуле магчымае толькі зарэгістраванай у ЦВК групай, паколькі, з пункту гледжаньня закону, група грамадзянаў робіцца суб'ектам права заканадаўчай ініцыятывы і можа зьдзяйсьняць юрыдычна значныя дзеяньні толькі з моманту рэгістрацыі. Больш за тое, дзейнасьць незарэгістраваных аб'яднаньняў на тэрыторыі РБ забараняецца Дэкрэтам Прэзыдэнта РБ N2.

Акрамя гэтага грамадзяне, падаючы заяву аб рэгістрацыі ініцыятыўнай групы, зьвярталіся да кампэтэнтнага дзяржаўнага органа з просьбай адпаведным чынам аформіць ужо зьдзейсьнены юрыдычны факт - іх добраахвотнае аб'яднаньне ў працоўную групу з мэтай рэалізаваць сваё прамое канстытуцыйнае права на заканадаўчую ініцыятыву. Дарэчы, магчымасьць такога аб'яднаньня замацаваная арт. 20 Усеагульнай дэклярацыі правоў чалавека і арт. 36 Канстытуцыі РБ - «Кожны мае права на свабоду аб'яднаньняў». Аналягічныя палажэньні ёсьць таксама ў арт. 22 Пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах 1966г., згодна зь якім «кожны чалавек мае права на свабоду асацыяцыі зь іншымі, уключаючы права ствараць прафсаюзы і ўступаць у іх для абароны сваіх інтарэсаў. Карыстаньне гэтым правам ня можа абмяжоўвацца, акрамя тых выпадкаў, якія прадугледжваюцца законам і якія неабходныя ў дэмакратычным грамадстве ў інтарэсах дзяржаўнай альбо грамадзкай бясьпекі, грамадзкага парадку, аховы здароўя і маральнасьці насельніцтва альбо абароны правоў і свабодаў іншых асобаў».

Канстытуцыя РБ (ч.2 і 3 арт. 59) устанаўлівае: «Дзяржаўныя органы, службовыя і іншыя асобы, якім даверана выкананьне дзяржаўных функцыяў, абавязаныя ў межах сваёй кампэтэнцыі прымаць неабходныя меры для зьдзяйсьненьня і абароны правоў і свабодаў асобы.

Гэтыя органы і асобы нясуць адказнасьць за дзеяньні, якія парушаюць правы і свабоды асобы».

Аднак сёньняшняя практыка ідзе якраз па шляху абмежаваньня праваздольнасьці грамадзянаў у адносінах, якія ўзьнікаюць у сувязі з рэалізацыяй права на свабоду аб'яднаньняў і заканадаўчую ініцыятыву, што парушае прыведзеныя вышэй нормы нацыянальнага і міжнароднага права.

Акрамя гэтага, у дадзеным выпадку мае месца мэтанакіраваная перашкода стварэньню прававога прэцэдэнта, здольнага запоўніць прабелы ў дзеючым заканадаўстве.

# Вольга Тарасенка: *«галоўнае - разумець, што ты кантактуеш не зь дзяржструктурай, а з чалавекам»*

Аляксей Яцукевіч

Беларускія дактары кажуць, што хутка вірусныя гепатыты па сваім уплыве на здароўе нацыі будуць роўныя з наступствамі Чарнобылю. Каля 2 адсоткаў насельніцтва рэспублікі заражаныя вірусным гепатытам С і яшчэ каля 2 % - вірусным гепатытам В. Інфіцыраваных СНІДам у Беларусі - 3 тысячы чалавек, але дзяржавай прынята спэцыяльная праграма па барацьбе з гэтым захворваньнем; інфіцыраваных гепатытам В, С, D і іншымі, яшчэ малавывучанымі формамі гепатыту, нашмат больш, але дзяржавай прымаюцца толькі асобныя, зусім недастатковыя меры. А хвароба ня менш небясьпечная - яе хранічныя формы разбураюць пячонку. У Менску 50 дзяцей з цырозам або ракам пячонкі. Пяцёх ужо пахавалі.

Адна даведзеная да адчаю маці здольная на ўсё дзеля ўратаваньня свайго дзіцяці. Калі такіх маці дзьве, яны могуць вельмі шмат. Напачатку сем'яў-сябраў «Здароўе - дзецям» было 75, зараз іх 140. Арганізацыя мае свае філіі ў Гомелі, Гародні, Баранавічах і Барысаве.

Яе місія - папярэджаньне далейшага распаўсюджваньня вірусных гепатытаў, супрацоўніцтва ў аказаньні мэдычнай, псыхалягічнай, сацыялягічнай і інфармацыйнай дапамогі хворым дзецям і іх сем'ям. «Здароўе - дзецям» прыцягвае ўвагу мэдспэцыялістаў, грамадзкасьці, органаў дзяржаўнай улады да праблемаў дзяцей, хворых на вірусныя гепатыты і цырозы пячонкі, да пытаньняў прафіляктыкі, лячэньня гэтых захворваньняў і мэдыка-сацыяльнай рэабілітацыі хворых дзяцей, спрые аказаньню мэдычнай, сацыяльнай, псыхалягічнай і іншай дапамогі сябрам аб'яднаньня.

Працуюць у арганізацыі збольшага жанчыны. Гэта наўпрост зьвязана з дэмаграфічным складам сем'яў, дзе ёсьць хворыя на гепатыт ці цыроз дзеці: бацька ў такіх сем'ях - самая вялікая рэдкасьць і раскоша. Цяжкасьці часта забіваюць у чалавеку мужчыну. Апынуўшыся сам-насам зь вялікай бядой, бацька часьцей за ўсё зьнікае зь сям'і, і добра, калі плаціць дзіцёнку алімэнты. А жанчыны ня ўмеюць апускаць рукі.



Сябры арганізацыі «Здароўе - дзецям!»

Кіруе ГА «Здароўе - дзецям» таксама жанчына. Вольга Тарасенка - абаяльная, усьмешлівая жанчына - вечны рухавік арганізацыі. Сама ніколі не спыняецца і не дае спыніцца другім: з 1996 году «Здароўе - дзецям» дамаглася бясплатнага лячэньня дзяцей прэпаратамі інтэрфэрону, па ініцыятыве арганізацыі ў 9-ым аддзяленьні ДІКБ была ўведзеная штатная адзінка пэдагога - хворыя на гепатыт дзеці знаходзяцца тут вельмі шмат часу. Зь лёгкай рукі кіраўніка арганізацыі на базе ДІКБ быў адкрыты Рэспубліканскі дзіцячы гепаталягічны цэнтар, і сёньня дзеці зь любога кутка краіны могуць атрымаць там дапамогу.

Сьпіс таго, што завецца «добрымі справамі арганізацыі», можна працягваць бясконца, але спн. Тарасенка ўпэўненая, што бязь цеснага супрацоўніцтва зь дзяржаўнымі структурамі

## даведка

**Гепатыт - біч беларускай рэчаіснасьці. Ніводны з нас не застрахаваны ад таго, што захварэе. Чалавек можа сам ня ведаць, што ён хронік, і перадаваць вірус рознымі шляхамі. Ніхто дакладна гэтых шляхоў ня ведае, і працэс ідзе няспынна. Лічыцца, што вірус перадаецца праз кроў і палавым шляхам, але ён прысутнічае і ў мачы, і ў сьліне хворага.**

**Трэцяе месца па рызыцы пасьля наркаманіі і зьмены палавых партнэраў займае стаматалёгія і іншыя мэдычныя паслугі.**

**Рэкорд лячэньня дзіцяці ад гепатыту бяз выхаду з бальніцы - 18 месяцаў. Кошт курсу лячэньня - 3-5 тысяч даляраў.**

**Як правіла, дыягназ «гепатыт» устанаўліваецца ў Дзіцячай інфэкцыйнай клінічнай бальніцы, што на вул. Якубоўскага. Там і сустракаюцца маці хворых дзяцей. Там жа ў 1995 годзе бацькі хворых дзетак аб'ядналіся ў арганізацыю «Здароўе - дзецям».**

«Здароўе - дзецям» ня вырашыла б і паловы праблемаў.

- Калі размаўляеш з чыноўнікам, галоўнае - разумець, што ты кантактуеш не зь дзяржструктурай, а з чалавекам, у якога таксама ёсьць праблемы, які думае і адчувае, сьмяецца і плача, які мае дзяцей і ведае, што яны таксама могуць захварэць або сустрэць іншыя цяжкасьці ў жыцьці.

На сёньня самае плённае супрацоўніцтва ў арганізацыі ўсталявалася з ДІКБ: тут «Здароўе - дзецям» арэндуе памяшканьне пад офіс на ільготных умовах, кіраўніцтва ўстановы ідзе насустрач па пытаньнях абсьледаваньняў, шпіталізацыі. У сваю чаргу арганізацыя зрабіла на спонсарскія сродкі рамонт у дзявятым аддзяленьні, дзе лечацца дзеці і на базе якога працуе Рэспубліканскі гепаталягічны цэнтар, купіла туды мэблю.

- З намі супрацоўнічалі дактары Гомеля, Берасьця, Воршы, Магілёва, Ліды, Гародні, - распавядае спн. Тарасенка. - Па праекце, фінансаваным праграмай «Партнэрства Альянсу «Counterpart» (ЗША), у гэтых гарадах па выходных былі арганізаваныя кансультацыі прафэсуры катэдры інфэкцыйных захворваньняў БелМАПА. Было выяўлена шмат хворых на гепатыты дзяцей у рэгіёнах. Напрыклад, у Берасьці з 28 хворых пры абсьледаваньні ў ДІКБ у 16-ці выяўлены цыроз пячонкі. Да гэтага часу ім шмат разоў выстаўлялі іншы дыягназ - вострая рэсьпіраторная вірусная інфэкцыя.

Фрунзэнская раённая адміністрацыя ў адказ на наш зварот выступіла зь ініцыятывай распрацаваць сумесную праграму. Па гэтай праграме сем'і атрымліваюць матэрыяльную дапамогу да пачатку навучальнага году, на набыцьцё гародніны ўвосень. Сям'я Багданавых, у якой двое хворых дзяцей жылі ў інтэрнаце, атрымала трохпакаёвую кватэру. Сям'я Сакун (трое хворых маленькіх дзяцей), перасяленцы з Чарнобыльскай зоны, мелі вялікую запазычанасьць па квартплаце - яе пагасілі, па нашым хадайніцтве былі пастаўленыя тэлефоны, зроблены рамонт у кватэрах.

На базе Фрунзэнскай раённай адміністрацыі па праграме «Партнэрства» мы праводзілі трэнінг «Узаемаадносіны з чыноўнікамі ў вырашэньні праблемаў». У ім бралі ўдзел сацыяльныя службы, чыноўнікі адміністрацыі, падключаліся сем'і, якія маюць дзяцей-інвалідаў зь іншымі захворваньнямі.

Такі ж самы трэнінг правялі ў Гомелі, Баранавічах і Барысаве. Нам паўсюль дапамагалі дзяржструктуры (памяшканьне, збор людзей і г.д.).

**- А ці здаралася, што Вам паказвалі на дзьверы?**

- Было раз. Па нашай замове бэльгійская фірма паставіла ў Беларусь вакцыну «Эджэрыкс-В» на суму $18000, разьлічаную на 600 чалавек, па праекце «Будзьце здаровыя» - да гэтага часу такое не магло зрабіць нават Міністэрства... Вакцыну прывезьлі нам праз 2 тыдні пасьля замовы, а Міністэрства аховы здароўя пачало цяганіну. Адзін чыноўнік сказаў мне літаральна наступнае: «Мадам, Вы сунеце нос не ў сваю справу!» Але начальнік Галоўнага ўпраўленьня меддапамогі насельніцтву сп. Цыбік адразу ўсё зразумеў - пытаньне было вырашанае за 3 гадзіны.

**- Як адбілася прыняцьце Дэкрэту № 8 на актыўнасьці арганізацыі?**

- Магчыма, Дэкрэт дадаў папяровай цяганіны, але, зь іншага боку, мне вядомыя выпадкі, калі ўзьнікаюць не зусім прыгожыя сытуацыі з гуманітарнай дапамогай. А мы? Мы ня так часта яе атрымліваем.

**- Для Вас і Вашай арганізацыі прасьцей працаваць зь дзяржавай на лякальным ці нацыянальным узроўні?**

- Лепш пачынаць зь мясцовага ўзроўню. Калі не атрымліваецца, ісьці вышэй, не баяцца цяжкасьцяў і, галоўнае, не спыняцца.

**- Калі б Вашую арганізацыю запрасілі ў кансультацыйны савет пры Мінздраве, ці былі б Вы гатовыя лябіяваць інтарэсы сваёй мэтавай групы?**

- Вядома ж. Я лічу, гэта неабходна.

**- На Ваш погляд, з чыйго боку павінна зыходзіць ініцыятыва супрацоўніцтва, каб яно было плённым, - з боку дзяржавы ці з боку арганізацыі?**

- Безумоўна, з боку арганізацыі. Арганізацыя аб'ядноўвае людзей з аднолькавымі праблемамі. І ніхто лепш за іх тыя праблемы ня ведае. Дзіця ня плача - ніхто не спачувае.

# «дзеці» Чарнобылю вырасьлі з кароткіх нагавіцаў



Ірына Віданава,
**міжнародны каардынатар Выканаўчага Бюро, каардынатар праекту «Партнэрства бязь межаў»**

У чэрвені 2002 быў абвешчаны доўгачаканы конкурс праектаў у межах Праграмы падтрымкі «Беларусь 2002» германскага фэдэральнага міністэрства эканамічнага супрацоўніцтва і разьвіцьця. Гаворка пра неабходнасьць такой праграмы для Беларусі вялася ў нямецкіх грамадзкіх і ўрадавых колах цягам апошніх некалькіх год. Фармат і зьмест праграмы абмяркоўваліся на шматлікіх нямецка-беларускіх сустрэчах. Нарэшце, праграма была зацьверджаная нямецкім урадам і даволі хуткімі тэмпамі пачала ўвасабляцца ў жыцьцё.

#### НА НОВЫ ЎЗРОВЕНЬ

Асноўная мэта праграмы - падтрымка беларускай грамадзянскай супольнасьці, ініцыятывы беларускіх грамадзянаў, а таксама нямецка-беларускіх кантактаў на мікра- і мэгаўзроўнях, аднак не выходзячы на ўзровень міжурадавага супрацоўніцтва. Галоўнымі ўдзельнікамі праграмы сталі грамадзкія структуры, супрацоўніцтва зь якімі, на думку нямецкіх арганізатараў праграмы, зьяўляецца больш эфэктыўным і плённым у параўнаньні зь нямецка-беларускімі ўрадавымі суадносінамі.

Задачамі праграмы «Беларусь 2002» былі абвешчаныя стабілізацыя і стымуляваньне новых каапэрацыйных праектаў мадэльнага характару з пэрспэктыўным значэньнем для Беларусі ў трансфармацыйны пэрыяд, паляпшэньне нямецка-беларускіх каапэрацыйных адносінаў і пашырэньне іх спэктру, сумяшчальнасьць пэўных грамадзкіх сэгмэнтаў у Беларусі са стандартамі Эўразьвязу, а таксама аказаньне падтрымкі грамадзянскаму дыялёгу з разнастайнымі дзяржаўнымі органамі па пытаньнях прававых рамкавых умоваў праектаў па грамадзянскай супольнасьці наагул і праектаў з замежным удзелам у прыватнасьці.

Як бачна, у пастаўленых задачах сапраўды адлюстраваныя найбольш набалелыя праблемы беларускай грамадзянскай супольнасьці і нямецка-беларускай каапэрацыі. Адсутнасьць у Беларусі адпаведнай міжнародным стандартам заканадаўчай базы па рэгуляваньні дзейнасьці гуманітарнага характару і дзейнасьці грамадзкіх арганізацыяў, неадэкватнае стаўленьне ўладаў да грамадзянскай ініцыятывы, практычная міжнародная ізаляцыя краіны - усё гэта, безумоўна, перашкаджае нармальнаму разьвіцьцю грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі і тармазіць трансфармацыйныя працэсы.

#### ФЭНОМЭН «ДЗЯЦЕЙ ЧАРНОБЫЛЮ»

Гэтыя фактары запавольваюць разьвіцьцё двухбаковых адносінаў паміж Беларусьсю і Нямеччынай, асабліва ў галіне пераадоленьня наступстваў Чарнобыльскай катастрофы. Супрацоўніцтва паміж беларускімі і нямецкімі групамі ў гэтай сфэры працягваецца больш за 10 год. Гуманітарная і фінансавая дапамога нямецкіх партнэраў, падтрымка аздараўленчых праграмаў для дзяцей, навучаньне грамадзкіх актывістаў, самаадданая праца беларускіх і нямецкіх валянтэраў дазволілі зьняць вастрыню чарнобыльскіх праблемаў для Беларусі. Аднак за мінулыя гады зьмест і формы дзейнасьці чарнобыльскіх ініцыятываў (як беларускіх, так і нямецкіх) практычна не зьмяняліся, у той час як грамадзянская супольнасьць і ў нас, і ў Нямеччыне за гэты пэрыяд значна ўдасканаліла формы і спосабы працы.

У сувязі з гэтым паўстала яшчэ адна, ня менш вострая праблема: Чарнобыльскім групам неабходныя дадатковыя веды і навыкі ў галіне праектнага мэнэджмэнту, фандрэйзынгу, прадстаўленьня і лябіяваньня сваіх інтарэсаў на мясцовым і нацыянальным узроўнях, каб эфэктыўна працаваць у існуючай сытуацыі. За 10-15 год непазнавальна зьмяніліся ня толькі зьнешнія ўмовы працы чарнобыльскіх групаў, але і іх кліенты (атрымальнікі гуманітарнай дапамогі, дзеці і моладзь), самі актывісты чарнобыльскіх ініцыятываў. «Дзеці Чарнобылю» вырасьлі і зрабіліся дарослымі людзьмі, перад якімі паўстаюць новыя, вострыя праблемы сацыяльна-эканамічнага характару. Пасыўнасьць нарадзіла новы фэномэн - спажывецкай мэнтальнасьці: «дзеці» ня ў стане вырашаць свае праблемы, па савецкай традыцыі арыентуючыся на дзяржаву ці на якую іншую дапамогу.

У апошнія гады таксама назіраецца зьмяншэньне актыўнасьці і зь нямецкага боку. Сярэдні ўзрост нямецкіх актывістаў сёньня набліжаецца да 70 гадоў. Шмат хто стаміўся і па-

стартаваў праект «Партнэрства бязь межаў»

ціху адыходзіць ад справаў, тым больш што з кожным годам працаваць зь Беларусьсю робіцца ўсё больш складана. Маладое ж пакаленьне немцаў больш заклапочана сваімі ўласнымі праблемамі і ў меншай ступені цікавіцца наступствамі Чарнобылю, а таму практычна ня ўдзельнічае ў чарнобыльскіх ініцыятывах. Такім чынам, чарнобыльскія групы ў абедзьвюх краінах вымушаныя шукаць новыя формы працы і шляхі каапэрацыі, а таксама задумвацца пра неабходнасьць зьмены рамкавых умоваў, што непасрэдна зьвязана з разьвіцьцём грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі ў цэлым.

Упершыню вынікі і досьвед супрацоўніцтва паміж нямецкімі і беларускімі чарнобыльскімі групамі былі прааналізаваныя ў 1999 г. падчас сустрэчы партнэраў у Вілейцы, дзе разьмяшчаецца аздараўляльны і рэабілітацыйны цэнтар «Надзея XXI стагодзьдзя» для дзяцей і падлеткаў з забруджаных раёнаў Беларусі. Удзельнікі сустрэчы прыйшлі да высновы, што беларускія і нямецкія партнэры ў стане перайсьці на якасна новы ўзровень узаемаадносінаў - ад прамой гуманітарнай дапамогі да партнэрскага супрацоўніцтва. У гэтым кірунку цягам апошніх трох гадоў вядзецца пошук дадатковых формаў каапэрацыі паміж чарнобыльскімі групамі як унутры Беларусі, так і паміж дзьвюма краінамі.

### «ПАРТНЭРСТВА БЯЗЬ МЕЖАЎ»

Супольны праект Асамблеі і Бюро адукацыі дарослых Аб'яднаньня эвангелічных цэнтраў зямлі Гессэн-Нассау «Партнэрства бязь межаў», падтрыманы ў рамках праграмы «Беларусь 2002», зьяўляецца своеасаблівым вынікам гэтага пошуку. У межах праекту ў верасьні 2002 г. адбудуцца два сэмінары для чарнобыльскіх і сацыяльных ініцыятываў Берасьцейскай і Гомельскай вобласьцяў, якія маюць на мэце пазнаёміць іх паміж сабой, азнаёміць удзельнікаў з асновамі праектнай працы і фандрэйзынгу, абмеркаваць наяўны досьвед супрацоўніцтва зь нямецкім бокам і выпрацаваць прапановы па разьвіцьці беларуска-нямецкага супрацоўніцтва для існуючых і патэнцыйных партнэраў з ФРГ. Вялікая ўвага на сэмінарах будзе нададзеная аналізу беларускага заканадаўства, які рэглямэнтуе дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў і ініцыятыўных групаў, з акцэнтам на пытаньні рэгістрацыі грамадзкіх аб'яднаньняў, атрыманьня і разьмеркаваньня гуманітарнай дапамогі, рэалізацыі міжнародных праектаў і г.д.

Чарнобыльскія групы з прычыны характару сваёй дзейнасьці вымушаныя працаваць у кантакце зь дзяржаўнымі органамі, і таму ў параўнаньні зь іншымі грамадзкімі арганізацыямі маюць сталыя адносіны зь мясцовымі чыноўнікамі. Часта гэты досьвед зьяўляецца station ўчым і можа быць узорам для іншых сэгмэнтаў «трэцяга сэктару». Аднак у той жа час менавіта па чарнобыльскіх ініцыятывах у першую чаргу ўдарыў Дэкрэт №8 і іншыя падзаконныя акты, якія рэглямэнтуюць грамадзкую дзейнасьць, асабліва ў сацыяльнай і гуманітарнай сфэрах. Гэтыя акты на нейкі час папросту паралізавалі дзейнасьць шматлікіх гуманітарных ініцыятываў і прывялі да зьнікненьня некаторых зь іх, а няведаньне сваіх правоў, адсутнасьць камунікацыі і адзінай пазыцыі не дазваляюць чарнобыльскім групам выступаць з актыўным грамадзянскім пратэстам і заканадаўчай ініцыятывай. Сэмінары, на якія, дарэчы, запрашаюцца і прадстаўнікі адпаведных мясцовых органаў улады, будуць садзейнічаць павышэньню прафэсійнага ўзроўню чарнобыльскіх групаў і іх актывізацыі па прадстаўленьні і лябіяваньні сваіх інтарэсаў праз азнаямленьне ўдзельнікаў ня толькі зь беларускім заканадаўствам, але і зь міжнароднымі прававымі нормамі і практыкай.

Па выніках сэмінараў будзе падрыхтаваная і выдадзеная брашура на беларускай і нямецкай мовах, у якой будзе зьмешчаны агляд беларускага заканадаўства, што тычыцца дзейнасьці НА і рэалізацыі міжнародных праектаў, а таксама прапановы па разьвіцьці супрацоўніцтва ад беларускіх і нямецкіх партнэраў. Гэтая брашура, як і вынікі праекту, будзе прадстаўленая на штогадовай канфэрэнцыі прадстаўнікоў Чарнобыльскіх групаў зямлі Гессэн-Нассау, якая пройдзе ў лістападзе 2002 г. у Дармштаце (Германія).

«Партнэрства бязь межаў» разглядаецца намі як пілётны праект, які дапаможа ацаніць на практыцы правільнасьць выбранага накірунку па разьвіцьці супрацоўніцтва паміж беларускімі і нямецкімі грамадзкімі ініцыятывамі, а таксама вынесьці праблемныя моманты дзеючага заканадаўства і практыкі на грамадзкае абмеркаваньне.

# Якімі нас бачаць звычайныя людзі?



Яўгенія Місілевіч,
**Выканаўчае бюро Асамблеі**

У рамках кампаніі “Зробім лепш!” праводзілася сацыялягічнае дасьледаваньне. Зараз вы маеце магчымасьць пазнаёміцца зь яго вынікамі.

### ХТО ПРАВОДЗІЎ ДАСЬЛЕДАВАНЬНЕ

Арганізацыі-ўдзельнікі кампаніі: Жодзінская філія ТБМ (у табліцы - Жодзіна), Менская арганізацыя “Маладыя сацыял-дэмакраты” (Менск-1), ГА “Маладая Грамада” (Менск-2), ГА “Подснежник” (Мачулішчы), Берасьцейскі “Малады Фронт” (Берасьце).

Праца ладзілася наступным чынам. Выканаўчае бюро ініцыявала апытаньне, а таксама прапанавала мэтадычную падтрымку: быў распрацаваны базісны варыянт анкеты, была ажыцьцяўлёная карэктыроўка яго ў адпаведнасьці з пажаданьнямі арганізацыяў, быў выпрацаваны пакет рэкамэндацыяў па выбарцы і канчатковым падліку дадзеных. Арганізацыям-ўдзельнікам давялося апытваць насельніцтва і апрацоўваць сабраныя анкеты.

### ШТО І ЯК ДАСЬЛЕДАВАЛАСЯ

Першапачаткова дасьледаваньне мела выключна практычную мэту і цалкам упісвалася ў рамкі кампаніі: зь яго дапамогай плянавалася шукаць новыя ідэі для правядзеньня акцыяў, меркавалася высьветліць, які тып акцыі ў якой ступені будзе падтрыманы насельніцтвам. Гэта вызначыла склад першага блёку анкеты. У яго ўвайшлі пытаньні: “Якія праблемы вы лічыце найбольш актуальнымі для свайго гораду?”, “Што можна зрабіць па кожнай праблеме, каб выправіць становішча?” і “Ў якім мерапрыемстве, скіраваным на тое, каб выправіць становішча, вы з большай ахвотай возьмеце ўдзел?”

Першыя два пытаньні былі адкрытыя, рэспандэнтам прапанавалася самім сфармуляваць да пяці варыянтаў адказу. Трэцяе пытаньне прапаноўвала рэспандэнту шэраг альтэрнатываў, якія павінны былі сфармуляваць арганізатары акцыяў у залежнасьці ад сваіх плянаў.

Агульная тактыка размовы з рэспандэнтам была скіраваная на тое, каб вымусіць яго прыняць на сябе ролю чалавека, заклапочанага мясцовымі праблемамі, вынаходлівага ў іх пошуку і актыўнага ў вырашэньні (“патрыёта свайго двара” ці “пабытовага бурчуна” - у залежнасьці ад таго, якая пазыцыя прэвалюе ў жыцьці).

Другі сэнсавы блёк анкеты быў прысьвечаны вывучэньню стану масавай грамадзка-палітычнай сьвядомасьці (у межах пілётнага дасьледаваньня). Канкрэтна вывучалася, у якой ступені вядомыя (пазнавальныя для звычайнага чалавека) тэрміны “трэці сэктар”, “грамадзкі сэктар”, як яны звычайна расшыфроўваюцца пэрспэктыўнымі рэспандэнтамі, якія назвы асацыююца з выразам “грамадзкая арганізацыя”. Задавалася пытаньне: “Чаму, на Вашую думку, людзі ўступаюць у грамадзкія арганізацыі?” Аналіз адказаў на апошняе пытаньне дазволіў зрабіць вывады пра агульнае стаўленьне да грамадзкай ці палітычнай актыўнасьці. Гэты блёк быў уведзены распрацоўшчыкамі ў анкету са згоды арганізацыяў, але мы разумелі, што пытаньні маюць слабае дачыненьне да плянаваньня акцыяў, таму надалі разьдзелу статус дадатковага (неабавязковага для адказу) і пазьбягалі перагружаць яго пытаньнямі.

Трэці блёк стандартнай анкеты - “дэмаграфічка” - уяўляў сабой шэраг пытаньняў, якія мелі за мэту зафіксаваць сацыяльна-дэмаграфічны статус рэспандэнта па наступных парамэтрах: узрост, пол, адукацыя.

Акрамя таго, некаторыя арганізацыі пажадалі сабраць інфармацыю звыш стандартнай анкеты. Кароткае апісаньне дасьледаваных такім чынам праблемаў зьмяшчаецца тут дзеля таго, каб усе зацікаўленыя маглі папрасіць зьвесткі ў арганізацыяў-уладальнікаў.

Амаль усімі арганізацыямі зьбіралася інфармацыя, якая тычылася іх вядомасьці сярод мэтавай аўдыторыі, а таксама вядомасьці арганізацыяў-“канкурэнтаў”. Некаторыя арганізацыі зьбіралі інфармацыю пад сваю канкрэтную кампанію (Жодзінскае ТБМ - абарона беларускамоўнага навучаньня, менская “Маладая Грамада” - вывучэньне стаўленьня моладзі да праблемаў наркаманіі ў Беларусі).

| Горад | Агульная колькасьць апытаных | Пол | | Адукацыя | | | Узрост | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Ж | М | сярэдняя | сярэдняя спэц. | вышэйшая | 15-25 | 26-35 | 36-45 | 46-55 | >56 |
| Менск-1 | 274 | 43,1% | 56,9% | 24,45% | 31,02% | 41,97% | 20,44% | 17,15% | 21,90% | 16,42% | 21,90% |
| Менск-2 | 84 | 48,8% | 51,2% | 27,4% | 26,2% | 46,4% | 89,3% | 10,7% | | | |
| Берасьце | 112 | 21,4% | 64,3% | 30,4% | 32,1% | 35,7% | 17,0% | 8,0% | 13,4% | 19,6% | 0,9% |
| Мачулішчы | 74 | 24,3% | 74,3% | 24,3% | 31,1% | 43,2% | 23,0% | 19,0% | 39,2% | 13,5% | 18,9% |
| Жодзіна | 53 | 56,60% | 26,42% | 20,75% | 35,85% | 18,87% | 20,8% | 3,8% | 37,7% | 11,3% | 9,4% |

### АНАЛІЗ ДАДЗЕНЫХ ПА ПЕРШЫМ БЛЁКУ

Дадзеныя будуць прыведзеныя ў блёках па гарадах зь дзьвюх прычынаў.

Па-першае, дадзеныя былі больш-менш рэпрэзэнтатыўныя для мясцовай супольнасьці, але аб'яднаўшы іх, мы не атрымаем рэпрэзэнтатыўнай выбаркі для ўсёй Беларусі. Тым ня менш, параўноўваючы блёкі між сабой, можна даведацца пра найбольш тыповыя праблемы.

Па-другое, ёсьць чыста тэхнічная праблема, пра вырашэньне якой надалей трэба паклапаціцца загадзя. Анкеты маюць шмат адкрытых пытаньняў. Адказы на іх кадаваліся тымі групамі, якія зьбіралі інфармацыю і маюць розную сыстэму кодаў. Прывесьці дадзеныя да адзінай кадыроўкі не ўяўлялася б вялікай праблемай (як і апрацаваць у адзіным блёку), але, на жаль, мы не атрымалі ўсе кадыровачныя аркушы.

### "ЯКІЯ ПРАБЛЕМЫ ВЫ ЛІЧЫЦЕ НАЙБОЛЬШ АКТУАЛЬНЫМІ ДЛЯ СВАЙГО ГОРАДУ?"

## Берасьце

| Праблема | % апытанных, хто яе ўзгадаў |
|---|---|
| Сьметніцы | 33,0 |
| Культурнае жыцьцё | 30,4 |
| Дрэнны пах зь мясакамбінату | 26,8 |
| Праезд | 20,5 |
| Рамонт у пад'ездах | 20,5 |
| Расклад руху аўтобуса №9 | 18,8 |
| Дамафоны | 17,0 |
| Адсутнасьць пляцоўкі для выгулу сабак, шмат бяздомных сабак | 17,0 |
| Кепскія дарогі + адсутнасьць тратуараў | 16,1 |
| Сьмецьце ў пад'ездах | 15,2 |
| Адсутнасьць азеляненьня вуліцаў і двароў | 11,6 |
| Адсутнасьць дзіцячых пляцовак | 11,6 |
| Склепы ў дамах (рабуюць + затапліваe) | 10,7 |
| Асьвятленьне ў пад'ездах, на вуліцы | 8,9 |
| Ліфт | 8,9 |
| Праблемы з вадой (адключаюць) | 6,3 |
| Няма праблемаў | 4,5 |
| Добраўпарадкаванасьць двароў | 4,5 |
| Надпісы й малюнкі ў пад'ездах | 3,6 |
| Малыя заробкі | 3,6 |
| Ацяпленьне зімою | 2,7 |
| Цячэ дах | 2,7 |
| Электрашчытавая | 1,8 |
| Беспрацоўе | 1,8 |
| Павыбіваныя шыбы ў пад'ездах | 0,9 |
| Каналізацыя | 0,9 |
| Пад'езды й двары робяцца прытулкам для бамжоў | 0,9 |
| Улады гораду | 0,9 |
| Непавага да беларускай мовы | 0,9 |

## Жодзіна

| Праблема | % апытанных, хто яе узгадаў |
|---|---|
| Пад'езды ў кепскім становішчы | 79,2 |
| Пагаршэньне жыцьцёвага ўзроўню | 35,8 |
| П'янства, крымінальнасьць | 24,5 |
| Н/А | 24,5 |
| Няма месца, дзе адпачыць | 15,1 |
| Дарогі ня ў лепшым стане | 7,5 |
| Бяздомныя сабакі | 7,5 |
| Рэабілітацыйна-каардынацыйны дзіцячы цэнтар у кепскім становішчы | 5,7 |
| Камунальныя паслугі | 3,8 |
| Перанос рынку | 3,8 |
| Транспарт | 1,9 |

## Менск-1

| | | | |
|---|---|---|---|
| **Няма праблемаў** | | | 9,1% |
| **Н/А** | | | 8,8% |
| **Праблемы ёсьць** | | | 82,1% |
| | | | |
| **Работа мясцовых службаў і ўстановаў** | | | 9,9% |
| | Прэтэнзіі да працы міліцыі | 4,0% | |
| | Занадта частыя адключэньні вады | 2,6% | |
| | Незадавальняючае абслугоўваньне ў крамах | Менш за працэнт | |
| | Кепскае абслугоўваньне ў паліклініцы | Менш за працэнт | |
| | Кепская праца дзіцячага садку | Менш за працэнт | |
| | Незадавальняючая праца ЖЭС | Менш за працэнт | |
| **Экалёгія** | | | 6,6% |
| | Экалёгія (кепская якасьць вады) | 4,7% | |
| | Экалёгія (кепская якасьць паветра) | Менш за працэнт | |
| | Агульны стан незадавальняючы | Менш за працэнт | |
| **Транспарт** | | | 25,6% |
| | Не хапае транспарту | 15,7% | |
| | Раён перагружаны машынамі | 6,6% | |
| | Не хапае стаянак | 3,3% | |
| **Гандлёвая сетка** | | | 14,6% |
| | Недахоп крамаў | 7,3% | |
| | Неабходная крама з гароднінай | 3,3% | |
| | Прыбралі камэрцыйныя кіёскі | 2,6% | |
| | Надахоп пунктаў прыёму шклотары | Менш за працэнт | |
| | Неабходная прамтаварная крама | Менш за працэнт | |
| **Жылы фонд** | | | 26,6% |
| | Неабходны капітальны рамонт | 13,1% | |
| | Бруд у пад'езьдзе (паламаныя паштовыя скрынкі) | 8,8% | |
| | Неабходны дамафон | 3,3% | |
| | Недахоп жытла | Менш за працэнт | |
| | Высокая квартплата | Менш за працэнт | |
| **Добраўпарадкаванасьць раёну** | | | 39,8% |
| | Стан дарог у раёне | 12,0% | |
| | Бруд у раёне, нядобраўпарадкаванасьць | 8,8% | |
| | Недахоп месцаў для адпачынку | 6,6% | |
| | Кепскае асьвятленьне | 5,8% | |
| | Недахоп лавак | 3,3% | |
| | Недахоп дзіцячых пляцовак | 1,5% | |
| | Размаляваныя сьцены | Менш за працэнт | |
| | Недахоп таксафонаў | Менш за працэнт | |
| **Агульная сытуацыя ў раёне** | | | 40,5% |
| | Вулічнае п'янства | 8,4% | |
| | Сацыяльная неабароненасьць, адсутнасьць грошай | 8,0% | |
| | Злачыннасьць у раёне | 7,3% | |
| | Недахоп працоўных месцаў | 5,8% | |
| | Неўладкаванасьць моладзі | 5,1% | |
| | Бамжы | 4,7% | |
| | Наркаманія | Менш за працэнт | |
| | Абыякавасьць і злобнасьць людзей | Менш за працэнт | |

## Мачулішчы

| Праблема | % апытанных, хто яе узгадаў |
|---|---|
| НА | 19,2 |
| Неахайныя, недобраўпарадкаваныя пад'езды | 37 |
| Адсутнасьць магчымасьцяў для адпачынку, культурнага баўленьня часу | 31,5 |
| Адсутнасьць гарачай вады | 26 |
| Недоблраўпарадкаваныя, неахайныя вуліцы | 26 |
| Праблемы з транспартам | 21,9 |
| Недагледжаныя двары | 19,2 |
| Параблемнае сацыяльнае асяродзьдзе (бамжы, наркаманы) | 17,8 |
| Праблемы з мэдычным абслугоўваньнем | 14 |
| Праблемы з крамамі | 6,8 |
| Кепская бібліятэка | 2,7 |
| Няма магчымасьцяў карыстацца інтэрнэтам | 1,4 |
| Душыцца прыватная ініцыятыва | 1,4 |

### АНАЛІЗ ДАДЗЕНЫХ ПА ДРУГІМ БЛЁКУ АНКЕТЫ
### АСАБЛІВАСЬЦІ АТРЫМАНЫХ ДАДЗЕНЫХ

Як і ў першым блёку (і па той жа прычыне) дадзеныя прыводзяцца па лякацыях збору. Вывучаючы наступныя табліцы, зьвяртайце ўвагу на тое, ці ва ўсіх лякацыях узгадвалі арганізацыю, якая вас зацікавіла, а таксама наколькі адрозьніваецца доля людзей у розных лякацыях, якія яе ўзгадалі. Тут можна заўважыць сыстэмную памылку, выкліканую ўплывам анкецёра: у двух выпадках (у дадзеных, якія сабралі "Маладая Грамада" і "Подснежник") частата, зь якой узгадваліся гэтыя арганізацыі, падаецца ненатуральнай. Гэта можа быць выклікана тым, што напачатку анкетаваньня анкецёры прэзэнтавалі сваю арганізацыю ("Мы з такой-такой арганізацыі"), што паўплывала на адказы рэспандэнта; тым, што дадзеныя зьбіраліся ў сфэры ўплыву арганізацыі (сярод людзей, якія маюць дачыненьне да гэтай арганізацыі, жывуць у лякацыі, дзе гэтая арганізацыя актыўна працуе).

Усе пытаньні ў гэтым блёку былі адкрытыя. Гэта значыць, што рэспандэнт фармуляваў свой адказ сам, а не шукаў "нешта падобнае да сваіх думак" сярод прапанаваных, ужо гатовых альтэрнатываў. Такім чынам у табліцах, прыведзеных ніжэй, падсумавана тое, пра што людзі ўзгадваюць без усялякіх падказак, проста пачуўшы выраз "грамадзкая арганізацыя".

Некалькі словаў па форме, у якой прадстаўленыя дадзеныя. Вы маеце пяць табліцаў - па колькасьці лякацыяў, дзе былі праведзеныя дасьледаваньні. У левым слупку кожнай табліцы ўказаныя выбраныя рэспандэнтамі варыянты адказаў, у левым - доля лякальнай выбаркі, якая ўзгадала гэтыя варыянты. У ніжэйшай клетцы кожнай табліцы - варыянт адказу, узгаданы толькі адным апытаным.

## Менск-2

| Арганізацыя | % ад лякальнай выбаркі |
|---|---|
| Ня ведаю | 41,7 |
| Маладая Грамада | 31,0 |
| БСМ + БПСМ | 20,2 |
| Малады Фронт | 10,7 |
| Зубр | 9,5 |
| Прафсаюзы | 7,1 |
| БНФ | 6,0 |
| ААН + Юнэска | 6,0 |
| Greenpeace<br>"Чырвоны крыж" | 4,8<br>3,6 |
| МАО | 3,6 |
| РНЕ | 2,4 |
| Next stop + "Новые лица" | 2,4 |
| Фонды | 2,4 |
| Саюзы мастакоў, дызайнэраў | 2,4 |
| Дзеці Чарнобылю | 2,4 |
| Жаночы адукацыйны цэнтар, піянэры, ЗБС, царква, "Пазытыўны рух", "Урачы бязь межаў", "Белы легіён" | 1,2 |

## Мачулішчы

| Арганізацыя | % ад лякальнай выбаркі |
|---|---|
| НВ / НА | 46,2 |
| “Подснежник” | 30,8 |
| БПСМ | 5,6 |
| БНФ | 5,6 |
| ААН | 4,2 |
| Greenpeace | 4,2 |
| Саюз моладзі | 2,8 |
| Піянэрская арганізацыя | 2,8 |
| БАГ | 2,8 |
| БСМ | 2,8 |
| Зубр | 2,8 |
| Дзеці Чарнобылю | 2,8 |
| Чырвоны крыж | 2,8 |
| ЮНЭСКА | 2,8 |
| Арганізацыя для састарэлых | 2,8 |
| Беларускі саюз жанчынаў, Малады Фронт, МІЦ, ЗБС, Камсамол, Клюб заўзятараў піва, жанчына і дэмакратыя, таварыства аховы жывёлаў, Таварыства інвалідаў, ЮНІСЭФ, НАТА, Цэнтар разьвіцьця лідэрства, Таварыства аховы правоў спажыўцоў, Жаночы рух “Адзінства”, скінхэды, Таварыства абароны дзяцей, іх шмат | 1,4 |

## Менск-1

| Арганізацыя | % ад лякальнай выбаркі |
|---|---|
| НВ / НА | 82,85% |
| Ведаю | 17,15% |
| БНФ | 8,03% |
| БПСМ | 5,84% |
| Камуністы | 3,28% |
| Прафсаюзы | 2,55% |
| БСДП (НГ) | 2,19% |
| Эколягі | 2,19% |
| Беларускі хор вэтэранаў | 1,82% |
| Партыі | 1,82% |
| Скаўты | 1,46% |
| Зубр | 0,73% |
| Малады фронт | 0,73% |
| “Вясна 96” | 0,73% |
| Чырвоны крыж | 0,73% |
| АГП | 0,73% |
| “Разные-равные”, БАЖ, “Дети-чернобыльцы”, Арганізацыя па ахове помнікаў, рэпэры, ГА "Помощь" (юрыдычная), Арганізацыя воінаў-інтэрнацыяналістаў, Камсамол | 0,36% |

## Берасьце

| Арганізацыя | % ад лякальнай выбаркі |
|---|---|
| Ня ведаю ніякіх | 56,3 |
| БПСМ | 14,3 |
| БНФ | 10,7 |
| Прафсаюзы | 8,9 |
| БСМ | 8,0 |
| “Малады Фронт” | 8,0 |
| Партыі | 3,6 |
| ЗУБР | 2,7 |
| Ведаю шмат арганізацыяў | 2,7 |
| ЛДП | 1,8 |
| “Росток” | 1,8 |
| Аб’яднаньне інвалідаў | 1,8 |
| Камуністы, Саюз вэтэранаў, Саюз прадпрымальнікаў, “Край”; Хельсінскі камітэт, “Грамада”; Ліга нацыяў, “Надзея”;“Greenpeace”, “Прыбужжа”; ПЦ “Вясна” | 0,9 |

## Жодзіна

| Арганізацыя | % ад лякальнай выбаркі |
|---|---|
| НВ / НА | 84,9 |
| БПСМ | 7,5 |
| Аўганцы | 7,5 |
| Прафсаюзы | 5,7 |
| Зубр | 1,9 |

### АНАЛІЗ ДАДЗЕНЫХ

Перадусім трэба сказаць, што найбольш каштоўным здабыткам дадзенага дасьледаваньня зьяўляецца сьпіс больш-менш вядомых абывателю арганізацыяў - яго можна выкарыстаць пры распрацоўцы больш сталага дасьледаваньня. Высновы пра колькасьць людзей, якія ведаюць пра арганізацыю, можна зрабіць вельмі прыблізныя. Але дасьледаваньне акрэсьліла некаторыя якасныя характарыстыкі масавай грамадзка-палітычнай сьвядомасьці. Ясна, што тут нельга казаць пра даказаныя тэндэнцыі, хутчэй - пра маючыя права на існаваньне гіпотэзы.

Па-першае, як і чакалася, рэспандэнты не адрозьніваюць партыі і непалітычныя грамадзкія аб’яднаньні, хаця варта прызнаць, тэндэнцыя не такая яркая, як меркавалася. Пра непадзеленасьць гэтых сфэраў сьведчыць тое, што часьцей за ўсё ўзгадваліся арганізацыі, якія “засьвяціліся” ў палітычнай сфэры.

Па-другое, нечакана высьветлілася, што грамадзкія арганізацыі блытаюць з субкультурнымі плынямі - рэпэры і скінхэды.

Па-трэцяе, высьветлілася, што рэспандэнты ўстойліва блытаюць з грамадзкімі арганізацыямі такія міжнародныя структуры, як ААН, НАТА, ЮНІСЭФ, ЮНЭСКА.

### “ЧАМУ, НА ВАШУЮ ДУМКУ, ЛЮДЗІ ЎСТУПАЮЦЬ У ГРАМАДЗКІЯ АРГАНІЗАЦЫІ?”

## Берасьце

| Адказ | % |
|---|---|
| Каб вырашыць праблемы, палепшыць сытуацыю ў краіне | 29,5 |
| НВ | 28,6 |
| Каб рэалізаваць ідэі, мэты | 17,0 |
| Агульныя мэты | 8,9 |
| Уласная карысьць | 7,1 |
| Няма чаго рабіць | 4,5 |
| Не спадзяюцца на ўладу | 4,5 |
| Шукаюць падтрымку | 4,5 |
| Патрыёты | 1,8 |
| Бараніць астатніх | 1,8 |
| Псыхалёгія натоўпу | 0,9 |
| Прэстыжна | 0,9 |

## Мачулішчы

| Адказ | % |
|---|---|
| Удзел у розных акцыях | 33,6 |
| Для вырашэньня якіх-небудзь праблемаў | 32,2 |
| Для абароны інтарэсаў вызначаных слаёў насельніцтва | 32,2 |
| Каб быць карыснымі | 30,8 |
| Наіўныя людзі | 29,4 |
| Каб зрабіць жыцьцё лепшым | 28,0 |
| Дзеля зносінаў з адзінадумцамі, баяцца адзіноты | 26,6 |
| Пашырыць свой кругагляд | 26,6 |
| Каб змагацца супраць чаго-небудзь | 25,2 |
| Каб дапамагаць іншым | 23,8 |
| Увасобіць свае ідэі ў жыцьцё, для самарэалізацыі | 23,8 |
| Кар'ерызм | 23,8 |
| Прыватныя інтарэсы | 21,0 |
| Нажыва | 21,0 |
| Вырашаць праблемы, якімі не займаецца дзяржава | 21,0 |
| Каб аб'ядноўвацца і вырашаць праблемы | 18,2 |
| Ад няма чаго рабіць | 16,8 |
| НА | 16,8 |
| Каб паказаць, што яны нечага вартыя | 12,6 |
| НВ | 12,6 |
| Неабыякавасьць да існых праблемаў | 11,2 |
| Настальгія па саўку | 9,8 |
| У кожнага свае мэты | 8,4 |
| Актыўная жыцьцёвая пазыцыя | 5,6 |

## Жодзіна

| Адказ | % |
|---|---|
| Цярпеньню прыходзіць канец | 3,8 |
| Бо беспрацоўныя і няма чаго рабіць | 3,8 |
| Каб нешта вырашаць разам | 1,9 |
| Каб што-небудзь рабіць | 1,9 |

## Менск-2

| Адказ | % |
|---|---|
| НВ / цяжка адказаць | 63,50% |
| Абараняць сябе і навакольных | 10,95% |
| Агульныя погляды і каштоўнасьці | 8,76% |
| З-за ўласнае выгоды | 3,65% |
| Каб бавіць час | 2,92% |
| Няма чаго рабіць | 2,92% |
| Дзеля ўзаемадапамогі | 2,19% |
| Кар'ера | 1,46% |
| Паляпшэньне жыцьця | 1,46% |
| Пратэст | 1,09% |
| Апазыцыя | 0,73% |

Аналізуючы матывы, якія прыпісвае масавая сьвядомасьць (прынамсі, апытаныя рэспандэнты) грамадзка-актыўным людзям, можна вылучыць некалькі асноўных:

1) скіраванасьць на вырашэньне сваіх ці чужых праблемаў, паляпшэньне жыцьця ў краіне і становішча ў грамадзтве. Ключавыя словы - вырашэньне праблемаў.

Але, магчыма, тут мы маем справу з сыстэмнай памылкай: апытаньне праводзілася ў рамках кампаніі "Зробім лепш!", рэфрэнам якой было менавіта вырашэньне праблемаў.

2) актыўныя людзі, тыя, якія ня толькі бачаць праблемы, але і вырашаюць іх, ня толькі маюць мэты, прынцыпы, ідэалы, але і рэалізуюць іх. Ключавыя словы: актыўнасьць, неабыякавасьць.

3) людзей у грамадзкія арганізацыі прыводзіць падабенства поглядаў, мэтаў, неабходнасьць быць разам з аднадумцамі. Ключавыя словы: агульныя мэты, погляды, інтарэсы, аднадумства.

4) у грамадзкіх арганізацыях зьбіраюцца самаахвярныя людзі, якія імкнуцца дапамагаць іншым. Ключавыя словы: дапамагаць іншым, абараняць.

5) людзі, якія супрацьпастаўляюць сябе дзяржаве. Ключавыя словы: апазыцыя, пратэст, неспадзяваньне на ўладу, дзяржаву.

6) гэта людзі, якія перасьледуюць свае ўласныя, карысьлівыя інтарэсы. Ключавыя словы: шукаць нажывы, кар'ерызм, прага ўлады.

7) людзі, якія зьбіраюцца ў грамадзкія арганізацыі, несамадастатковыя, яны маюць патрэбу ў падтрымцы, у самасьцьвярджэньні, баяцца адзіноты, хочуць быць як усе. Ключавыя словы: падтрымка, даказаць.

8) людзі ўступаюць у грамадзкія арганізацыі, каб знайсьці працу ці пабавіць час.

9) людзі, якія прыходзяць у грамадзкія арганізацыі, неадэкватна ацэньваюць рэальнасьць: яны настальгуюць па савецкіх часах ці папросту наіўныя ідэалісты.

10) людзі, якія зьбіраюцца ў грамадзкія арганізацыі, - гультаі, якім няма чаго рабіць.

## прабачэньні

**У мінулым нумары "Бюлетэню" з-за тэхнічнай памылкі ў матэрыял "Весткі з двароў перамогі "Зробім лепш!" ня трапіла інфармацыя пра акцыі, якія ладзіліся 30 чэрвеня 2002 году ў Жодзіне грамадзкімі арганізацыямі ў рамках моладзевай кампаніі "Зробім лепш!". Рэдакцыя "Бюлетэню" прыносіць свае прабачэньні грамадзкім аб'яднаньням "Новая Касталія", "Зваротная сувязь", рэгіянальнай кааліцыі "Пераменаў", Беларускаму згуртаваньню моладзі "Ліцьвіны" і мясцовай філіі Таварыства Беларускай Мовы, іншым грамадзянскім ініцыятывам.**

## МЭМАРЫЯЛЬНЫ ІНСТЫТУТ А. ДЖ. М'ЮСТА
## АДУКАЦЫЙНЫ ФОНД «МІЖНАРОДНАЯ АДМОВА АД ГВАЛТУ» (INTF)

Фонд працягвае фінансаваньне неамэрыканскіх праектаў, што ствараюць і падтрымліваюць адукацыю (трэнінгі), разьвіваюць лідэрства ў мэтах негвалтоўных сацыяльных зьменаў, а таксама накіраваныя на фактычнае навучаньне негвалтоўным грамадзкім дзеяньням.

Камітэт INTF складаецца з прадстаўнікоў Праўленьня Інстытуту М'юста, донараў фонду і міжнародных трэнэраў.

Максымальная падтрымка, якая можа быць аказаная фондам - USD 3 000.

Перавага аддаецца новым праектам і малым групам, якія маюць малую верагоднасьць для фінансаваньня зь іншых крыніцаў.

**Дадатковая інфармацыя:**
339 Lafayette St., New York, NY 10012, USA.
www.ajmuste.org/guidintf.htm
www.nonviolence.org/ajmuste
ajmusteinst@igc.org

## АЛЬФРЭД ФРЭНДЛІ ПРЭС

абʼяўляе на 2003 год праграму стажыровак у ЗША для неамэрыканскіх журналістаў Alfred Friendly Press Fellowships. Праграма адрасаваная супрацоўнікам газэтаў і часопісаў з краінаў, дзе адбываецца працэс пераходу да дэмакратыі і станаўленьня свабоднай прэсы.

Прэтэндэнты павінныя дасканала валодаць ангельскай мовай (як вусна, так і пісьмова), мець як мінімум трохгадовы досьвед прафэсійнай журналісцкай працы ў сваёй краіне і ў момант падачы заяўкі працаваць журналістам у няўрадавым выданьні ў краіне зь пераходным грамадзтвам.

Тыповы ўдзельнік Alfred Friendly Press Fellowships - асоба 29-гадовага ўзросту з шасьцігадовым досьведам журналісцкай альбо рэдактарскай працы.

Праграма ажыцьцяўляецца штогадова з 1984 году. За гэты час стажыроўку прайшлі 214 чалавек (95 жанчынаў і 119 мужчынаў) зь 72 краінаў сьвету.

Арганізатары стажыроўкі аплачваюць удзельнікам усе транспартныя выдаткі, зьвязаныя з праграмай, і забясьпечваюць штомесячнай стыпэндыяй.

Працягласьць стажыроўкі - 6 месяцаў.

Праграма распачынаецца ў чэрвені 2003 году з двухтыднёвага ўводнага сэмінару ў Вашынгтоне і працягваецца практычнымі заняткамі з наведваньнем газэтаў і часопісаў ЗША.

Апошні тэрмін падачы заявак на ўдзел у стажыроўцы - 1 лютага 2003 году.

**Дадатковая інфармацыя:**
Alfred Friendly Press
2000 L Street N.W., Suite 200
Washington, DC 20036-4997
Tel: (202) 416-1691; Fax: (202) 416-1695
www.comminit.com/Fellowships/sld-3243.html
www.pressfellowships.org
afp@aol.com

## NONPROFIT SECTOR RESEARCH FUND, ESPIN INSTITUTE

Абвяшчаюць конкурс на прадастаўленьне грантаў у падтрымку дасьледаваньняў некамэрцыйнага сэктару - дабрачынных і гуманітарных установаў, бальніцаў, унівэрсытэтаў, арганізацыяў мастацтва, праваабарончых групаў і іншых непрыбытковых структураў.

Прымаюцца заяўкі дасьледчыкаў, якія ўжо займаюцца дасьледаваньнем некамэрцыйнага сэктару. Таксама вітаюцца звароты ад спэцыялістаў у галіне акадэмічных дысцыплінаў (эканоміка, права, палітычныя навукі, сацыялёгія, грамадзкая палітыка, гісторыя, кіраваньне і інш.), для якіх дасьледаваньне некамэрцыйнага сэктару будзе новай справай.

У дадзены момант прымаюцца заяўкі на падтрымку дасьледаваньняў у наступных галінах:

- непрыбытковая дзейнасьць, філянтропія і грамадзкая палітыка - уключаючы вывучэньне наступстваў падтрымкі дзяржавай некамэрцыйных арганізацыяў, прыватызацыі, працоўных адносінаў у непрыбытковым сэктары;
- фонды - уключаючы вывучэньне заснаваньня, кіраваньня фондамі, стратэгіі іх дзейнасьці;
- дысэртацыйныя дасьледаваньні, скіраваныя на вывучэньне ўсіх аспэктаў некамэрцыйнай і дабрачыннай дзейнасьці ў ЗША і іншых краінах.

**Дадатковая інфармацыя:**
Тэл. (202) 736-5800,
факс: (202) 293-0525
www.nonprofitresearch.org
www.iapps.com
nsrf@aspeninstitute.org

# ЯК МЫ зьнішчалі «ПАГОНЮ»

Алена Карпей,
Гародня

Зь 1 верасьня журналісты забароненай гарадзенскай газэты ПАГОНЯ Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка, асуджаныя за паклёп на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, пачалі адбываць пакараньне. Рэдактара ПАГОНІ Міколу Маркевіча Крымінальна-выканаўчая інспэкцыя Кастрычніцкага раёну Гародні накіравала ў Асіповічы Магілёўскай вобласьці, а Паўла Мажэйку адправілі ў горад Жлобін на Гомельшчыну. Амаль ніхто не чакаў, што журналістаў закінуць так далёка ад роднага гораду. Але яшчэ горш тое, што ад самага пачатку расправы над газэтай мала хто ўвогуле думаў пра тое, што справа зойдзе так далёка.

Упершыню ў няміласьць да пракуратуры Гарадзенскай вобласьці ПАГОНЯ патрапіла 15 траўня 2001 году. Тады Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка былі выкліканыя ва Ўпраўленьне КДБ па Гарадзенскай вобласьці на размову наконт артыкула «Інтэграсты ў Гародню не прыедуць». КДБ цікавіла паходжаньне заявы Рады Камандзіраў Беларускай Народнай Самаахові, надрукаванай разам з артыкулам у апошнім нумары газэты. На сваім сайце, у «Хроніцы зьнішчэньня ПАГОНІ», супрацоўнікі газэты пішуць, што з таго часу пачалося «запалохваньне калектыву газэты». На допыты выклікалі нават тэхнічных работнікаў.

Сур'ёзна ўзяліся за ПАГОНЮ ў апошні тыдзень перад прэзыдэнцкімі выбарамі. 5 верасьня першы намесьнік пракурора Гарадзенскай вобласьці Ўладзімер Аніська распачаў крымінальную справу па факце публікацыяў у №36 ПАГОНІ ад 04.09.2001 артыкулаў «Ідзем на выбары» Паўла Мажэйкі і «Ён не Лукашэнка» за подпісам Сяргея Кракасевіча са Слуцку, у якіх, на думку пракурора, утрымліваўся паклёп на прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. У гэты ж дзень проста ў друкарні была арыштаваная дзясятая частка накладу ПАГОНІ, празь некалькі дзён арыштавалі 3 082 кілаграмаў газэтнай паперы і ўсю тэхніку, заблякавалі рахунак газэты. Цалкам быў арыштаваны і наступны нумар ПАГОНІ. Верш «Абяшчал! Абяшчаю! Буду абяшчаць!», надрукаваны ў гэтым нумары, пазьней таксама быў уключаны ў абвінавачваньне пракуратуры, прадастаўленае Міколу Маркевічу.

Цягам верасьня на допыт у КДБ некалькі разоў выклікалі Мажэйку і Маркевіча, тэхнічных супрацоўнікаў рэдакцыі. Цкаваньне пагонеўцаў набірала моц. Распачалася працэдура закрыцьця газэты.

Тут і трэба было біць у званы, што папярэдзіла і нэўтралізавала б наступы на журналістаў. Але «дэмакратычнае грамадзтва» было занятае сваімі праблемамі. На апошнім паседжаньні, калі Вышэйшы Гаспадарчы суд Рэспублікі Беларусь прыняў рашэньне аб закрыцьці ПАГОНІ, акрамя Міколы Маркевіча прысутнічалі яшчэ 3 чалавекі. Адзіная цалкам беларускамоўная рэгіянальная газэта, адна з самых старых у краіне, перастала існаваць.

Але да фіналу гісторыі было яшчэ далёка. Напярэдадні Новага году Мікола Маркевіч і Павал Мажэйка атрымалі позвы ў пракуратуру. Празь некалькі тыдняў пракуратура распачала супраць іх крымінальную справу па артыкуле №367 ч. 2 КК РБ - паклёп на Прэзыдэнта РБ. Паводле яго журналістам пагражала да 5 гадоў пазбаўленьня волі.

Сьледчы па асабліва цяжкіх справах пракуратуры Гарадзенскай вобласьці Алег Кулевіч устанавіў, што паклёп на прэзыдэнта, «спалучаны з абвінавачваньнем у зьдзяйсьненьні асабліва цяжкіх злачынстваў, такіх як забойства, генацыд, стварэньне злачыннай арганізацыі і ўдзел у ёй», - утрымліваецца ў трох вышэй згаданых артыкулах з №№36 і 37 ПАГОНІ.

Ня буду расьпісваць, у якіх радках з артыкулаў сьледчы ўгледзіў паклёп і абвінавачваньні

**Павал Мажэйка «хімічыць» ня першы месяц**



ў злачынствах і на якія доказы абапіралася пракуратура. Падрабязныя публікацыі пра гэта былі ў беларускіх незалежных СМІ. Але доўгі час пасьля закрыцьця газэты беларуская прэса маўчала. Пагонеўцы засталіся фактычна сам-насам з пракуратурай.

Першае судовае паседжаньне па справе Маркевіча і Мажэйкі было прызначанае на 9 красавіка ў судзе Ленінскага раёну Гародні.

Першай на абарону журналістаў стала гарадзенская радыкальная левая незарэгістраваная арганізацыя «Канфэдэрацыя дзеючых суполак «Разам!». Ніхто не чакаў ад яе дапамогі. ПАГОНЯ заўсёды лічылася «правай» газэтай. Інфармацыя пра БНФ і Малады Фронт даволі часта зьяўлялася на яе старонках, і вось зараз ледзь не «друкаваны орган» «правіцы» абараняюць левыя! Больш за тое, яны ня толькі распачалі кампанію па абароне журналістаў - яны фактычна адны яе ўвесь час і працягвалі. Зь дзясятак прадстаўнікоў КДС амаль заўсёды прысутнічалі на судовых паседжаньнях, некалькі разоў яны ладзілі на судах акцыі пратэсту і пэрформансы. Чаго варты пэрформанс, калі сябры КДС на паседжаньне абласнога суду 15 жніўня, дзе разглядалася касацыйная скарга на рашэньне, вынесенае журналістам судом Ленінскага раёну Гародні, прынесьлі чорную труну з надпісам «Свабода слова»!

Пасьля акцыі пратэсту КДС ля будынка Гарадзенскага аблвыканкаму Маркевіч і Мажэйка пішуць ліст з просьбай аб падтрымцы Адаму Міхніку, польскаму дысыдэнту, аднаму з самых паважаных людзей у Польшчы, галоўнаму рэдактару «Газэты Выборчай». 5 красавіка былі затрыманыя 13 гарадзенскіх журналістаў, якія выйшлі на несанкцыянаваныя пікеты. Шасьцёра зь іх былі арыштаваныя на тэрмін ад 3 да 10 сутак. У гэты ж дзень ліст Міхніку разам зь яго адказам друкуюць на першай паласе «Выборчай». Рэзананс атрымаўся калясальны - Польшча літаральна гула.

Раэкцыя з Польшчы разварушыла й беларусаў, праўда, нашых хапіла не на многае. Толькі на двух першых судовых паседжаньнях сабралася каля 200 чалавек. Выкінулі адрэналінчык - і болей не прыходзілі. Некалькі разоў суды пераносілі. Хварэлі то судзьдзі, то пракуроры. «Час ужо й вам захварэць», - зьвяртаючыся да падсудных журналістаў, заўважыла аднойчы судзьдзя Тацяна Клімава, якой урэшце даручылі весьці справу.

Улады дамагліся таго, чаго хацелі - зьбілі запал у апазыцыйных шэрагах. Пагонеўцы зноў рызыкавалі застацца ў адзіноце на судовых разьбіральніцтвах, якія з 4 чэрвеня ўвайшлі ў сваю звыклую каляіну, бяз крыкаў і абурэньняў за зачыненымі дзьвярыма тых, хто не патрапіў у судовую залю, разьлічаную ўсяго на 25 месцаў. Толькі сябры й людзі, якія рабілі ПАГОНЮ, працавалі ў ёй, заставаліся з журналістамі да апошняга. «Дэмакратаў» стаміла судовая руціна, іх чакалі ратныя подзьвігі - калі ім было змагацца за ПАГОНЮ?..

«Гэта нічога не зьмяніла б», - часта даводзілася чуць ад прадстаўнікоў «дэмакратычнай апазыцыі». Мажліва, але хто спрабаваў «адбіваць» газэту пастаянна, а не спарадычна? Пастаянныя, штодзённыя дзяжурствы, акцыі пад будынкам суду, пратэсты і заявы ў пракуратуру - гэта не вымагала моцных высілкаў, а вынік мог бы быць (не заклікаючы да гвалту нагадаю, што ў той жа Польшчы ці Чэхіі ў выпадках палітычнай расправы над апазыцыяй у савецкія часы актывісты дзейнічалі значна больш радыкальна - да прыкладу, падпальвалі судзьдзям машыны ці лецішчы). Я пішу «мог бы», таму што мізэрны шанец у нашай сытуацыі нельга было выпускаць, трэба за кожнага сябра, за кожнага аднадумца стаяць да канца. Урэшце, апазыцыйныя лідэры маглі зарабіць сабе неблагі палітычны капітал - судовыя паседжаньні над пагонеўцамі штодзённа (!) асьвятлялі дзьве самыя папулярныя польскія газэты - «Wyborcza» і «Rzeczpospolita».

Суд скончыўся 24 чэрвеня. Судзьдзя Тацяна Клімава прызнала журналістаў вінаватымі і прыгаварыла да 2 гадоў абмежаваньня волі Паўла Мажэйку і 2,5 гадоў такога ж пакараньня Міколу Маркевіча. Паводле ліпеньскай амністыі ім зьменшылі тэрмін пакараньня на год. Апошнюю кропку паставіў суд Гарадзенскай вобласьці, які адхіліў касацыйную скаргу журналістаў.

Пагонеўцаў дагналі. Некалькі гадоў таму расправіліся з выбітнейшымі беларускімі палітыкамі, зараз чырвоныя сьцяжкі расстаўляюць вакол незалежнай прэсы. Усё па тым жа 367 артыкуле засудзілі рэдактара газэты «Рабочы» Віктара Івашкевіча, фактычна спынілі існаваньне «Наша свабода», «Свабодныя навіны». Хто наступны?

**Банальная, але ісьціна: гэтага магло б і ня быць, каб за ПАГОНЮ біліся з самага пачатку. Штодня. Кожны з нас.**

*Пазыцыя рэдакцыі можа не супадаць з пазыцыяй аўтараў матэрыялаў рубрыкі.*

## *Лістуйце і тэлефануйце*

**МІКОЛУ МАРКЕВІЧУ**

**213760**
**Магілёўская вобласьць,**
**г. Асіповічы, вул. Сомчанкі, 38,**
**пакой 430**
**Тэл. спэцкамэндатуры 2-49-43**

**Гомельская вобласьць,**
**г. Жлобін,**
**мікрараён №3, д. 3,**
**пакой №208**
**Тэл. спэцкамэндатуры 2-07-02**

**ПАЎЛУ МАЖЭЙКУ**

# сам працэс: бпсм + бсм = ?



Аляксей Краквін,
**Берасьце**



**Пакуль назіральнікі ламаюць сабе галовы, чым абернецца для шматпакутнага моладзевага «трэцяга сэктару» аб’яднаньне БПСМ і БСМ у Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі (асабліва на фоне бясконцых фінансавых скандалаў і пастаянных ідэалягічных зачыстак), па гарачых сьлядах наш берасьцейскі карэспандэнт пацікавіўся, як адбываўся «сам працэс», у адных зь непасрэдных удзельнікаў акту «зьліцьця» - у першых сакратароў Берасьцейскага абласнога камітэту БСМ Міхаіла Дзенісенкі і гаркаму БСМ Сяргея Пінчука, а таксама папрасіў парэфлексаваць на тэму «чем чревато» аб’яднаньне БПСМ і БСМ для актывістаў моладзевых арганізацыяў Берасьця.**

**Міхаіл Дзенісенка, першы сакратар Берасьцейскага абласнога камітэту БСМ:**

- Пытаньне аб’яднаньня дзвюх арганізацыяў намі разглядалася з 1999, і ўрэшце мы падышлі да лягічнага завяршэньня - правялі аб’яднаўчы зьезд дзвюх самых масавых моладзевых арганізацыяў РБ. Я ўпэўнены, што моладзевая палітыка ў рэспубліцы перайшла на больш якасны этап свайго разьвіцьця. Акрамя таго, мы прапануем усім астатнім моладзевым арганізацыям працаваць сумесна. БРСМ адкрыты для ўсіх.

На зьезьдзе разглядаліся пытаньні аб’яднаньня, назвы новай арганізацыі. Абмяркоўвалася пытаньне выбару новага ЦК, кантрольнай камісіі, сымболікі. За аснову быў прыняты праект, распрацаваны рэспубліканскім арганізацыйным камітэтам па аб’яднаньні. «Вливания и поглощения», як любяць казаць некаторыя «спэцыялісты», не адбудзецца. БРСМ - парытэтнае аб’яднаньне, гэта было першай умовай перад тым, як пачалі казаць пра патрэбу ў аб’яднаньні.

Ініцыятыва стварэньня новай арганізацыі? Асабіста я чуў, як падобныя прапановы зыходзілі ад прадстаўнікоў БСМ, і на сустрэчы з прэзыдэнтам актыву БПСМ 30-га красавіка мы выказалі прапанову аб’яднаць дзьве арганізацыі. Прапановы, вядома ж, зыходзілі з абодвух бакоў, інакш працэс аб’яднаньня проста б не адбыўся.

Справа ў тым, што БСМ і БПСМ, за выключэньнем некаторых нязначных разыходжаньняў, - дзьве аднолькавыя арганізацыі, фактычна з аднолькавымі мэтамі, імкненьнямі, задачамі, мэтадамі працы. Работнікі абедзьвюх арганізацыяў вельмі цесна супрацоўнічалі разам на працягу, прынамсі, апошніх 5 гадоў. Паасобку выжываць цяжка.

**- Ці магло здарыцца такое, што на рэспубліканскім зьезьдзе рашэньне аб аб’яднаньні правалілася б?**

- Я нават думкі такой не дапускаю. Справа ў тым, я паўтаруся, што працэс аб’яднаньня абмяркоўваецца ў грамадзтве ўжо амаль тры гады, і непасрэдна перад зьездам у нас было чатыры месяцы, каб абмеркаваць гэтае пытаньне сярод моладзі. Я ня чуў такіх думак, што аб’ядноўвацца нам ня варта. Моладзь - за.

**Сяргей Пінчук, першы сакратар Берасьцейскага гаркаму БСМ:**

- Нашая пазыцыя наконт аб’яднаньня вылілася ў нашыя дзеяньні. У БСМ было некалькі матываў, каб узяць удзел у аб’яднаньні. Па-першае, працяглы час нашыя арганізацыі рухаліся ў рэчышчы дзяржаўнай моладзевай палітыкі, другі матыў больш БСМаўскі - мы жадалі атрымаць вялікую падтрымку з боку дзяржавы, бо нашыя ўласныя рэсурсы абмежаваныя. Таму магчымасьць выкарыстаць дадатковыя рэсурсы - гэта для нас вельмі важны аргумэнт.

На зьезьдзе быў абраны склад вышэйшага кіраўніцтва кіруючага органа - Цэнтральнага камітэту. ЦК абраў першага сакратара арганізацыі і сфармаваў сакратарыят. Лідэр БРСМ - Аляксандар Нахаенка, у мінулым дырэктар Дэпартамэнту па справах моладзі пры Міністэрстве адукацыі.

Пасьля працэдуры рэгістрацыі будуць сфармаваныя камітэты на месцах. У адпаведнасьці з рашэньнем зьезду, гэта павінна адбыцца цягам бягучага месяца.

**Уладзімер Тарноўскі, намесьнік старшыні дасьледча-аналітычнага клюбу «Дзедзіч»:**

- Аб’яднаньне пагражае тым, што прыхільнікі БСМ адыдуць ад арганізацыі наагул. Справа ў тым, што яны разумеюць розьніцу паміж Беларускім саюзам моладзі і БПСМ: апошняя - палітычная арганізацыя. Многіх гэты факт напужае...

**Андрэй Вярэніч, Цэнтар «Форум», намесьнік прэзыдэнта арганізацыі:**

- Ініцыятыва да аб’яднаньня зыходзіла ад нейкіх уладных структураў. Трэба прызнаць, што БСМ, які два гады ўхіляўся ад гэтага аб’яднаньня, у верасьні здаўся. Думаю, тэндэнцыя пацьвердзіцца: у нас, калі ствараюць штосьці новае і кажуць пра яго непаўторнасьць, у выніку атрымліваюць банальнае капіяваньне старога.

**Алесь Ляўчук, «Малады фронт», намесьнік старшыні Берасьцейскай філіі:**

- Я нічога добрага ў гэтым аб’яднаньні ня бачу. Новая арганізацыя ўбярэ ў сябе ўсё самае дрэннае з абедзьвюх папярэдніцаў. БПСМ - у ідэале моладзевая арганізацыя зь незьлічонай колькасьцю магчымасьцяў для моладзі - насамрэч праводзіла яе ідэалягічную апрацоўку і зрабілася добрым сродкам атрыманьня грошай нядобрасумленнымі лідэрамі гэтага аб’яднаньня.

# што такое арганізацыйнае разьвіцьцё?

Ала Кос,
**кансультант ABA/CEELI па пытаньнях разьвіцьця арганізацыяў alla_kos@ceeli.org.by**

Прапісная ісьціна - «мэта дзейнасьці грамадзкіх аб'яднаньняў - гэта пабудова грамадзянскай супольнасьці, унясеньне грамадзкіх ініцыятываў у дзяржаўныя структуры» - вядомая большасьці прадстаўнікоў «трэцяга сэктару». Бадай што «большасьць з большасьці» разумее, што з гэтай мэтай могуць справіцца рэальна дзейсныя, моцныя арганізацыі.

Моцны «трэці сэктар» - масавы «трэці сэктар» - стандартная аблуда некаторых прадстаўнікоў беларускіх НДА. Колькасьць павінна пераходзіць у якасьць: грамадзянскі сэктар моцны настолькі, наколькі многа тых арганізацыяў, якія ведаюць, у чым іх місія, якія ўмеюць выразна фармуляваць мэты і граматна ставіць задачы, добра арыентавацца ў патрэбах мэтавай групы насельніцтва, зь якой яны працуюць, якія дасягнулі вызначанага ўзроўню арганізацыйнага разьвіцьця, маюць прафэсійны і працаздольны калектыў аднадумцаў.

У хутка зьменлівым асяродзьдзі арганізацыі вымушаныя бесьперапынна мяняцца. Разьвіцьцё арганізацыі - гэта майстэрства прадбачаньня і плянаваньня, накіраванае на дасягненьне ёй дабрабыту і адаптацыі да пераменаў. Арганізацыя, якая імкнецца да посьпеху, павінна прадбачыць сваю будучыню хаця б на год наперад.

### АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ РАЗЬВІЦЬЦЁ І СУПРАЦІЎЛЕНЬНЕ ЗЬМЕНАМ

Арганізацыйнае разьвіцьцё (АР) зьвязана з кіраваньнем зьменамі ў арганізацыях. Як вядома, зьмены часта выклікаюць супраціўленьне. Таму важна абгрунтаваць карысьць зьменаў, зрабіць гэта відавочным для большасьці сябраў каманды, пераканаць, што людзі самі гэтага хочуць і што гэта - іх ініцыятыва. Любому АР спадарожнічае супраціўленьне. Вынік разьвіцьця залежыць ад таго, якая сіла пераважыць - тая, што разумее неабходнасьць зьменаў, ці тая, што супраціўляецца.

Вось толькі некаторыя прычыны супраціўленьня зьменам:

* адсутнасьць перакананьня ў неабходнасьці зьменаў;
* страх перад невядомым;
* страх перад няўдачай, няздольнасьцю правільна выканаць патрэбныя дзеяньні;
* парушэньне ўстаноўленага парадку, звычак, узаемаадносінаў і стэрэатыпаў паводзінаў;
* адсутнасьць павагі і даверу да асобы, якая праводзіць зьмены;
* незадаволенасьць зьменамі, якія прымушаюць рабіць зьверху.

### КАЛІ АРГАНІЗАЦЫЯ ГАТОВАЯ ДА АР?

Ґатоўнасьць НДА да прыцягненьня ў АР-працэс зьяўляецца важнай умовай эфэктыўнасьці самога працэсу. «Ґатоўнасьць» азначае, што арганізацыя гатовая паглядзець на сябе з боку, убачыць, дзе знаходзіцца і вырашыць, што павінна зрабіць.

Многія АР-спэцыялісты мяркуюць, што любая арганізацыя, незалежна ад яе памеру, узроўню разьвіцьця, велічыні бюджэту і колькасьці супрацоўнікаў, можа атрымаць карысьць ад удзелу ў АР-працэсе пры наяўнасьці наступных прыкметаў «гатоўнасьці»:

* Арганізацыя адкрытая для навучаньня і да зьменаў - ёсьць жаданьне быць прыцягнутай да працэсу самавызначэньня, а таксама гатоўнасьць навучацца і прымаць зьмены;
* Ключавыя супрацоўнікі арганізацыі разумеюць, што праца над АР-пытаньнямі будзе садзейнічаць выкананьню місіі арганізацыі;
* Арганізацыя можа растлумачыць, у чым яе місія;
* Арганізацыя імкнецца да вынікаў і гатовая траціць час і рэсурсы на АР.

### АР НА ПРАКТЫЦЫ

Сэнс разьвіцьця арганізацыі заключаецца ў тым, каб паступова замацаваць усьведамленьне асобнымі людзьмі і арганізацыямі таго, што яны самі здольныя кантраляваць абставіны, знаходзіць эфэктыўныя шляхі вырашэньня сваіх праблемаў і павінны прымаць на сябе адказнасьць за ўласную будучыню. Напрыклад, Рэгіянальная праграма ABA/CEELI1 па разьвіцьці арганізацыяў у краінах СНД - гэта кансультацыйная паслуга, створаная для таго, каб дапамагчы арганізацыям, якія працуюць у сфэры прававо рэформы і зьяўляюцца партнэрамі CEELI на працягу некалькіх гадоў, стаць больш дзейснымі, аўтаномнымі і незалежнымі. Праграма таксама накіраваная на ўстанаўленьне доўгатэрміновых і ўстойлівых партнэрскіх адносінаў паміж гэтымі арганізацыямі і іх мясцовымі, рэгіянальнымі і заходнімі калегамі.

Для таго, каб арганізацыя была жыцьцяздольнай, неабходна ўлічваць пытаньні фінансавай і арганізацыйнай устойлівасьці і ўзаемаадносінаў са зьнешнім асяродзьдзем.

* Фінансавы бок жыцьцяздольнасьці арганізацыі ахоплівае такія пытаньні, як фандрэйзынг, пашырэньне крыніцаў фінансаваньня, распрацоўка мэханізмаў забесьпячэньня грашовых паступленьняў, рацыянальнае выкарыстаньне фінансаў і пошук фінансавых партнэраў.

* Арганізацыйная ўстойлівасьць мае на ўвазе наяўнасьць выразнай місіі, добрага кіраўнічага органа, сыстэмы кіраваньня, арганізацыйнай структуры і праграмнай дзейнасьці.

* Да ўзаемаадносінаў са зьнешнім асяродзьдзем можна аднесьці пашырэньне кола людзей і структураў, якія падтрымліваюць прынцыпы арганізацыі, устанаўленьне кантактаў, стварэньне стратэгічных альянсаў і саюзаў, распрацоўку стратэгіяў па сувязях з грамадзкасьцю.

Гэта асноўныя сфэры дзейнасьці арганізацыі, у якіх Рэгіянальная праграма па разьвіцьці арганізацыяў у краінах СНД аказвае падтрымку мясцовым партнэрам у АР-працэсе. Падчас правядзеньня сэмінараў па ацэнцы разьвіцьця суадносінаў арганізацыяў з ключавымі партнэрамі праграмы былі сабраныя дадзеныя, на аснове якіх адсочваецца гэты працэс у межах праграмы. Гэтая інфармацыя таксама лягла ў аснову распрацоўкі мераў па падтрымцы АР партнэрскіх НДА.

Па дадзеных паказчыках вядзецца пастаянны маніторынг і штогадова праводзіцца ацэнка. Галоўная мэта праграмы - павялічыць магчымасьці партнэрскіх НДА ў галіне эфэктыўнай рэалізацыі праграмаў, прызначаных для групаў, чые інтарэсы яны прадстаўляюць, і замацаваць іх з дапамогай паслугаў кансультанта, уключна з навучаньнем, забесьпячэньнем інфармацыяй і аказаньнем тэхнічнай дапамогі па АР-пытаньнях. На дадзены момант праграма ўжо налічвае 10 пастаянных супрацоўнікаў, якія працуюць у 7 краінах СНД.

**Некалькі ўрокаў, засвоеных маімі калегамі, дадуць вам большае ўяўленьне пра тое, як АР-ідэі ўвасабляюцца на практыцы.**

Многія НДА разглядаюць плян устойлівага разьвіцьця толькі як мерапрыемства па прыцягненьні фінансавых сродкаў. Такія словы, як «устойлівае разьвіцьцё» ці «жыцьцяздольнасьць» (sustainability) зрабіліся моднымі ў асяродку міжнародных донараў. У сваю чаргу, гэта выклікае цяжкія ўздыхі ў НДА з постсавецкіх тэрыторыяў, яны зь вялікай неахвотай наведваюць сэмінары па гэтай тэме, бо ў некаторых краінах СНД яшчэ няма й «намёку» на тое, што замежныя донары ў хуткім часе скароцяць фінансавую падтрымку. Стварэньне жыцьцяздольных арганізацыяў - гэта працяглы працэс, які патрабуе комплекснага падыходу. Неабходна памятаць, што ўстойлівае разьвіцьцё - гэта ня толькі забесьпячэньне фінансаваньня, а цэлы спэктар разнастайных АР-аспэктаў: ад палітыкі ажыцьцяўленьня кіраўніцтва арганізацыяй і кіраваньня чалавечымі рэсурсамі да ўзаемадзеяньня з грамадзкасьцю і прадастаўленьня якасных паслугаў.

Трэнінгі ня могуць выступаць у якасьці адзіных «разьвіваючых умяшальніцтваў». Трэнінгавыя праграмы, максымальна адаптаваныя да патрэбаў вызначанай арганізацыі, зьяўляюцца больш эфэктыўнымі, чым стандартныя праграмы, складзеныя без уліку індывідуальных асаблівасьцяў. Аднак шматлікія трэнінгі самі па сабе не прыносяць жаданых вынікаў і зьменаў. Яны зьяўляюцца толькі эфэктыўнымі інструмэнтамі набыцьця канкрэтных навыкаў і ведаў, неабходных для дасягненьня выніку. Трэнінгі могуць перадаць ў даступнай форме і ў сьціснуты тэрмін неабходныя веды, павысіць цікавасьць да розных АР-галінаў, прадаставіць магчымасьць папрактыкавацца ў прымяненьні новых мэтадаў працы. Але пасьля заканчэньня трэнінгу перад удзельнікамі заўсёды паўстае пытаньне пра неабходнасьць перанесьці навыкі зь «віртуальнай» рэальнасьці (аўдыторыі) у «суровыя будні» штодзённай працы. Таму індывідуальныя кансультацыі па прымяненьні набытых навыкаў зьяўляюцца вельмі дзейсным сродкам разьвіцьця арганізацыі.



АР - бесьперапынны працэс удасканаленьня арганізацыі. АР - гэта пастаянны працэс, а ня нейкае асобнае мерапрыемства ці набор неабходных дзеяньняў. Імгненных рашэньняў арганізацыйных праблемаў не існуе, як няма і спосабаў, якія маглі б вырашыць праблемы арганізацыі аднойчы і назаўжды. Самі арганізацыі пастаянна мяняюцца, бо растуць, пераходзяць з аднаго стану ў другі, бяруцца за рэалізацыю новых ідэяў і спрабуюць прыстасавацца да зьменлівай сытуацыі. Таму посьпех разьвіцьця залежыць ад удумлівых адносінаў і асэнсаваньня сваёй працы, а не ад прыхільнасьці да якоганебудзь аднаго мэтаду ці спосабу ажыцьцяўленьня зьменаў. Многія партнэры ABA/CEELI, якія з энтузіязмам успрынялі АР-ідэі і актыўна ўключыліся ў гэты працэс, прызнаюць, што часта сутыкаюцца з адчуваньнем «сьнежнага камяка»: паляпшэньне ў адной галіне дзейнасьці нечакана актуалізуе праблему пераўтварэньняў у другой, якія ў сваю чаргу нараджаюць новыя патрэбы ў зьменах.

Падтрымка кіраўніцтва зьяўляецца ключавым фактарам посьпеху ў працэсе ажыцьцяўленьня зьменаў у арганізацыі. Шматлікія ініцыятывы могуць аказацца дарэмнымі, калі няма падтрымкі з боку кіраўніцтва арганізацыі.

### З ЧАГО ПАЧАЦЬ?

Перш чым прымаць рашэньне пра неабходнасьць правядзеньня тых ці іншых арганізацыйных зьменаў, вы можаце правесьці самаацэнку АР-узроўню вашай арганізацыі і выбраць ключавыя напрамкі «працы над сабой». У інтэрнэце існуе вялікае мноства інфармацыйных рэсурсаў

# двацццаць год таму

Алесь Бяляцкі

**Працяг**

Праз пэўны час мы прыйшлі да высновы, што апроч «асьветніцкай» работы трэба было б пачынаць рабіць у Гомелі штосьці публічнае. Дзьве з такіх акцыяў прыдумаў я.

Неяк, купіўшы гуашы і пэндзлі, мы з Толікам Казловым пайшлі ў гомельскі парк, што над Сожам, і пачалі маляваць на драўляных прыступках высокіх сходаў, пакладзеных на стромах парку, «Жыве Беларусь!». Малявалі, аж пакуль не сутыкнуліся зь міліцэйскім патрулём, які так і не разабраўся, што гэта мы робім. Перапэцканыя гуашшу і трохі напалоханыя, мы вылецелі з парку.

Пазьней я папрасіў Сяргея Сыса (ён нейкі час вучыўся з намі на адным курсе) выразаць трафарэт «Жыве Беларусь!». Дзеля гэтага я адмыслова набыў балёнчык чырвонай аўтамабільнай эмалі. І якое ж было маё расчараваньне, калі аднойчы пасьля заняткаў я ўбачыў Сяргея, які хваліўся сваёй майкай з надпісам праз наш трафарэт «Жыве Беларусь!». Канспірацыя была праваленая.

Празь нейкі час ён прыбег у інтэрнат з шалёнымі вачыма і пацягнуў мяне на вуліцу, дзе паказаў будку тэлефоннага аўтамата, у сярэдзіне якой флямастарам было напісана тое ж магічнае «Жыве Беларусь!». Мы аббеглі яшчэ некалькі будак, і паўсюль бачылі гэты чароўны лёзунг. Нас ахапіла невыказаная радасьць: няўжо ў Гомелі ёсьць яшчэ нехта, хто спрабуе штосьці рабіць дзеля беларушчыны?! На наступны дзень я зь Сяргеем ужо абмалёўваў амаль усе будкі ў цэнтры.

На жаль, мы так і ня выйшлі на тых людзей; мне і зараз цікава было б даведацца, хто б гэта мог быць: заежджыя ці ўсё ж такі гомельскія беларусы...

Болей падобных акцыяў мы не праводзілі. Я разумеў, што як толькі гэтым зацікавіцца КДБ, ён непазьбежна выйдзе на нас, бо іншага беларускамоўнага асяродзьдзя ў горадзе папросту не было. Таму мы стараліся выкарыстоўваць і іншыя нагоды.

Увосень 1982 году менскае «Дынама» выйграла на саюзным чэмпіянаце. Матч адбываўся ўжо пад вечар. Адразу пасьля выйгрышу студэнцкія інтэрнаты ў Гомелі падазрона зацiхлі, а праз гадзіну ўжо вясёлыя студэнты вывалілі на Савецкую. Гэта была, мабыць, першая несавецкая дэманстрацыя ў горадзе за доўгія гады. Пад тысячу чалавек пайшло па вуліцы ў цэнтар, скандуючы: «Дынама» - чэмпіён!» Сярод іх, натуральна, былі і мы, а таму празь некалькі хвілінаў грамада падхапіла нязвыклае для ўсіх, але хутказапамінальнае «Жыве Беларусь!» Мы крычалі так, што пазрывалі галасы.

У кастрычніку 1983 г. пасьля разьні, якую наладзілі марксысты, на Грэнаду высадзіўся амэрыканскі дэсант. Рэакцыя Саюзу была дастаткова вострай і апэратыўнай: па ўсёй краіне хуценька былі арганізаваныя студэнцкія дэман-

# што такое арганізацыйнае разьвіцьцё?



па самаацэнцы. На жаль, большасьць зь іх на ангельскай мове. Вось толькі некаторыя цікавыя і карысныя спасылкі:

http://www.edc.org/INT/CapDev/dosafile/download/dosa.pdf

http://www.innonet.org/kidscount/kctool.pdf

http://www.nea.gov/pub/Lessons/Lessons/WARSHAWSKI.HTML

Што да расейскамоўных матэрыялаў, то па спасылцы http://www.srrc.ru/srrcf.html вы знойдзеце мэтадычны дапаможнік Паўднёвага рэгіянальнага рэсурсавага цэнтру «Инструмент самооценки НКО. Руководство к повышению эффективности организации» (Краснадар, 2000), а таксама іншыя публікацыі па пытаньнях дзейнасьці некамэрцыйных арганізацыяў.

На сайце Магілёўскага рэсурсавага цэнтру (http://krug.hypermart.net/liter/) ёсьць спасылка на табліцы («Оценка организационного развития НКО», Вакуленко А.), якія прапаноўваюць выкарыстоўваць для ацэнкі арганізацыйнага разьвіцьця і зьменаў, што адбываюцца ў арганізацыі зь цягам часу.

І яшчэ... Не забывайце, што посьпех спадарожнічае тым арганізацыям, чые стратэгіі накіраваныя на актыўнае выкарыстаньне іх унутранага патэнцыялу для зьменаў зьнешняга асяродзьдзя, а ня простага прыстасаваньня да яго...

Посьпехаў вам!

1 Цэнтральнаэўрапейская і эўразійская прававая ініцыятыва (CEELI) - гэта грамадзкі праект Амэрыканскай Асацыяцыі юрыстаў (ABA). Праект накіраваны на станаўленьне верхавенства права шляхам падтрымкі працэсаў прававой рэформы, якія праходзяць у Цэнтральнай Эўропе, Азіі, а таксама ў новых незалежных дзяржавах былога Савецкага Саюзу.

страцыі пратэсту. У гомельскім унівэрсытэце з заняткаў паздымалі малодшыя курсы, далі ім нейкія лёзунгі і загадалі дэфіляваць па Савецкай, якраз пад вокнамі нашага інтэрнату. «Свабоду Грэнадзе!» - гукаў наперадзе калёны нейкі камсамольчык. «Свабоду!» - адгукаліся студэнты, узрадаваныя нечаканай уласнай свабодай ад лекцыяў. «Жыве Беларусь!» - крычалі мы ў адчыненае акно. «Жыве!» - адказвала нам вясёлая дэманстрацыя.

Я рэгулярна наведваўся ў Менск да Вячоркаў, кватэра якіх была сапраўдным штабам беларушчыны. Памятаю, Вінцук праважаў мяне, а пасьля меўся сустрэцца са сьпеўным дуэтам, каб «папрацаваць» зь ім - то бок пераканаць пісаць беларускія песьні. Мы размаўлялі на вуліцы, аж пакуль не падышлі Алесь і Кася Камоцкія. Тады ўпершыню я пабачыў Камоцкіх, а неўзабаве пачуў іхныя беларускія песьні. Значыць, «размова» была выніковай.

Ва ўмовах кансьпірацыі, пад бел-чырвона-белымі сьцягамі мы зьбіраліся ў лесе пад Менскам, у Смольні, на сядзібе Якуба Коласа, дзе тады працаваў навуковым супрацоўнікам Сяржук Сокалаў-Воюш. Прыяжджалі ў асноўным менчукі; апроч вышэй згаданых таксама Алесь Суша, Сяргей Дубавец, Віктар Івашкевіч.

Мы праводзілі, як цяпер кажуць, «мазгавыя штурмы», вызначалі, што рабіць далей, як працаваць больш эфэктыўна. Спыніліся на тым, што для правядзеньня беларускай работы патрэбна прыкрыцьцё пад выглядам больш-менш легальных студэнцкіх, моладзевых аб'яднаньняў, якія б дазвалялі адкрыта працаваць зь людзьмі.

Улетку 84-га я зноў быў на раскопках у Гальшанах зь Ігарам Чарняўскім, і па ягонай падказцы пабываў у Вішневе, дзе пазнаёміўся з Уладзіславам Чарняўскім, першым беларускім ксяндзом, якога давялося ўбачыць на ўласныя вочы, першым беларусам яшчэ зь мінулага, дасавецкага часу. Ягоная ўпартая адданасьць беларушчыне, ягоныя аповеды пра ксяндза Адама Станкевіча, друйскіх марыянаў, ксяндзоў-беларусаў у эміграцыі давалі адчуваньне існаваньня беларушчыны ў часе і прасторы. Пасьля размовы зь ім я зразумеў, што мы ня першыя, што мы - чарговае пакаленьне, нашчадкі тых, хто змагаўся за беларушчыну і дзясяткамі, сотнямі тысячаў загінуў за яе. І мне чамусьці верылася, што наш лёс будзе лепшым.

У 1983 годзе ў Гомель прыехаў працаваць Сяргей Дубавец з жонкаю, Тацянай Сапач. Дубаўца разьмеркавалі ў «Гомельскую праўду», і ён пачаў шукаць людзей, прыхільных да беларушчыны, сярод свайго асяродзьдзя. Я зьвёў яго з нашым студэнцкім колам - у 1986 годзе некаторыя з гэтых людзей сталі заснавальнікамі гомельскай «Талакі».

Ужо пазьней, праз колькі гадоў, я пазнаёміўся зь людзьмі, на жыцьцё якіх нашая дзейнасьць аказала вялікі ўплыў. Мы нават не былі




добра знаёмыя, але нашыя дзеяньні, нашае існаваньне, як мне распавялі пазьней, урэшце прывяло і іх да беларушчыны. Гэты факт толькі пацьвярджае тэзу: ніколі нельга дакладна ацаніць сваю працу, заўсёды ёсьць нябачны для цябе ўплыў, незаўважныя на першы погляд вынікі тваёй працы, якія прабіваюцца на паверхню значна пазьней.

У 1984 годзе я скончыў унівэрсытэт і быў разьмеркаваны на працу ў сярэднюю школу ў Грабянях Лельчыцкага раёну. Вучням я даваў чытаць Караткевіча і распавядаў пра «Зялёны дуб», які ў іх мясьцінах ваяваў супраць бальшавікоў за незалежную Беларусь. Вёска спрэс размаўляла па-беларуску. У пятым класе быў адзін хлопчык, бацькі якога прыехалі з Расеі. За месяц на маіх вачах ён перайшоў на беларускую мову, каб быць такім, як усе.

Паралельна я рыхтаваўся да іспытаў у асьпірантуру пры Акадэмічным інстытуце літаратуры ў Менску. Калі ў жніўні я прыяжджаў у Гомель па рэкамэндацыю да Івана Штэйнэра, загадчыка катэдры беларускай літаратуры, той па сакрэце распавядаў, што ў ліпені на катэдру прыходзілі гэбісты, распытваліся пра мяне, цікавіліся, чым займаюся, што за групоўка існуе на факультэце. Нічога ім пэўнага не сказалі, але ў мяне сьціснула сэрца, павеяла халадком. «Вось яно, да чаго рыхтаваўся ўвесь час, пранюхалі і пайшлі па сьлядах, як ваўкі. Раней ці пазьней гэта павінна было здарыцца, але трэба працягваць рабіць беларускую работу і старацца не падстаўляцца», - думаў я.

# герой ня нашага часу

# Эўропа аддае перавагу zivilcourage

Сяргей Лабода,
Алена Вялічка
**ГА «Адукацыйны цэнтар «Пост»**

**«Чым больш у краіне грамадзянаў, якія праяўляюць грамадзянскую мужнасьць, тым у меншай колькасьці герояў яна мае патрэбу»**
Франка Магнані, італьянская журналістка

Zivilcourage (літаральна «грамадзянская мужнасьць») - гэта новы агульнаэўрапейскі фэномэн, своеасаблівы стыль жыцьця і, адпаведна, паводзінаў. Трэба адзначыць, што ў розных краінах гэтая зьява праяўляецца неаднолькава, але пэўныя агульныя моманты ёсьць. Грамадзянская мужнасьць - гэта перадусім неабыякавасьць да праяваў гвалту ў звычайным, будзённым жыцьці; гэта жаданьне ўмешвацца ў крытычныя сытуацыі, гэта валоданьне пэўнымі навыкамі паводзінаў у такіх абставінах. Грамадзянская мужнасьць адразу арыентуе на негвалтоўныя мадэлі паводзінаў пры вырашэньні канфліктных сытуацыяў.

* * *

Гісторыя зьявы «Zivilcourage» у Германіі налічвае амаль 150 гадоў, і першая згадка пра яе зьвязваецца зь імем «жалезнага канцлера» Ота фон Бісмарка, які ў 1864 годзе сказаў: «Мужнасьць на полі бою лічыцца ў нас усеагульным набыткам, але вельмі часта ў нас адсутнічае грамадзянская мужнасьць, нават у вартых павагі людзей». Пад грамадзянскай мужнасьцю Бісмарк разумеў «мужнасьць, якая праяўляецца кім-небудзь пры выказваньні свайго меркаваньня публічна, без аглядкі на магчымыя наступствы і пакараньні з боку ўладных структураў, кіраўніцтва і іншых вышэйстаячых органаў». З этымалягічнага пункту гледжаньня слова «Zivilcourage» мае ў сабе два асноўныя элемэнты: Civilis (лат.) - Zivil (ням.) = «грамадзянскі», як антонім да прыметніка «вайсковы/мілітарысцкі», і Courage (франц.) = мужнасьць, рашучасьць, сьмеласьць.

З часу выказваньняў Бісмарка тэма грамадзянскай мужнасьці праходзіла свайго роду чырвонай ніткай праз многія значныя этапы палітычнай гісторыі Германіі: пачынаючы з усьведамленьня злачынстваў Трэцяга рэйху, працэсаў над ваеннымі злачынцамі і заканчваючы грамадзкімі дэбатамі, інсьпіраванымі фільмам «Сьпіс Шындлера».

З канца 80-х гадоў тэма грамадзянскай мужнасьці ў Германіі напоўнілася іншай каньюнктурай і паступова стала ўключаць ў сябе новы сэнс, зьвязаны з важнай праблемай для любога грамадзтва: многія людзі пачуваюцца ўсё больш неабароненымі - адбываецца гэта ці па прычыне перажытага гвалту, раўнадушша, абыякавасьці, ці з-за пагрозаў, выкліканых пастаяннай прысутнасьцю гвалту ў СМІ, што падсілкоўваюцца рэаліямі будзённага жыцьця.

Толькі факты, якія бязь цяжкасьці можна знайсьці ў беларускай рэальнасьці.

У сьнежні 1989 году трое хлопчыкаў праваліліся пад лёд алімпійскага возера ў Мюнхене і патанулі. Многія дарослыя былі сьведкамі таго, як дзеці змагаліся за жыцьцё, але ніхто зь іх не прыйшоў на дапамогу...

У 1994 годзе ў адным з вагонаў бэрлінскай электрычкі скінхэды атакавалі афрыканца і выкінулі яго на поўным ходзе цягніка. Згодна з паліцэйскім рапартам, сьведкамі гэтага выпадку былі 15 чалавек - ніхто нават не паспрабаваў умяшацца ці хацяб націснуць на стоп-кран...

У 1997 годзе ў гамбургскім мэтро на вачах у многіх пасажыраў была згвалтаваная сямнаццацігадовая дзяўчына. Яна прасіла дапамагчы, але зноў - ігнараваньне і абыякавасьць. Больш за тое, некалькі пасажыраў выйшлі разам з ахвярай, якая плакала, на канечнай станцыі, а гвалтаўнік застаўся сядзець і спакойна паехаў на гэтым жа цягніку ў адваротным накірунку. Ніхто са сьведкаў у паліцыю не зьвярнуўся ...

Жахлівыя па сваёй сутнасьці факты адсутнасьці грамадзянскай мужнасьці, праяўленая абыякавасьць з аднаго боку і новыя, на жаль, не адзінкавыя формы праявы гвалту зь іншага боку прымусілі нямецкае грамадзтва прачнуцца і натхнілі шырокае кола насельніцтва на правядзеньне грамадзкай кампаніі «Zivilcourage» у многіх гарадах Германіі. Брэмэн быў адным зь першых у гэтым шэрагу.

* * *

Беларусь - краіна, дзе не вядзецца размоваў пра грамадзянскую мужнасьць, але гэтая размова вельмі патрэбная. Каб стала менш гвалту навокал, каб людзі задумаліся пра тое, якія ў іх ёсьць каштоўнасьці, правы, каб можна было паіншаму выходзіць з сытуацыяў, зьвязаных з гвалтам.

Калі запытаць у мінакоў на менскіх вуліцах, якія асацыяцыі выклікае ў іх словазлучэньне «грамадзянская мужнасьць», то ў адказ можна пачуць розныя, часта супярэчлівыя вэрсіі - ад «сьмеласьць», «барацьба», «палітыка» і заканчваючы «войска», «абавязак» і «радзіма». Нам, сябрам адукацыйнага цэнтру «Пост», было таксама нялёгка разабрацца ў сутнасьці Zivilcourage, калі мы паўтара гады таму ўдзель-

нічалі ў сваім першым сэмінары па дадзенай тэме, які праводзіў супрацоўнік Sozialer Friedensdienst Bremen (SFD-Bremen, Сацыяльная служба сьвету) Ґерд Плакэ і швэйцарскі пэдагог Эвэлін Штайнгер.

У нас не прынята гаварыць на тэму грамадзянскай мужнасьці. Некаторыя лічаць сваім абавязкам праявіць неабыякавасьць і не зьвяртаюць на гэта ўвагу. Для многіх гэтае словазлучэньне носіць палітычнае адценьне, у чым мы змаглі ўпэўніцца на ўласным досьведзе, калі спрабавалі дамовіцца з адным выдавецтвам пра тое, каб надрукаваць брашуру «Грамадзянская мужнасьць - супраць гвалту: зьвяртаць увагу, умешвацца, заяўляць у міліцыю. Парады для ахвяраў, сьведкаў і іншых маючых дачыненьне».

Супрацоўніца выдавецтва, як толькі пачула словазлучэньне «грамадзянская мужнасьць», адразу ж замахала рукамі і сказала, што яны не друкуюць літаратуру палітычнай накіраванасьці. Давялося вельмі доўга і зразумела тлумачыць ёй, што гэта не зьвязана з палітыкай. У выніку выдавецтва ўсё ж надрукавала брашуру бяз рызыкі для сваёй рэпутацыі.

* * *

Нашая брашура папоўніла вельмі малы сьпіс беларускай літаратуры па грамадзянскай мужнасьці. Айчынныя інтэрнэт-рэсурсы, таксама як і расейскія, вельмі бедныя на гэтую тэму. Як гэта ні парадаксальна, але абмежаванасьць сьпісу крыніцаў - гэта й добра: асаблівасьць Zivilcourage заключаецца ў тым, што яго патрэбна адчуць. Прачытаць - гэта добра, але абавязкова адчуць.

Звычайна, калі чалавек трапляе ў сытуацыю, зьвязаную з гвалтам, у адказ успыхвае агрэсіяй ці праяўляе абыякавасьць, страх - іншых варыянтаў, як правіла, няма. З гвалтам мы сустракаемся штодзённа. Яго можна ўбачыць паўсюль: у словах, у карцінах з жыцьця, ва ўчынках і дзеяньнях. У кожнага існуе свой досьвед гвалту. Ці ў ролі назіральніка, ці ў ролі ахвяры, а часам і ў ролі гвалтаўніка. Ёсьць гвалт, пра які гавораць. Ёсьць гвалт, пра які маўчаць. Ёсьць гвалт, які цяжка распазнаць, таму што часта ён пачынаецца з малога. Гвалт ахоплівае вялікі спэктар дзеяньняў людзей і стасункаў паміж імі, яго наступствамі зьяўляюцца фізычныя і псыхічныя траўмы ці боль (гвалт над вызначанай асобай). Гвалт можа таксама быць накіраваны на прадметы навакольнага асяродзьдзя і жыцьцёвай прасторы (вандалізм). Гвалт можа абазначаць ушчамленьне правоў, а таксама праяўляцца ў сытуацыях, калі чалавек сам сабе наносіць шкоду. Гвалт выражаецца ў сацыяльнай несправядлівасьці, якая перашкаджае раскрыцьцю патэнцыйных магчымасьцяў чалавека.

Досьвед гвалту можа быць фізычнага, псыхічнага і структурнага віду (у апошнім выпадку - з боку розных грамадзка-сацыяльных інстытутаў ад дзяржавы да фірмы-працадаўцы), які ў сваю чаргу можа выклікаць гвалт у адказ.

Мы не выпадкова дазволілі сабе падрабязна спыніцца на тэме гвалту, таму што ў аснове сучаснага разуменьня фэномэну «грамадзянская мужнасьць» ляжыць менавіта «негвалтоўная нэўтралізацыя гвалту» - і, у адрозьненьні ад часоў Бісмарка, ня проста публічная заява сваёй пазыцыі, але і дзеяньне.

Неацэнную карысьць прынёс нам як мультыплікатарам ідэі «грамадзянскай мужнасьці» сёлетні стаж у Брэмэне, арганізаваны цэнтрам «Пост» і SFD-Bremen пры падтрымцы Фундацыі Бошу. Мэтай стажу было знаёмства з досьведам Германіі ў дадзеным пытаньні. Атрыманы досьвед плянуецца адаптаваць і рэалізаваць у Беларусі з дапамогай правядзеньня адукацыйных сэмінараў і трэнінгаў, а таксама арганізацыі акцыяў, прыцягненьня ўвагі грамадзкасьці да фэномэну грамадзянскай мужнасьці.

Самае парадаксальнае, што існуе ў нашым грамадзтве - гэта несупадзеньне каштоўнасьцяў. Калі параўноўваць грамадзкія і асобасныя каштоўнасьці, то гэта будуць практычна два розныя сьпісы. Удзельнікі сэмінараў складаюць гэтыя два сьпісы і параўноўваюць іх - узьнікае зьдзіўленьне, а потым пытаньне: чаму? Людзі пачынаюць задумвацца пра сваю пазыцыю, пра свае каштоўнасьці, пра свае правы. І пасьля такіх роздумаў ужо наўрад ці спакойна пройдзеш міма таго, міма чаго праходзіў раней.

Таму асабліва важным уяўляецца правядзеньне адукацыйных сэмінараў і трэнінгаў, дзе ўдзельнікі, правёўшы ролевыя гульні ды ўзяўшы ўдзел у дыскусіях, змаглі б задумацца над тым, як можа быць па-іншаму. У нас ужо ёсьць досьвед правядзеньня падобных адукацыйных сэмінараў як з падлеткамі, так і з пэдагогамі. І, аналізуючы атрыманы досьвед, ловіш сябе на думцы, што праблема заключаецца як у неведаньні сваіх правоў і няўменьні іх адстойваць, так і ў адсутнасьці ўпэўненасьці, што ты робіш усё правільна.

Мы хочам паспрыяць таму, каб людзі не заставаліся абыякавымі і даведаліся, якія ёсьць магчымасьці пазьбегнуць гвалту, як трэба дзейнічаць у сытуацыях, зьвязаных з пагрозай гвалту.

Больш падрабязную інфармацыю пра беларускі Zivilcourage можна атрымаць у цэнтры «Пост».



# «ЗА ЧЫСЬЦІНЮ ВЕРЫ!»

Юрась Арлоўскі


паводле www.ucpb.org

31 траўня 2002 году Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу Рэспублікі Беларусь прыняла ў першым чытаньні праект закону «Аб унясеньні зьменаў і дапаўненьняў у Закон Рэспублікі Беларусь «Аб свабодзе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыях». Па сутнасьці, вядзецца пра карэнную зьмену стану свабоды веравызнаньняў у краіне.

Гэтая падзея выклікала занепакоенасьць ня толькі ў рэлігійных арганізацыях краіны, але і сярод звычайных вернікаў. Пераважная большасьць прадстаўнікоў грамадзкасьці называе новы закон недэмакратычным, адзначае яго скіраванасьць на ўціск правоў вернікаў і рэлігійных арганізацыяў. Пры распрацоўцы такога важнага нарматыўна-прававога акту не былі ўлічаныя прапановы з боку рэлігійных арганізацыяў, чые інтарэсы ён закранае, былі праігнараваныя міжнародныя стандарты ў галіне правоў чалавека і шматвекавыя традыцыі рэлігійнай талерантнасьці ў Беларусі, не было праведзена публічнае абмеркаваньне законапраекту.

З мэтай прыцягненьня ўвагі да гэтай праблемы 12 чэрвеня была створаная грамадзянская ініцыятыва «За свабоднае веравызнаньне», у якую ўвайшлі ня толькі прадстаўнікі самых розных канфэсіяў краіны, але і сьвецкія грамадзкія арганізацыі, аб'яднаныя ў Асамблею няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў Беларусі. Прадстаўнікі апошняй матывавалі свой удзел у новастворанай ініцыятыве тым, што ціск на рэлігійныя арганізацыі варта разглядаць як частку шырокамаштабнага наступу, які вядзецца беларускай адміністрацыяй супраць структураў грамадзянскай супольнасьці. Улады, паставіўшы пад жорсткі кантроль незалежную прэсу, грамадзкія аб'яднаньні і палітычныя партыі, зараз імкнуцца кантраляваць і рэлігійныя арганізацыі.

Напачатку жніўня па ініцыятыве грамадзкага аб'яднаньня «Цэнтар па правах чалавека» (старшыня Вера Страмкоўская) была праведзена навуковая канфэрэнцыя «Рэлігія і дэмакратыя», у якой узялі ўдзел прадстаўнікі канфэсіяў, праваабарончых арганізацыяў, Камітэту па справах рэлігіяў, навукоўцы і сьвятары. Канфэрэнцыя выявіла неадназначнае стаўленьне да гэтай праблемы з боку розных зацікаўленых суб'ектаў. Пераважная большасьць удзельнікаў канфэрэнцыі адзначылі, што прыняцьце законапраекту ў існуючым выглядзе непазьбежна прывядзе да міжканфэсійных канфліктаў, росту рэлігійнай нецярпімасьці і фундамэнталізму. Была прынятая адмысловая заява з заклікам да сэнатараў Савету Рэспублікі Нацыянальнага Сходу адказна падысьці да дадзенага пытаньня і адхіліць законапраект, каб у далейшым правесьці яго галоснае абмеркаваньне і ўзгадненьне з усімі канфэсіямі.

### «ХТО НЯ З НАМІ?..»

Назіральнікі перш за ўсё спрабуюць адказаць, хто, уласна кажучы, лябіяваў прыняцьце закону. Адказ амаль заўсёды адзін і той жа - Беларускі Экзархат Расейскай Праваслаўнай Царквы. Не навіна, што распрацоўшчыкі законапраекту працавалі ў шчыльным кантакце зь юрыстамі Экзархату і ўлічвалі перш за ўсё іх заўвагі. Заўвагі з боку прадстаўнікоў іншых канфэсіяў ігнараваліся.

У гэтым сэнсе зьяўляецца паказальнай прэамбула да новага закону, якая прызнае праваслаўе асноўнай і вызначальнай традыцыйнай канфэсіяй краіны. У якасьці гістарычна існуючых прызнаюцца каталіцызм, юдаізм, суніцкі іслам, асобныя плыні пратэстантызму. Іншыя канфэсіі, пастаўленыя ў становішча другарадных і непажаданых, паводле закону выяўляюцца «чужднымі беларускаму народу». Супраць іх і накіраваны законапраект - гэта прызнаюць нават самі яго аўтары, калі гавораць пра змаганьне зь «нетрадыцыйнымі і таталітарнымі сэктамі». Нераўнапраўе веравызнаньняў і рэлігійных арганізацыяў чырвонай ніткай праходзіць па ўсім тэксьце законапраекту. Тут бачная неадпаведнасьць ня толькі міжнародным прынцыпам свабоды сумленьня (напрыклад, Міжнароднаму пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах), але і Канстытуцыі Беларусі. Вядома, прэамбула не зьяўляецца нарматыўнай часткай закону, але яна вызначае яго дух, таму ўвесь тэкст варта разглядаць скрозь прызму нераўнапраўя веравызнаньняў.

# Палявыя выпрабаваньні новага закону аб рэлігіі пачаліся

Распрацоўшчыкі законапраекту матывуюць яго жорсткі зьмест неабходнасьцю змагацца з «дэструктыўнымі нэакультамі і таталітарнымі сэктамі» кшталту сумнавядомых АУМ Сенрыкё альбо Белага Брацтва. Аднак гэтыя тэзы не вытрымліваюць аніякай крытыкі. Справа ў тым, што новы закон не датычыцца арганізацыяў такога кшталту, менавіта гэтых самых «дэструктыўных» груповак. І сапраўды, цяжка сабе ўявіць, што суполка сатаністаў заўтра панясе статут, у якім прадугледжаныя процізаконныя мэты, на рэгістрацыю. Гэткія арганізацыі часьцей за ўсё ня прагнуць легалізацыі, не імкнуцца зарэгістраваць свае структуры - ня будуць яны гэтага рабіць і пасьля прыняцьця новага закону. Да таго ж гэткія выпадкі знаходзяцца ў кампэтэнцыі звычайных праваахоўных органаў, і ў Крымінальным кодэксе хапае артыкулаў, па якіх такія арганізацыі можна прыцягнуць да адказнасьці. Прапанаваны ж законапраект створыць перашкоды на шляху дзейнасьці менавіта тых арганізацыяў, якія жадаюць ажыцьцяўляць сваю дзейнасьць легальна, імкнуцца законным чынам інтэгравацца ў супольнасьць. Якраз яны і пацерпяць ад прыняцьця новага закону, бо большая частка зь іх будзе выштурхнутая па-за межы прававога поля. Яны будуць вымушаныя перайсьці на нелегальнае становішча альбо маскаваць сваю дзейнасьць пад выглядам сьвецкіх грамадзкіх арганізацыяў.

Паказальна, што закон, мэтай якога дэкляруецца барацьба з «таталітарнымі, дэструктыўнымі, нетрадыцыйнымі сэктамі, нэакультамі», нават ня ўзгадвае гэтыя паняцьці. Такім чынам, адкрыты шлях для адвольнага навешваньня ярлыкоў. Якая канфэсія можа быць упэўненая, што яе заўтра не палічаць нэакультам?

Відавочна, што жорсткі зьмест законапраекту будзе патрабаваць адэкватна жорсткіх мераў па яго выкананьні з боку ўладаў, таму можна чакаць рэлігійных рэпрэсіяў. Верагодна, у хуткім часе нам давядзецца прызвычаіцца да такіх падзеяў, якія разгорталіся ў жніўні ў мястэчку Пагранічным, што на Гарадзеншчыне. Мясцовыя ўлады адмянілі дазвол на пабудову праваслаўнай царквы, якая не адносіцца да Маскоўскага патрыярхату. Трэба думаць, што для чыноўнікаў мясцовай адміністрацыі і Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасьцяў аўтакефальная праваслаўная царква адносіцца якраз да дэструктыўных нэакультаў.

І сапраўды, з пункту гледжаньня ўладаў, аўтакефальная праваслаўная царква зьяўляецца дэструктыўнай, бо яна ствapae канкурэнцыю РПЦ, што падтрымліваецца дзяржавай, а тая ў сваю чаргу сама робіць шмат для падтрымкі аўтарытэту ўладаў. Менавіта гэта і можна назваць ідэалягічна абгрунтаваным падыходам да справы фармаваньня дзяржаўна-царкоўнай палітыкі. Зараз у Пагранічным сьвятар мясцовай царквы Ян Спасюк вымушаны хавацца ад арышту па хатах прыхажанаў, міліцыя разбурыла храм, а вернікам забараняецца набліжацца да будынку храма на кілямэтар.

Вельмі верагодна, што хутка супрацоўнікі Камітэту па справах рэлігіяў будуць граць ролю рэлігійнай паліцыі: руйнаваць «няправільныя» храмы, разганяць падпольныя малельныя дамы (закон забараняе праводзіць службы на прыватных хатах), вылаўліваць замежных місіянэраў, паліць вогнішчы зь недазволенай рэлігійнай літаратуры.

Пагроза непазьбежнага і масавага парушэньня правоў вернікаў прыцягнула ўвагу праваабаронцаў і канфэсіяў яшчэ на стадыі распрацоўкі закону. У 2001 годзе старшыня Беларускага хельсінскага камітэту Тацяна Працька зьвярнула ўвагу на тое, што ён пагражае непазьбежным распальваньнем рэлігійнай варожасьці, ксэнафобіі і нецярпімасьці: «Гэты таталітарны закон не прадугледжвае асабістай свабоды чалавека вызнаваць сваю рэлігію, паколькі ён фактычна дае права на веравызнаньне толькі групе асобаў у колькасьці ня меней за 20 чалавек. А палажэньні артыкулаў пра неабходнасьць папярэдняй экспэртызы рэлігійнай літаратуры пагражаюць непазьбежнай цэнзурай».

### У ПОШУКАХ ПАДВОЙНЫХ СТАНДАРТАЎ

...беларускім чыноўнікам няма роўных - гэта прызнаны факт. Адным з бранябойных аргумэнтаў на карысьць новага закону кіраўніцтва Камітэту па справах рэлігіяў разглядае экспэртызу беларускага законапраекту, зробленую расейскім Інстытутам рэлігіі і права. Падчас першага чытаньня законапраекту ў парлямэнце прадстаўнік Камітэту заяўляў, што гэтае заключэньне было пазытыўным - і ў якасьці доказу зачытаў толькі адзін радок, маўляў, у параўнаньні зь мінулай рэдакцыяй закон зьмяніўся ў лепшы бок. Але 13 чэрвеня расейскі бок распаўсюдзіў адмысловую заяву: звесткі пра экспэртызу былі пададзеныя беларускім Камітэтам некарэктна.

На самой справе заключэньне інстытуту было адмоўным. «У тэксьце законапраекту ўтрымліваюцца палажэньні, якія яўна супярэчаць міжнародным стандартам свабоды веравызнаньня і сумленьня, а таксама Канвэнцыі СНД 1995 г. «Аб правах чалавека». У параўнаньні зь дзеючым законам, новыя нормы адрозьніваюцца ў горшы бок і істотна ўціскаюць свабоду сумленьня і веравызнаньня ў РБ.» Як лічаць экспэрты, прыняцьце законапраекту ў гэтым выглядзе можа выклікаць масавыя парушэньні правоў вернікаў і рэлігійных арганізацыяў. Праекту патрэбная сур'ёзная дапрацоўка.

Расейскія правазнаўцы зьвярнулі ўвагу на тую асаблівасьць, што рэлігійныя арганізацыі падлягаюць абавязковай дзяржаўнай рэгістрацыі. Разам з тым у тэксьце праекту закону ня згадваецца тое, што грамадзяне маюць права сумесна спавядаць рэлігію без утварэньня юрыдычнай асобы. То бок нават самастойнае вывучэньне Біблі запатрабуе стварэньня асобнай рэлігійнай суполкі з 20-ці чалавек. Гэта зьяўляецца відавочным парушэньнем артыкула 18 Міжнароднага пакту аб грамадзянскіх і палітычных правах, які гарантуе кожнаму чалавеку права вызнаваць сваю рэлігію як адзінаасобна, так і супольна зь іншымі людзьмі, як прыватна, так і публічным чынам. Гэтае права можа быць абмежаванае толькі ў інтарэсах грамадзкай бясьпекі, здароўя, правоў і свабодаў іншых асобаў. Між тым дадзены законапраект, напрыклад, забараняе стварэньне рэлігійных аб'яднаньняў грамадзянамі, якія не пражываюць у адным альбо ў сумежных населеных пунктах.

Нам кажуць, што ў іншых краінах таксама існуе практыка рэгістрацыі рэлігійных суполак.

Так, у Аўстрыі для рэгістрацыі рэлігійнай суполкі трэба мець ня меней за 300 вернікаў, існуюць падобныя абмежаваньні ў Эстоніі, Латвіі, на Ўкраіне, у іншых краінах. Але пры гэтым не зьвяртаецца ўвага на тое, што эстонская ці ўкраінская рэлігійная суполка можа існаваць і без рэгістрацыі. Вядома, яна пры гэтым ня мае прававога статусу юрыдычнай асобы (і, адпаведна, ня мае права набываць маёмасьць, ня мае права на падатковыя ільготы, ня можа займацца асобнымі відамі дабрачыннай і адукацыйнай дзейнасьці), але хіба ж гэта галоўнае для духоўнай арганізацыі? Адсутнасьць рэгістрацыі не пазбаўляе грамадзянаў права супольна вызнаваць сваю рэлігію. У Беларусі дзейнасьць недазволеных груповак забароненая, існуе адміністратыўная адказнасьць за дзейнасьць ад імя незарэгістраванай арганізацыі, таму правядзеньне нефармальных сустрэчаў ці сумесных малітваў «незарэгістраваным» вернікам пагражае прыцягненьнем да адказнасьці па артыкуле 167-10 Кодэксу аб адміністратыўных правапарушэньнях.

Выклікае занепакоенасьць і палажэньне праекту, дзе вызначаецца, што кіраўніком рэлігійнай арганізацыі можа быць толькі грамадзянін Рэспублікі Беларусь. Але практыка паказвае, што дзесяцігодзьдзі прымусовага атэізму наклалі свой адбітак на наяўнасьць сьвятароў-беларусаў - вельмі часта рэлігійныя арганізацыі ня могуць абысьціся без замежнікаў - сваіх папросту ня выгадавалі.

### «МАРАЗМ КРЕПЧАЛ»

Выклікаюць пытаньні тыя нормы законапраекту, якія датычацца ліквідацыі арганізацыяў. Згодна з новым палажэньнем, дзейнасьць такой арганізацыі можна прыпыніць у выпадку атрыманьня двух папярэджаньняў Камітэту за парушэньне заканадаўства альбо статуту (артыкул 38). Гэта значыць, што калі ў царкве двойчы парушаюцца, напрыклад, правілы проціпажарнай бясьпекі (няма пляну эвакуацыі, няма вогнетушыцеля) ці правілы справаводзтва, то рэлігійную арганізацыю можна ліквідаваць.

Увогуле сыстэма папярэджаньняў ад рэгіструючых арганізацыяў - гэта збольшага шантаж. Мы ведаем, што ў Беларусі няма незалежнай судовай улады, і таму суд будзе выключна пацьвярджаць рашэньні выканаўчай улады. Увогуле незразумелыя кантрольныя функцыі Камітэту па справах рэлігіяў - ці ёсьць там спэцыялісты ва ўсіх сфэрах заканадаўства, каб кантраляваць усе бакі дзейнасьці рэлігійнай арганізацыі?

Законам прадугледжваецца, што арганізацыя можа быць ліквідаваная ў выпадку нанясеньня шкоды здароўю і маралі грамадзянаў. Аднак у артыкуле не агаворваецца, што гэтая шкода можа быць вызначаная толькі ў судовым парадку. Такім чынам ствараюцца ўмовы для несудовай расправы над аб'яднаньнямі вернікаў.

У адпаведнасьці з новым законам рэлігійнае аб'яднаньне ствараецца толькі пры наяўнасьці ня менш за 10 рэлігійных суполак (кожная колькасьцю ня меней за 20 дарослых людзей), якія дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі ня менш за 15 год. Але гэтая норма навязвае вернікам арганізацыйную структуру, якая можа супярэчыць іх рэлігійным перакананьням. Напрыклад, як заўважае Прэзыдэнт Рэлігійнага аб'яднаньня суполак прагрэсіўнага юдаізму Якаў Басін, згодна з габрэйскімі традыцыямі, рэлігійная суполка ствараецца пры наяўнасьці 10 вернікаў. Тым самым законапраект ігнаруе нацыянальныя і рэлігійныя традыцыі народаў, якія ўтвараюць беларускую нацыю. Прадстаўнікі каталіцкай царквы адзначаюць, што традыцыйна існуючыя ў межах каталіцкай царквы аўтаномныя адзінкі - ордэны - ня могуць паўнавартасна існаваць згодна з новым заканадаўствам, адзінае выйсьце - рэгістраваць іх як асобныя рэлігійныя арганізацыі. Выклікае пытаньні і зацьверджаньне згаданага выпрабавальчага тэрміну дзейнасьці рэлігійных аб'яднаньняў. Як піша ў сваім экспэртным заключэньні Інстытут рэлігіі і права РФ, «пятнаццаць год таму на тэрыторыі былога Савецкага Саюзу фізычна не маглі існаваць шмат якія гістарычна вядомыя і паважаныя канфэсіі». Дарэчы, ці існавалі пятнаццаць год таму ў Беларусі ўніяты? Гэта будзе вырашаць нейкі «экспэртны савет». І калі ён дасьць адмоўны адказ, нацыянальнае беларускае веравызнаньне, якое існавала тут стагодзьдзямі, на доўгія гады апынецца па-за законам, чакаючы пятнаццаць год.

Вядома, дзеючы закон аб свабодзе веравызнаньняў узору 1992 году не бездакорны, але ў параўнаньні з гэтым законапраектам ён зьяўляецца цудам лібэральнай заканатворчай думкі. Ды што там стары закон! Нават сярэднявечнае беларускае заканадаўства было больш прагрэсіўнае, яно ня ўмешвалася ва ўнутраныя справы вернікаў, прынамсі, не навязвала ім структуру іх уласных аб'яднаньняў. Нашыя продкі дэманструюць нам узоры талерантнасьці і верацярпімасьці.

дарэчы

## ЭЎРАЗЬВЯЗ ВЫСТУПІЎ З ЗАЯВАЙ АДНОСНА СТАНУ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА Ў БЕЛАРУСІ

Эўрапейскія структуры лічаць, што законапраект «Аб свабодзе сумленьня і рэлігійных арганізацыях» пагоршыць і без таго нестабільную сытуацыю з правам беларусаў на вольнае веравызнаньне. Эўрапейскі зьвяз заклапочаны тым, што дыскрымінацыйны законапраект супярэчыць міжнародным абавязкам, узятым на сябе Рэспублікай Беларусь.

У заяве, прынятай напрыканцы жніўня, выказваецца пазыцыя арганізацыі адносна новага беларускага закону аб свабодзе сумленьня.

«Эўразьвяз занепакоены тым, што дадзены закон зробіцца дыскрымінацыйным у адносінах да рэлігійных суполак, якія з гэтага моманту будуць градуявацца па ступені іх важнасьці для дзяржавы. На падставе гэтага закону будзе магчымае ажыцьцяўленьне цэнзуры ў адносінах да рэлігійных выданьняў, якія трэба будзе прадастаўляць уладам да таго, як яны выйдуць у сьвет. Закон таксама можа быць сродкам кантролю за дзейнасьцю рэлігійных аб'яднаньняў і прымяненьня супраць іх санкцыяў у самых розных выпадках. Уяўляецца сумнеўнай адпаведнасьць дадзенага закону - у выпадку яго зацьверджаньня - міжнародным дакумэнтам, падпісаным Рэспублікай Беларусь».

29 жніўня гэтую заяву падтрымала Амбасада Злучаных Штатаў Амэрыкі. Нагадаем, што ЗША ўжо выказвалі сваё адмоўнае стаўленьне да гэтага законапраекту яшчэ ў чэрвені бягучага году, напярэдадні яго зацьверджаньня Палатай Прадстаўнікоў Нацыянальнага Сходу.

# сяброўства ў грамадзкіх аб'яднаньнях

Вольга Смалянка,
**ГА «Незалежнае таварыства прававых дасьледаваньняў»**



З моманту ўступленьня ў сілу Дэкрэту Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь ад 26 студзеня 1999 году № 2 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаваньні дзейнасьці палітычных партыяў, прафэсійных саюзаў, іншых грамадзкіх аб'яднаньняў» грамадзкія аб'яднаньні (ГА) павінны мець фіксаванае сяброўства. Яно прадугледжанае і ў арт.9 Закону РБ «Пра грамадзкія аб'яднаньні». Сябрамі ГА могуць быць толькі фізычныя асобы.

Фіксаванае сяброўства абазначае, што ГА абавязаныя выконваць працэдуру прыёму і выключэньня зь сябраў, прадугледжаную Статутам, весьці ўлік сваіх сябраў. Улік сябраў, як правіла, зьдзяйсьняецца органам, да кампэтэнцыі якога аднесена вядзеньне дадзенага ўліку Статутам ГА. Форма ўліку сябраў заканадаўствам не ўстаноўленая, таму ўлік вядзецца ў адвольным парадку. Можна парэкамэндаваць весьці ўлік сябраў аб'яднаньня шляхам складаньня сьпісаў, табліцаў; у арганізацыях зь вялікай колькасьцю сябраў - шляхам вядзеньня картак, кнігаў уліку і інш. Пажадана, каб асабістыя дадзеныя пра сяброўства ў ГА ўтрымлівалі зьвесткі:

**1. Прозьвішча, імя, імя па бацьку;**
**2. Дата нараджэньня;**
**3. Грамадзянства;**
**4. Месца жыхарства, нумар хатняга тэлефона;**
**5. Месца працы (вучобы), пасада, нумар працоўнага тэлефона.**

ГА павінны захоўваць дакумэнты, якія пацьвярджаюць сяброўства ў іх грамадзянаў. Дадзеныя дакумэнты фармуюцца ў асобныя папкі, і ім прысвойваецца адпаведны індэкс па намэнклятуры справаў. Як правіла, дакумэнтамі, якія сьцьвярджаюць сяброўства грамадзянаў у ГА, зьяўляюцца іх заявы пра ўступленьне ў сябры ГА, а таксама пратаколы паседжаньняў адпаведнага калегіяльнага органа ГА аб прыняцьці дадзеных грамадзянаў у яго сябры. Дакумэнтамі, якія сьцьвярджаюць сяброўства заснавальнікаў у ГА, зьяўляюцца сьпіс ініцыятараў стварэньня і пратакол устаноўчага мерапрыемства ГА.

У выпадку выключэньня ці выхаду грамадзяніна зь ліку сябраў аб'яднаньня дакумэнтамі, якія сьцьвярджаюць дадзены факт, зьяўляюцца пратаколы паседжаньняў адпаведнага калегіяльнага органа пра выключэньне зь ліку сябраў альбо заяўленьне аб выхадзе зь ліку сябраў. Выкананьне парадку прыёму, уліку і выключэньня зь ліку сябраў зьяўляецца адным з пытаньняў, на якое зьвяртае ўвагу рэгіструючы орган пры праверцы адпаведнасьці дзейнасьці ГА яго Статуту.

Неабходна сачыць таксама за адпаведнасьцю колькасьці сябраў ГА яго статусу. Наяўнасьць неабходнай для правамоцнай дзейнасьці ў адпаведнасьці са статусам ГА колькасьці сябраў таксама правяраецца рэгіструючым органам. У адпаведнасьці з арт. 8 Закону Рэспублікі Беларусь «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях» для дзейнасьці аб'яднаньняў у РБ неабходная наяўнасьць:

- для рэспубліканскіх ГА - ня меней за 10 сябраў ад большасьці вобласьцяў, а таксама ад Менску (г.зн. ня меней за 50 сябраў);
- для міжнародных ГА - ня меней за 10 сябраў ад РБ, а таксама ня меней як аднаго сябра ад адной ці некалькіх замежных дзяржаваў[1];
- для мясцовых ГА - ня меней за 10 сябраў у большасьці адміністратыўна-тэрытарыяльных адзінак тэрыторыі, на якую будзе распаўсюджвацца дзейнасьць аб'яднаньня.

У адпаведнасьці са Статутам, сябры аб'яднаньняў маюць адпаведныя правы і абавязкі. Як правіла, правы наступныя:

- браць удзел у агульных сходах;
- выбіраць і быць абранымі ў кіруючыя і кантрольна-рэвізійныя органы аб'яднаньня па дасягненьні паўналецьця;

- уносіць прапановы ў органы аб'яднаньня, зьвязаныя зь яго дзейнасьцю, і браць удзел у іх абмеркаваньні;
- атрымліваць інфармацыю пра дзейнасьць аб'яднаньня, пра мерапрыемствы, якія плянуюцца;
- браць удзел ва ўсіх мерапрыемствах, якія праводзіць аб'яднаньне;
- мець магчымасьць вольна выходзіць зь ліку сябраў аб'яднаньня.

**Абавязкі:**
- рэгулярна плаціць сяброўскія ўнёскі ў парадку і памерах, устаноўленых Статутам ці кампэтэнтным органам аб'яднаньня (у выпадку іх наяўнасьці);
- выконваць Статут і іншыя ўнутраныя прадпісаньні аб'яднаньня;
- замацоўваць аўтарытэт і берагчы маёмасьць аб'яднаньня;
- садзейнічаць выкананьню мэтаў і задачаў аб'яднаньня;
- выконваць рашэньні органаў ГА, прынятыя ў межах іх кампэтэнцыі.

Хацелася б больш падрабязна спыніцца на такім абавязку сябраў ГА, як выплата сяброўскіх унёскаў.

### ПАРАДАК АФАРМЛЕНЬНЯ ВЫПЛАТЫ ЎСТУПНЫХ І СЯБРОЎСКІХ УНЁСКАЎ

У адпаведнасьці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб грамадзкіх аб'яднаньнях» ад 4 кастрычніка 1994 г. № 3254-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 22 чэрвеня 2001 г.) уступныя і сяброўскія ўнёскі зьяўляюцца адной з крыніцаў фармаваньня сродкаў і маёмасьці ГА.

Згодна з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатку на даходы і прыбытак» ад 22 сьнежня 1991 г. № 1330-XII (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 8 студзеня 2002 г.) уступныя, паёвыя і сяброўскія ўнёскі ў памерах, прадугледжаных Статутамі ГА, не ўключаюцца ў склад даходу ад пазарэалізацыйных апэрацыяў для мэтаў падаткаабкладаньня, г.зн. не абкладаюцца падаткам на прыбытак.

Для таго, каб у аб'яднаньня не ўзьнікала праблемаў ва ўзаемаадносінах з падатковай інспэкцыяй і рэгіструючымі (кантралюючымі) органамі, неабходна памятаць наступнае.

Памер сяброўскіх і ўступных унёскаў у ГА можа быць непасрэдна ўстаноўлены ў Статуце аб'яднаньня. У гэтым выпадку ўступныя і сяброўскія ўнёскі павінны зьбірацца, інакш гэта можа быць разгледжана рэгіструючым (кантралюючым) органам як парушэньне Статуту. Усе сябры аб'яднаньня, калі ўступаюць ў яго, выплачваюць уступны ўнёсак у вызначаным памеры, роўна як і сябры аб'яднаньня выплачваюць сяброўскія ўнёскі па дадзенай фіксаванай стаўцы. У адпаведнасьці са Статутам кампэтэнтным органам можа быць прынятае рашэньне аб вызваленьні асобных сябраў ГА ад выплаты сяброўскіх унёскаў, для асобных сябраў памер унёскаў можа быць зьніжаны.

У Статуце можа быць не прадугледжаны памер уступнага і сяброўскага ўнёскаў, а вызначаны орган, які прымае рашэньне па дадзеным пытаньні і вызначае парадак выплаты сяброўскіх унёскаў. У гэтым выпадку ўступныя і сяброўскія ўнёскі таксама павінныя зьбірацца, аднак стаўка ўступнага і сяброўскага ўнёскаў можа быць устаноўленая ў любым памеры, аж да нулявога. У дадзеным выпадку рашэньне аб парадку выплаты і стаўцы ўступнага і сяброўскіх ўнёскаў прымае орган, надзелены такім правам у адпаведнасьці са Статутам. Дадзенае рашэньне афармляецца пратаколам (не забывайце аб правілах вядзеньня справаводзтва: пратаколы афармляюцца ў адпаведнасьці зь Дзяржаўным стандартам РБ на арганізацыйна-распарадчую дакумэнтацыю СТБ 6.38-95). На практыцы дадзенае рашэньне прыраўноўваецца да таго, што памер сяброўскіх унёскаў прадугледжаны ў Статуце. Як правіла, падатковыя інспэкцыі патрабуюць ад ГА прадастаўленьня напрыканцы году пратаколу паседжаньня кампэтэнтнага органа, у якім прымаецца рашэньне аб парадку выплаты і памеры ўступнага і сяброўскага ўнёскаў, а таксама сьпіс сябраў арганізацыі.

Калі ў Статуце не прадугледжана выплата ўступнага і сяброўскага ўнёскаў сябрамі ГА, то аб'яднаньне ня можа праводзіць іх збор, таму што гэта будзе разглядацца як парушэньне Статуту.

Сабраныя ўступныя і сяброўскія ўнёскі можна выкарыстоўваць на ажыцьцяўленьне статутнай дзейнасьці, на ўтрыманьне апарату кіраваньня, аплату арэнды офіса і камунальных паслугаў і г.д.

Напачатку году органам, надзеленым у адпаведнасьці са Статутам такой кампэтэнцыяй, распрацоўваецца каштарыс даходаў і выдаткаў, у якім плянуецца, на пагашэньне якіх расходаў пойдзе тая ці іншая колькасьць сабраных уступных і сяброўскіх унёскаў. Пажадана з дадзеным каштарысам азнаёміць усіх сябраў ГА.

Існуюць 2 спосабы выплаты ўступнага і сяброўскага ўнёскаў:

1. Плацельшчык уступнага ці сяброўскага ўнёску можа выплачваць яго самастойна на адкрыты ў банку бягучы рахунак ГА ў беларускіх рублях.

Першаснымі дакумэнтамі, якія служаць абгрунтаваньнем для залічэньня грошай на бягучы рахунак, зьяўляюцца ў дадзеным выпадку плацёжныя даручэньні. Апошнія павінны адпавядаць патрабаваньням Інструкцыі аб банкаўскім пераводзе, зацьверджанай Праўленьнем Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь ад 29.03.2001 г. № 66.

Па факце правядзеньня апэрацыі па рахунку арганізацыя атрымлівае выпіску. Усе першас-

ныя дакумэнты, прыкладзеныя да выпісак зь бягучага рахунку, павінны быць сабраныя ў парадку пасьлядоўнасьці іх нумароў, пераплецены і захоўвацца ў папцы «Разьлікові рахунак».

2. Плацельшчык уступнага ці сяброўскага ўнёску можа выплачваць яго ў касу ГА.

Бухгальтарскі ўлік грашовых сродкаў у касе ГА вядзецца ў адпаведнасьці з Правіламі вядзеньня касавых апэрацыяў у Рэспубліцы Беларусь, зацьв. Пастановай Праўленьня Нацыянальнага банку РБ ад 28.06.2001 г. № 159.

У дадзеным выпадку грашовыя сродкі павінны быць належным чынам апрыходаваныя. Апрыходаваньне наяўных грошай - гэта дакумэнтальнае афармленьне прыёму наяўных грошай у касу па прыходных касавых ордэрах ці іншых прыходна-расходных дакумэнтах, альбо праз касавы сумуючы апарат ці спэцыяльную кампутарную сыстэму, зарэгістраваныя ў падатковых органах, у дзень правядзеньня апэрацыі і ўчыненьня ў гэты ж дзень касірам адпаведных запісаў у касавай кнізе ці паказчыкаў сумуючых грашовых лічыльнікаў у кнізе касіра-апэрацыяніста, ці адпаведных запісаў у тавар-на-грашовых, зьменных справаздачах (для ўпаўнаважаных асобаў), рэгістрах бухгальтарскага ўліку напрыканцы працоўнага дня (зьмены).

Такім чынам, сума сабраных сяброўскіх унёскаў павінна быць належным чынам афармлена касірам. Касір у адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь нясе адказнасьць за захаванасьць усіх прынятых ім наяўных грошай. Пры прыёме на працу кіраўнік арганізацыі павінен пад росьпіс азнаёміць яго з правіламі вядзеньня касавых апэрацыяў, пасьля чаго з касірам заключаецца пісьмовая дамова аб поўнай матэрыяльнай адказнасьці. Касіру забараняецца перадавяраць выкананьне даручанай яму работы іншым асобам. Бухгальтарам, іншым работнікам арганізацыі, якія карыстаюцца правам подпісу касавых дакумэнтаў, выконваць абавязкі касіраў забараняецца, за выключэньнем выпадкаў, калі ў штаце няма іншай асобы, на якую можна ўскласьці вядзеньне касавых апэрацыяў. Такім чынам, у ГА абавязкі касіра, як правіла, выконвае бухгальтар. З патрабаваньнямі, якія прад'яўляюцца да асобы, што выконвае абавязкі касіра, а таксама да памяшканьня касы, захоўваньня касавых дакумэнтаў, наяўных грошай можна азнаёміцца ў Правілах вядзеньня касавых апэрацыяў у РБ.

Асноўнымі першаснымі дакумэнтамі па касе зьяўляюцца прыходны касавы ордэр (форма КО-1) і расходны касавы ордэр (форма КО-2). Правілы запаўненьня прыходнага касавага ордэра вызначаныя ў Загадзе Міністэрства фінансаў РБ ад 29 кастрычніка 1999 г. № 311 «Аб зацьвярджэньні бланкаў уніфікаваных формаў першаснай дакумэнтацыі» (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 14 траўня 2001 г.).

ГА ўлічвае ўсе паступленьні і выдачы наяўных грошай у касавай кнізе. З парадкам запаўненьня, узорам касавай кнігі можна азнаёміцца ў Правілах вядзеньня касавых апэрацыяў у РБ[2].

Заканадаўствам устанаўліваюцца наступныя тэрміны здачы наяўных грошай ва ўстановы банкаў[3]:

* штодзённа ў дзень паступленьня наяўных грошай у касы арганізацыяў - для арганізацыяў, разьмешчаных у населеным пункце, дзе ёсьць установы банкаў ці эксплюатацыйныя прадпрыемствы Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь;

* на наступны дзень - для арганізацыяў, якія з-за спэцыфікі сваёй дзейнасьці і рэжыму працы, пры адсутнасьці вячэрняй інкасацыі ці вячэрняй касы ўстановы банку ня могуць штодзённа ў дзень паступленьня выручкі здаваць наяўныя грошы ва ўстановы банку ці эксплюатацыйныя прадпрыемствы Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь;

* адзін раз на некалькі дзён, але не радзей за адзін раз на 7 дзён - для арганізацыяў, разьмешчаных у населеным пункце, дзе няма ўстановаў банкаў ці эксплюатацыйных прадпрыемстваў Міністэрства сувязі Рэспублікі Беларусь, а таксама для арганізацыяў, што знаходзяцца ад іх на вялікай адлегласьці.

Парадак і тэрміны здачы наяўных грошай, ліміту астатку (крайнія астаткі) касаў[4], парадак выкарыстаньня наяўных грошай з выручкі арганізацыі ўстанаўліваюцца штогод (як правіла, на працягу І кварталу) абслугоўваючымі ўстановамі банкаў пры ўзгадненьні з кіраўніком прадпрыемства, зыходзячы зь неабходнасьці паскарэньня абарачальнасьці грошай і своечасовага іх паступленьня ва ўстановы банкаў[5,6].

Ліміт астатку (крайні астатак) касы не ўстанаўліваецца ГА, якія ажыцьцяўляюць гаспадарчую дзейнасьць, накіраваную толькі на выпрацоўваньне статутных мэтаў і задачаў у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, і не займаюцца прадпрымальніцкай дзейнасьцю ў адпаведнасьці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Неабходна памятаць, што за парушэньне парадку вядзеньня касавых апэрацыяў да ГА могуць прымяняцца меры адказнасьці, якія прадугледжаныя Інструкцыяй аб мерах адказнасьці за парушэньне правілаў вядзеньня касавых апэрацыяў у РБ, зацьв. Пастановай Праўленьня Нацыянальнага банку ад 13 лістапада 2000 г., № 30.3 (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 17 траўня 2001 г.).

**[1] Неабходна зьвярнуць увагу на тое, што ў адпаведнасьці з Правіламі афармленьня і разгляду дакумэнтаў, якія прадастаўляюцца для дзяржаўнай рэгістрацыі палітычных партыяў, прафэсійных саюзаў, іншых грамадзкіх аб'яднаньняў, а таксама пастаноўкі на ўлік і дзяржаўнай рэгістрацыі іх арганізацыйных структураў, зацьв. Пастановай Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь ад 01.12. 2000 № 22, для рэгістрацыі міжна-**

родных грамадзкіх аб’яднаньняў неабходная наяўнасьць арганізацыйных структураў у РБ (ня меней за 10 сябраў) і ў адной ці некалькіх замежных дзяржавах (ня меней за 3 сябра).

[2] Касавую кнігу, прыходныя ордэры можна набыць, напрыклад, у кніжных крамах.

[3] Правілы арганізацыі наяўнага грашовага абароту ў Рэспубліцы Беларусь 25.07.2000 № 17.1г (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 29.03.2001).

[4] Ліміт астатку (крайні астатак) касы - максымальна дапушчальная сума наяўных грошай, якая можа знаходзіцца ў касе арганізацыі па стане на канец працоўнага дня.

[5] Правілы арганізацыі наяўнага грашовага абарачэньня ў Рэспубліцы Беларусь, зацьв. Пастановай Праўленьня Нацыянальнага банку Рэспублікі Беларусь 25.07.2000 № 17.1г (са зьменамі і дапаўненьнямі па стане на 29.03.2001 г.).

[6] У заканадаўстве Рэспублікі Беларусь ня ўтрымліваецца вызначэньне гаспадарчай дзейнасьці. У адпаведнасьці з Грамадзянскім Кодэксам Рэспублікі Беларусь прадпрымальніцкая дзейнасьць - гэта самастойная дзейнасьць юрыдычных і фізычных асобаў, якая ажыцьцяўляецца імі ў грамадзянскім абароце ад свайго імя, на сваю рызыку і пад сваю маёмасную адказнасьць, і накіраваная на сыстэматычнае атрыманьне прыбытку ад карыстаньня маёмасьцю, продажу рэчаў, зробленых, перапрацаваных ці набытых вызначанымі асобамі для продажу, а таксама ад выкананьня работаў ці аказаньня паслугаў, калі гэтыя работы ці паслугі прызначаюцца для рэалізацыі іншым асобам і не выкарыстоўваюцца для ўласнага спажываньня.



жнівень-верасень' 2002



# БЮЛЕТЭНЬ

асамблеі няўрадавых дэмакратычных арганізацыяў

http://ngo.unibel.by

**Чытайце:**

**НЕДЗЯРЖАЎНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ І ГРАМАДЗТВА**
**СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў МЕЖАХ АСАМБЛЕІ НДА**
**НЕДЗЯРЖАЎНЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ І СМІ**
**НДА І ПАЛІТЫКА**




## НАПЯРЭДАДНІ IV КАНГРЭСУ

# СПЭЦВЫПУСК




## кангрэс



## дыскусія

# Шаноўныя сябры Асамблеі НДА!

**Запрашаем Вас узяць удзел у IV Кангрэсе Асамблеі дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў Беларусі, які адбудзецца 5-6 кастрычніка ў Менску.**

Нагадаем, што падчас IV Кангрэсу пройдзе **фэстываль грамадзкіх арганізацыяў «Грамадзкія арганізацыі для грамадзянаў»,** які будзе складацца зь дзьвюх частак.

Першая частка фэсту прысьвечаная лепшым рэалізаваным грамадзкімі арганізацыямі праектам - **намінацыя «Лепшы выкананы праект».** Ацэньваць праекты будуць усе ўдзельнікі Кангрэсу.

Вынікі другой часткі - у **намінацыі «Лепшая ідэя»** - будзе падводзіць адмысловае журы, у склад якога запрашаюцца замежныя госьці, сярод іх - прадстаўнікі фундацыяў, буйных замежных НДА і інш. Пераможцы будуць узнагароджаныя прызамі, а таксама ганаровымі дыплёмамі.

Акрамя гэтага будзе абраная **«Лепшая прэзэнтацыя»** ў адпаведнай намінацыі.

Прэзэнтаваць сваю дзейнасьць змогуць усе арганізацыі праз прадстаўленьне на фэстывалі стэндаў. Калі ласка, прывозьце на Кангрэс матэрыялы, зьвязаныя зь дзейнасьцю Вашай арганізацыі.

Падчас Кангрэсу адбудуцца круглыя сталы для арганізацыяў-удзельнікаў. На дыскусіі будуць прапанаваныя наступныя тэмы:

**1. Місія Асамблеі**

Што такое Асамблея, структура Асамблеі; для чаго існуе Асамблея; яе функцыі на сёньня; формы існаваньня Асамблея сёньня; роля сябраў Асамблеі ў яе дзейнасьці, арганізацыя працы Асамблеі (фінансы, рабочыя групы, статут).

**2. Грамадзянскія ініцыятывы і кампаніі**

Што такое грамадзянская ініцыятыва, грамадзянская кампанія; прычыны іх узьнікненьня і правядзеньня; чым ёсьць грамадзянскія кампаніі для беларускага «трэцяга сэктару» і для ўсяго грамадзтва; досьвед арганізацыі кампаніяў; пэрспэктывы правядзеньня ініцыятываў, кампаніяў.

**3. NGO і палітыка**

Магчымасьць супрацоўніцтва грамадзкіх арганізацыяў з дэпутацкім корпусам і палітычнымі партыямі; удзел грамадзкіх арганізацыяў у кааліцыях.

**4. NGO і грамадзтва**

Місія НДА; пашырэньне кантактаў зь мясцовым насельніцтвам; формы дапамогі ў вырашэньні праблемаў грамадзянаў; папулярызацыя дзейнасьці NGO ў шырокіх грамадзкіх колах; прыцягненьне новых людзкіх рэсурсаў да дзейнасьці НДА.

**5. NGO і дзяржава**

Прававы статус беларускіх NGO на сучасным этапе; супрацоўніцтва з выканаўчай і мясцовай уладамі; пэрспэктывы ўдзелу НДА ў мясцовым самакіраваньні; фінанса-

вае становішча беларускіх НДА і беларускае заканадаўства; парушэньні і абарона правоў NGO і іх сябраў; магчымасьці і формы супрацы NGO і ўладаў.

**5. NGO і СМІ**

Роля НДА ў станаўленьні свабоды слова ў Беларусі; актывісты НДА як існыя і патэнцыйныя ньюсмэйкеры; узаемадачыненьні зь незалежнымі і дзяржаўнымі СМІ; друкаваныя (газэты, часопісы) і электронныя (радыё, тэлебачаньне, інтэрнэт) СМІ як інфармацыйныя партнэры НДА; выданьні НДА на мас-мэдыйным рынку краіны; пэрспэктывы і магчымасьці супрацоўніцтва зь беларускімі і замежнымі СМІ.

**6. Рэсурсы недзяржаўных арганізацыяў**

Пошук і выкарыстаньне неграшовых рэсурсаў (людзі, досьвед, кантакты і г.д.); пошук мясцовых і замежных партнэраў, этыка ўзаемадачыненьняў зь імі.

**7. Супрацоўніцтва беларускіх НДА**

Пытаньне супрацоўніцтва паміж беларускімі НДА:
- на тэрытарыяльным узроўні,
- на галіновым узроўні;

праблема «сталіцы» і «правінцыі», шляхі яе вырашэньня.

**Спадарства, калі ласка, вызначце загадзя, у якім круглым стале будзе браць удзел прадстаўнік ад Вашай арганізацыі.**

На Кангрэсе плянуецца абмеркаваць і прыняць рашэньне пра магчымасьць увядзеньня **інстытуту сяброўскіх складак** як аднаго з варыянтаў фінансаваньня некаторых відаў дзейнасьці Асамблеі.

Таксама будзе абраная і зацьверджаная новая **Рабочая група** - кіруючы орган Асамблеі паміж кангрэсамі, старшыня **Рабочай групы і Рэвізійная камісія.**

Паколькі да гэтага часу не было атрымана адказу зь Міністэрства юстыцыі па рэгістрацыйных дакумэнтах Асацыяцыі ГА «Асамблея» (дакументы на рэгістрацыю «Асамблеі» былі пададзеныя ў Міністэрства юстыцыі ў сакавіку 2002 г.), было прынятае рашэньне вынесьці на Кангрэс пытаньне **аб судовым абскарджаньні адсутнасьці адказу,** альбо аб пачатку паралельнага стварэньня бліжэйшым часам юрыдычнай асобы ў форме фонду «Асамблея».

**УВАГА:** дэлегаты Кангрэсу ў якасьці пацьверджаньня сваіх паўнамоцтваў абавязаныя прывезьці пратакол паседжаньня кампэтэнтнага органа арганізацыі аб вылучэньні дадзенай асобы дэлегатам на Кангрэс. Толькі па прад'яўленьні пратаколу будзе адбывацца рэгістрацыя дэлегата і выдавацца мандат для галасаваньня.

**УВАГА:** кожны прэтэндэнт у Рабочую групу (квота па галінах дзейнасьці) мусіць выступіць перад прысутнымі на галіновым круглым стале са сваёй праграмай, дзе павінны быць агучаныя канкрэтныя прапановы па паляпшэньні працы Асамблеі ў адпаведным кірунку дзейнасьці, а таксама вызначаная роля прэтэндэнта ў дзейнасьці Асамблеі. Такое рашэньне было прынятае Рабочай групай 11.09.02.

*Заўвага!*

**Спадарства, на жаль, мы ня маем магчымасьці аплаціць праезд удзельнікам і толькі часткова можам арганізаваць пражываньне. Калі ласка, калі ў Вас ёсьць магчымасьць, дамаўляйцеся на начлег са знаёмымі.**

# Праграма
## Кангрэсу Асамблеі НДА, 5-6 кастрычніка:

**1 ДЗЕНЬ**

9.00 - 10.00 .............. рэгістрацыя ўдзельнікаў Кангрэсу
10.00 - 11.00 .............. адкрыцьцё Кангрэсу: выступы старшыні Рабочай групы, гасьцей
11.00 - 14.00 .............. Фэстываль «Грамадзкія арганізацыі для грамадзянаў»
14.00 - 15.00 .............. абед
15.00 - 16.00 .............. пленарнае паседжаньне: дыскусіі па пытаньнях сяброўскіх складак і форме рэгістрацыі Асамблеі
16.00 - 19.00 .............. тэматычныя круглыя сталы

**2 ДЗЕНЬ**

10.00 - 11.45 .............. паседжаньне галіновых круглых сталоў: абраньне ў Рабочую групу
11.45 - 15.30 .............. Пленарнае паседжаньне:
- узнагароджаньне пераможцаў Фэстывалю;
- зацьверджаньне Рабочай групы;
- прэзэнтацыя вынікаў тэматычных круглых сталоў;
- прыняцьце рашэньняў, дакумэнтаў і заяваў;
- галасаваньне па пытаньні ўвядзеньня складак;
- закрыцьцё IV Кангрэса.

## *Інфармацыя*

**По пытаньнях удзелу ў Кангрэсе зьвяртайцеся ў Аргкамітэт IV Кангрэсу:**
**тэл/факс: 206-59-09, тэл.: 225-51-10, э-пошта: ngo@user.unibel.by**

# Унёскі для сябраў Асамблеі

першыя вынікі

Відавочна, што пытаньне ўнёскаў для сябраў Асамблеі будзе адным з самых дыскусійных падчас IV Кангрэсу. Таму за месяц да правядзеньня мерапрыемства Выканаўчым бюро сярод сябраў Асамблеі па электроннай пошце была распаўсюджаная анкета. Мэта анкетаваньня - высьветліць, як арганізацыі ставяцца да ўвядзеньня ўнёскаў для сябраў Асамблеі. Нагадаем, што ў травеньскім нумары «Бюлетэня» быў разьмешчаны матэрыял «Унёскі для сябраў Асамблеі: мроі ці рэальнасьць?», дзе былі выкладзеныя магчымыя мэханізмы і прынцыпы збору ўнёскаў.

Асноўныя прапазыцыі, выкладзеныя ў артыкуле, леглі ў аснову анкеты.

Анкета была прапанаваная 198 арганізацыям-сябрам Асамблеі НДА з усей Беларусі. Адгукнуліся 23 арганізацыі: МА «Рша», моладзевы цэнтар грамадзянскай супольнасьці «Верас», ГА «Калегіюм», Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў, ГА «Абарона правоў бацькоў і дзяцей», ГМКГА «Талака», ГА «Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны», Пінскае рэгіянальнае аддзяленьне ГА «Праваабаронччы цэнтар «Вясна», ГА «Цэнтар па правах чалавека», Гарадзенскае абласное ГА «Ратуша», ГА «Адукацыйны цэнтар «ПОСТ», Барысаўская жаночая сацыяльная арганізацыя «Правінцыя» , Шчучынскі мінірэсурсавы цэнтар, Сацыяльна-пэдагагічнае ГА «Чазенія», Цэнтар «Эдукатар», МГА «Рэгіянальны цэнтар грамадзкіх ініцыятываў», МГА «Новая Група», Наваполацкае аддзяленьне ГА «Праваабарончы цэнтар «Вясна», Магілёўскае абласное аддзяленьне ПЦ «Вясна», ДГА «Сямейны ачаг», МА «Вольны Край», ГА «Жаночы Альянс».

Анкета была адрасаваная кіраўнікам арганізацыяў-сяброў Асамблеі. Прымалася адна анкета ад арганізацыі.

**Юрыдычны статус арганізацыяў-рэспандэнтаў**

| | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| Зарэгістраваныя арганізацыі | 14 | 60,9 |
| Незарэгістраваныя арганізацыі | 4 | 17,4 |
| Арганізацыі, якія знаходзяцца ў працэсе рэгістрацыі | 4 | 17,4 |
| Не пазначылі свой юрыдычны статус | 1 | 4,3 |

**1. На Кангрэсе вашая арганізацыя будзе галасаваць:**

| варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| За ўвядзеньне сяброўскіх унёскаў | 13 | 56,5 |
| Супраць увядзеньня сяброўскіх унёскаў | 8 | 34,8 |
| Так, пры ўмове рэгістрацыі Асамблеі | 1 | 4,3 |
| Не далі адказу на пытаньне | 1 | 4,3 |

**2. Калі рашэньне пра сяброўскія ўнёскі будзе прынятае на бліжэйшым Кангрэсе, ці згодная вашая арганізацыя плаціць унёскі?**

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| Так, мы прынцыпова згодныя | 11 | 47,8 |
| Не, мы ня будзем плаціць унёскі ні ў якім выпадку | 8 | 34,8 |
| Варта плаціць, але сябры мусяць бачыць ясную карысьць ад свайго аб'яднаньня ў Асамблею | 1 | 4,3 |
| Не далі адказу на пытаньне | 3 | 13,0 |

## 2.2 Калі рашэньне пра сяброўскія ўнёскі будзе прынятае на бліжэйшым Кангрэсе, вашая арганізацыя:

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| Выйдзе са складу Асамблеі | 2 | 8,7 |
| Праігнаруе рашэньне | 3 | 13,0 |
| Будзе супрацоўнічаць з Асамблеяй | 1 | 4,3 |
| Прыпыніць сяброўства да высьвятленьня патрэбы ў кааліцыі | 1 | 4,3 |
| Усяго адказалі на гэтае пытаньне | 7 | 30,4 |

## 3. За існаваньне якіх відаў унёскаў вы прагаласуеце «за» на Кангрэсе

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| Аднаразовыя ўступныя | 3 | 13,0 |
| Рэгулярныя | 2 | 8,7 |
| Могуць існаваць абодва віды | 8 | 34,8 |
| Мэтавыя | 1 | 4,3 |
| Усяго адказалі на гэтае пытаньне | 14 | 60,9 |

## 3.1 Зь існаваньнем якіх відаў унёскаў вы пагадзіцеся

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| Аднаразовыя ўступныя | 2 | 8,7 |
| Рэгулярныя | 4 | 17,4 |
| Могуць існаваць абодва віды | 9 | 39,1 |
| Мэтавыя | 1 | 4,3 |
| Усяго адказалі на гэтае пытаньне | 16 | 69,6 |

## 4 Памер унёскаў павінен быць...

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| …аднолькавы для ўсіх | 8 | 34,8 |
| …у залежнасьці ад колькасьці сябраў у арганізацыі | 3 | 13,0 |
| Варта стварыць некалькі відаў магчымых памераў унёскаў. У залежнасьці ад таго, які памер унёскаў абірае пэўная НДА, яна атрымлівае адпаведны статус у межах Асамблеі і можа карыстацца тымі яе паслугамі, якія прадугледжаныя для НДА, што аплачваюць такую ж суму. Існаваньне розных відаў унёскаў абавязковае, бо патрабаваць ад абсалютна розных па форме і магчымасьцях НДА аплачваць адну і тую ж суму, альбо аплачваць розныя сумы, але карыстацца аднолькавымі правамі - ня слушна. | 1 | 4,3 |
| У залежнасьці ад памераў фінансавай падтрымкі, якую атрымліваюць арганізацыі з розных крыніцаў. Асабліва калі гэтая фінансавая падтрымка была атрыманая зь непасрэдным удзелам Асамблеі | 1 | 4,3 |
| Хто колькі можа, але ня менш за... | 1 | 4,3 |
| Паводле крытэру фармальнай велічыні арганізацыі, які ёсьць альбо дэкларуецца: краёвая, рэгіянальная, мясцовая | 1 | 4,3 |
| Нельга браць грошы з сацыяльнікаў. Тым больш што іх ня так і шмат у складзе Асамблеі. | 1 | 4,3 |
| Калі арганізацыя атрымае грант, калі ёсьць пастаянны штат аплачваемых супрацоўнікаў | 1 | 4,3 |
| Усяго адказалі на гэтае пытаньне | 17 | 73,6 |

### 5 Для вашай арганізацыі было б больш зручна, калі б рэгулярныя ўнёскі зьбіраліся:

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| Раз на год | 11 | 47,8 |
| Раз на паўгода | 2 | 8,7 |
| Раз на квартал | 3 | 13,0 |
| Усяго адказалі на гэтае пытаньне | 16 | 69,6 |

### Прапанаваныя памеры аднаразовых уступных унёскаў

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| 10 у.а. | 3 | 13,0 |
| 1 мзп | 2 | 8,7 |
| 1 у.а. | 1 | 4,3 |
| 30 у.а. | 1 | 4,3 |
| 3 у.а. | 1 | 4,3 |
| 3 мзп | 1 | 4,3 |
| малы | 1 | 4,3 |
| Усяго адказалі на гэтае пытаньне | 10 | 43,5 |

### Прапанаваныя памеры рэгулярных унёскаў (сума за ўвесь год)

| Варыянты адказу | Колькасьць адказаў | % ад агульнай колькасьці апытаных |
|---|---|---|
| 0,5 у.а. зь сябра | 1 | 4,3 |
| 1000 б.р. зь сябра | 1 | 4,3 |
| 5000 б.р. | 1 | 4,3 |
| 0,5 мзп | 1 | 4,3 |
| 1 мзп | 1 | 4,3 |
| 3 у.а. | 1 | 4,3 |
| 6 у.а. | 1 | 4,3 |
| 10 у.а. | 1 | 4,3 |
| 12 е | 1 | 4,3 |
| 20 у.а. | 1 | 4,3 |
| 40 у.а. | 2 | 8,7 |
| 20 у.а. (зь мясцовай арганізацыі)<br>50 у.а. (з рэгіянальнай арганізацыі)<br>90 у.а. (з нацыянальнай арганізацыі) | 1 | 4,3 |
| малы | 1 | 4,3 |
| Усяго адказалі на гэтае пытаньне | 14 | 60,9 |

### Прычыны, па якіх арганізацыі нязгодныя плаціць сяброўскія ўнескі

| |
|---|
| Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў мае фінансаваньне толькі пад дзейнасьць па рэалізацыі канкрэтных праектаў. Інстытут сяброўскіх унёскаў у ЗБС не разьвіты, зыходзячы са спэцыфікі арганізацыі - студэнцкая. Сярэдні памер студэнцкай стыпэндыі складае 15 даляраў. На гэтыя сродкі нерэальна існаваць шараговаму студэнту. Абцяжарваць студэнтаў яшчэ й платай унёскаў у дадзеных умовах нерэальна. Таму ЗБС ня здолее аплачваць сяброўскія ўнёскі. |
| Недавер кіраўніцтву |
| Прычына досыць банальная: на жаль, у нас проста няма грошай, наш бюджэт мінімальны |
| Не заўсёды яны (грошы) ёсьць.Трэба зьбіраць грошы толькі пад нейкія канкрэтныя мэты, прадукцыю і г.д. |
| Не дазваляюць сродкі |
| Варта плаціць, але сябры мусяць бачыць ясную карысьць ад свайго аб’яднаньня ў Асамблею |

# недзяржаўныя арганізацыі і грамадзтва

Галіна Верамейчык,
**сябра Рады дырэктараў «Цэнтру сацыяльных інавацыяў»**

**- Якой Вы бачыце місію беларускіх НДА сёньня?**

- На сёньняшні дзень для беларускіх недзяржаўных арганізацыяў вельмі актуальным застаецца ўдзел у вырашэньні сацыяльна-эканамічных праблемаў. Зразумела, што не застаецца ўбаку і асноўная місія НДА - прадстаўленьне і лябіяваньне інтарэсаў тых ці іншых сацыяльных групаў. Але перад тым як ажыцьцяўляць місію, грамадзкія арганізацыі павінныя паклапаціцца пра тое, каб заваяваць пэўную ступень даверу ў беларускага грамадзтва.

Ня так даўно мы праводзілі сэмінар-трэнінг для прадстаўнікоў моладзевых арганізацыяў у межах праекту «Рады», у рамках якога было зладжанае невялічкае апытаньне на тэму «Чаго грамадзтва чакае ад грамадзкіх арганізацыяў?» У апытаньне былі ўцягнутыя сябры моладзевых арганізацыяў і частка супрацоўнікаў таго Дому адпачынку, дзе праводзіўся сэмінар. Атрымаліся даволі цікавыя вынікі: большая частка прадстаўнікоў моладзевых арганізацыяў адказалі, што грамадзтва невядома чаго чакае, ці наагул нічога не чакае ад НДА, а супрацоўнікі Дому адпачынку адказалі вельмі проста - чакаем вырашэньня сацыяльна-эканамічных праблемаў: прыцягненьне моладзі да актыўнага ладу жыцьця, вырашэньне праблемы працаўладкаваньня, барацьбы з наркаманіяй, СНІДам і г.д. На мой погляд, гэта вельмі яскрава сьведчыць пра тое, што трэці сэктар усё ж такі ў сваёй большай частцы скіраваны на вырашэньне сваіх уласных праблемаў.

**- Па-Вашаму, місія беларускіх недзяржаўных арганізацыяў розьніцца ад «глябальнай» місіі НДА?**

- Мне падаецца, што ў значнай ступені не адрозьніваецца. Тут можна казаць хутчэй пра ступень разьвіцьця саміх арганізацыяў. Ні для каго не сакрэт, што значная частка НДА ў незалежнасьці ад тэрміну свайго існаваньня застаецца ва ўзросьце немаўлятаў. Гэта ўплывае на тое, што арганізацыі не аказваюць значнай колькасьці паслугаў, а нават калі і аказваюць, то яны ня вельмі высокай якасьці, і па-другое, істотную частку сваіх рэсурсаў арганізацыя траціць на ўласнае разьвіцьцё.

А прынцыповага адрозьненьня не існуе. Як і ва ўсім сьвеце, большая частка арганізацыяў скіраваная ці на вырашэньне нейкіх канкрэтных праблемаў сацыяльна-эканамічнага кшталту, ці на прадстаўленьне інтарэсаў грамадзтва.

**- На Вашую думку, чаму звычайныя людзі ў большасьці сваёй ня ведаюць, што такое грамадзкія арганізацыі, і не адрозьніваюць іх ад палітычных партыяў?**

- Тут існуе як мінімум дзьве прычыны, зь якіх вынікае гэткі стан рэчаў. Па-першае, у масавай сьвядомасьці (па вялікім рахунку гэта тычыцца людзей сталага ўзросту) засталося такое стаўленьне да НДА, якое было ў савецкія часы, калі грамадзкія арганізацыі зьяўляліся гэткім лягічным працягам дзяржаўных, камуністычных структураў. Па-другое, моладзь, хаця і ня мае досьведу савецкіх часоў, таксама ня вельмі шмат ведае пра грамадзкія арганізацыі, таму што добра не арганізаваная гэтак званая грамадзянская адукацыя для моладзі. І асноўная прычына - НДА належным чынам не клапоцяцца пра свой станоўчы імідж.

**- Ці гатовы беларускі «трэці сэктар» ісьці на кантакт з грамадзствам, каб вырашаць праблемы апошняга?**

- Гэта вельмі цяжкае пытаньне. Я бачу, што на сёньняшні дзень частка арганізацыяў ужо падрыхтаваная да кантакту з грамадзствам і нават зь мясцовымі ўладамі, але другая частка - яшчэ не. І гэта зноў-ткі зьяўляецца сьведчаньнем вельмі нізкай ступені разьвіцьця саміх арганізацыяў. Зь іншага боку, нават што тычыцца сталых арганізацыяў, якія існуюць 6-8 гадоў, нельга казаць, быццам яны цалкам гатовыя да кантакту з грамадзтвам: гэтыя арганізацыі назапасілі пэўны досьвед існаваньня паасобку ад грамадзтва, і ім давядзецца гэты стыль жыцьця неяк ламаць, што даецца зь цяжкасьцю. Існуе пэўны нэгатыўны імідж, вельмі цяжка зрабіць першы крок насустрач, калі ты ведаеш, што на цябе будуць пазіраць ня вельмі добразычліва.

**- Якія формы супрацоўніцтва з грамадзтвам выкарыстоўвае Вашая арганізацыя?**

- Для «Цэнтру сацыяльных інавацыяў» з самага пачатку была характэрная арыентацыя на супрацоўніцтва з пэўнымі дзяржаўнымі структурамі, якія займаліся тымі ж праблемамі, што і мы - напрыклад, з Камітэтам па занятасьці на-

сельніцтва і зь Менскім гарадзкім цэнтрам занятасьці насельніцтва. Але я вымушаная канстатаваць, што цягам апошніх трох гадоў кантакты рэдкія і не такія прадуктыўныя, як раней. Мы спрабуем вырашаць гэта, кантактуючы з насельніцтвам, аказваючы адпаведныя паслугі, і выходзім на прадстаўнікоў дзяржаўных арганізацыяў толькі ў тым выпадку, калі маем штонебудзь прапанаваць ім у якасьці ўзаемакарыснага абмену досьведам ці нейкай сумеснай дзейнасьці.

**- Ці маюць беларускія НДА патрэбу ў прыцягненьні новых людзкіх рэсурсаў і што менавіта яны могуць прапанаваць новым людзям?**

- Патрэбу, безумоўна, маюць. Па-першае, таму, што бяз новай хвалі людзей існуе пагроза спыненьня працэсу разьвіцьця «трэцяга сэктару» наагул - як вядома, мы існуем у вельмі цяжкім навакольным асяродзьдзі, і шмат людзей ці проста сыходзяць, ці атрымліваюць нейкі нэгатыўны досьвед супрацоўніцтва з грамадзкімі арганізацыямі. Паўсюль патрэбныя энэргічныя людзі з новымі падыходамі, новым стаўленьнем да працы. Сёньня можна казаць пра тое, што частка нашых арганізацыяў знаходзіцца ў тупіку, бо той шлях, якім яны ішлі раней, не прынёс станоўчых вынікаў. А вось ці гатовыя яны новых людзей прыняць і арганізаваць...

Я думаю, пры дастаткова рэфлексіўным падыходзе частка арганізацыяў гатовая да прыходу новых людзей. Але ўсё ж такі трэба перагледзіць падыходы і стаўленьне да спосабаў камунікацыі з грамадзтвам і стварэньня пазытыўнага іміджу «трэцяга сэктару» - ці то праз нейкія інфармацыйныя кампаніі, ці праз рэальную працу і рэальныя паслугі для насельніцтва. І апошняе, на мой погляд, найбольш актуальна, таму што нашыя людзі вельмі практычныя.

## Крысьціна Вітушка,

**сябра Рады Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, лідэр незарэгістраванага Цэнтру сацыяльна-эканамічнага разьвіцьця Ляхавіцкага рэгіёну «Прастор»**

**- Якой Вам уяўляецца місія беларускіх грамадзкіх арганізацыяў на сёньняшні дзень?**

- Арганізацыі бываюць розныя - і гэта вызначае місію. Існуюць грамадзкія арганізацыі, якія засталіся нам у спадчыну яшчэ ад савецкай сыстэмы і працуюць па старых правілах: «добраахвотныя» аб’яднаньні пажарных ці воінаўінтэрнацыяналістаў, вэтэраны, піянэры, той жа БРСМ - арганізацыі, якія ствараюцца зьверху, гэтак званая «грамадзкасьць па выкліку». І ёсьць аб’яднаньні, якія ўзьнікаюць часта стыхійна, каб вырашыць канкрэтную праблему, што аб’ядноўваюць людзей паводле інтарэсаў і поглядаў, вакол агульных справаў. Таму місія НДА, калі казаць глябальна і разам з тым проста, - вырашыць праблему, задаволіць інтарэсы людзей, прычым задаволіць настолькі эфэктыўна, каб прыйшлі новыя сябры, каб дзякуючы прадуктыўнай працы ствараліся новыя арганізацыі і не было супрацьпастаўленьня НДА і грамадзтва, бо першыя ёсьць часткай другога.

У грамадзтве не павінна быць адзінокіх асобаў. Нельга пакідаць падманутых уладай людзей сам-насам зь цяжкасьцямі. Трэба паказаць кожнаму, што ёсьць тыя, каго цікавяць яго праблемы, хто знойдзе магчымасьць іх вырашыць. Даказаць - ёсьць дасьведчаныя людзі, якія могуць дапамагчы і не запатрабуюць неадкладнай аплаты ў выглядзе грошай ці галасоў на выбарах. Я лічу, што гэта галоўная місія НДА, незалежна ад палітычнай сытуацыі ў краіне.

**- Ці можна казаць пра сутнаснае адрозьненьне місіі беларускіх недзяржаўных арганізацыяў ад «глябальнай» місіі НДА сьвету?**

- Я думаю, што адрозьніваюцца канкрэтныя задачы і мэтады дзеяньня, бо арганізацыі мусяць працаваць па законах і ва ўмовах, якія стварае дзяржава. Паколькі сёньня беларуская дзяржава не вітае і баіцца ініцыятывы зьнізу, то НДА сутыкаюцца з мноствам абсурдных праблемаў. Скажам, моладзевыя арганізацыі вымушаныя адстойваць правы таленавітых студэнтаў на вучобу, на выказваньне сваіх поглядаў, на ўдзел у культурніцкіх акцыях ці мітынгах, абараняць людзей, якія трапляюць за краты. Тыя ж праблемы ўзьнікаюць у жаночых, сацыяльных, іншых арганізацыяў, якія ня бачылі абарону ад незаконнага перасьледу сваіх сябраў у выглядзе першаснай місіі. Але рэжым ставіць іх перад неабходнасьцю вырашаць падобныя задачы. Унесьці прапанову па зьменах у заканадаўстве - натуральна для НДА, але адстойваць з-за такой ініцыятывы ў несвабодным судзе права арганізацыі на існаваньне, трываць перашкоды ў статутнай дзейнасьці, палітычны перасьлед - гэта ўжо ненармальна для сучаснай дэмакратычнай супольнасьці. Многія грамадзкія арганізацыі гэтая сытуацыя прыводзіць да таго, што асноўная місія застаецца ўбаку.

**- Чаму звычайныя людзі ў большасьці сваёй не адрозьніваюць НДА і палітычныя партыі?**

- Прычынаў тут некалькі. За савецкім часам людзей не вучылі, што такое партыі, у чым роля прафсаюзаў, навошта патрэбныя грамадзкія арганізацыі, як яны ствараюцца. Былі вызначаныя пэўныя догмы, названы сьпіс правільных і адзіна магчымых структураў. Іх кіраўнікі атрымлівалі заробак ад дзяржавы. Партыі не ўплывалі на ўладу, проста адна і адзіная зь іх і была гэтай уладай. «Партыйны чалавек» быў сынонімам «кар’ерыста», а партыйнасьць - магчымасьцю атрымаць новую пасаду, заняць прыступку вышэй. Калі ж сучасныя партыі не ўкладаюцца ў звыклую схему - іх не ўспрымаюць. Грамадзкая дзейнасьць была незразумелай

дадатковай нагрузкай на чалавека: так імкнуліся праявіць кіраўнічыя здольнасьці будучыя дырэктары ці загадчыкі, альбо нейкі «ненармальны» змаганьнем за мітычную справядлівасьць запаўняў пустэчу ва ўласным жыцьці.

Сёньня падыход да грамадзянскай адукацыі глябальна не зьмяніўся. Дзеці ў школе і студэнты атрымліваюць палітычна «правільна» расфарбаваную інфармацыю. Скажам, у старых падручніках па гісторыі, выданых за часам незалежнасьці, пра Беларускі Народны Фронт пісалі як пра пэрспэктыўную і моцную партыю, дзякуючы якой у краіне адбываюцца пазытыўныя зьмены. У наступным варыянце яна ўжо была проста апазыцыйнай. Новыя падручнікі АГП, БНФ і іншую «апазыцыю» трымаюць за страшылкі, якія разам з сэктамі і спэкулянтамі замянілі цмокаў, вадзянікоў, шпіёнаў і канкуруюць з маньякамі і вампірамі. Пры гэтым ніякага тлумачэньня, чым ёсьць партыя, што такое грамадзкая арганізацыя, не зьявілася. Абавязковы ва ўнівэрсытэце курс паліталёгіі чытаецца абстрактна і павярхоўна, выкладчыкі ўсяляк імкнуцца абмінаць пытаньні адносна сучаснай сытуацыі ў краіне.

Настаўнікі ў большасьці незнаёмыя з арганізацыямі, якія зарэгістраваныя і дзейнічаюць на тэрыторыі Беларусі з дазволу Мінюста. Таму яны ставяцца насьцярожана да нейкіх «зялёных кароваў» ці «маладых дэмакратаў», што прыходзяць у школу. Чыноўнікі на месцах часта заяўляюць: «Мне ваш статут ці пасьведчаньне аб рэгістрацыі нічога не гаворыць. Я лічу, што вы ня любіце Лукашэнку, ён мяне падтрымлівае, і я буду рабіць тое, што лепей для яго».

Другая прычына вядомая ўсім, але актуальнасьць яе зь цягам часу толькі расьце - маленькія наклады ці адсутнасьць незалежных СМІ, недахоп у іх інфармацыі пра дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў. НДА недастаткова часта і не заўсёды прафэсійна зьвяртаюцца да СМІ. Апошнія імкнуцца пісаць пераважна пра тых, хто вядомы чытачу, не праяўляючы належнай цікавасьці да арганізацыяў, якім неабходная падтрымка, якія яшчэ трэба зрабіць вядомымі. У выніку чытачы даведваюцца пра НДА тады, калі іх ліквідуюць. У афіцыйнай прэсе, на беларускай тэлевізіі часам праходзіць інфармацыя пра ўдалыя акцыі, пераважна сацыяльнага характару, але журналісты пазьбягаюць узгадваць пра арганізацыі. Недзяржаўныя арганізацыі маюць гарантаваную порцыю рэклямы ў афіцыйных СМІ толькі тады, калі яны замінаюць уладам настолькі, што ад іх вырашаюць пазбавіцца. Гэткім чынам можна прывабіць падлеткаў, якім падабаецца таямнічае і забароненае. Але маладая мама ці пасьпяховы бізнэсовец наўрад ці падтрымаюць і ня прыйдуць у арганізацыі, інфармацыя пра якія падаецца ў такім рэчышчы.

У дадатак дурныя законы замінаюць проста расклеіць улёткі, раздаць інфармацыю на пікеце ці апэратыўна, без папярэдняга ўзгадненьня, зрэагаваць акцыяй на падзеі. Толькі той, хто валодае нестандартнымі падыходамі, энэргіяй, аптымізмам і гатовы рызыкаваць, можа застацца вядомым і пашыраць інфармацыю пра сваю дзейнасьць у такіх умовах.

**- Як Вы думаеце, ці гатовы беларускі «трэці сэктар» ісьці на кантакт з грамадзтвам, каб вырашаць праблемы апошняга?**

- Я думаю, што калі частка «трэцяга сэктару» не гатовая да кантакту з грамадзкасьцю - гэта не грамадзкая арганізацыя. Можна разважаць, ці гэта клюб па інтарэсах, ці закрыты гурток, сяброўскае кола, масонства, тусоўка для абраных - што заўгодна, але не грамадзкая арганізацыя.

**- Якія формы супрацоўніцтва з грамадзтвам выкарыстоўвае Вашая арганізацыя?**

- Іх мноства. Пачну, безумоўна, з Задзіночаньня беларускіх студэнтаў, роднай арганізацыі. Пэўны час мы выкарыстоўвалі наступны альгарытм: праводзілі апытаньне студэнтаў наконт самай актуальнай на дадзены момант праблемы, атрымлівалі дазвол на правядзеньне пікету, пашыралі інфармацыю пра час і месца, дзе мае адбыцца нешта цікавае, ладзілі шоў на зададзеную тэму і забясьпечвалі розгалас.

Прыкладам, увосень 1999-га на першым месцы апынулася праблема інтэрнатаў: студэнтам-платнікам іх перасталі прадастаўляць, вырасла колькасьць факультэтаў і студэнтаў, новыя інтэрнаты не будаваліся, абітурыентаў не папярэджвалі пра неабходнасьць шукаць кватэру, і 1 верасьня пасьля заняткаў студэнты ішлі на вакзал. Акцыя пад назвай «Кожнаму студэнту па даху!» прайшла пад дажджом і парасонамі. Седзячы на зямлі, мы галасілі прыпеўкі пра інтэрнацкае жыцьцё. Калі зьявілася сонейка - абвешаліся плякатамі і пайшлі карагодам. Паколькі быў дазвол на удзел 25 чалавек, то «лішнія» хадзілі па навакольлі і раздавалі ўлёткі зь інфармацыяй пра тое, што адбываецца побач. Зь людзьмі размаўлялі. Кожны, хто атрымліваў інфармацыйны пакет для раздачы, добра ўсьведамляў, што галоўнае - зацікавіць суразмоўцу, адказаць на пытаньні, якія ўзьнікнуць, і знайсьці такім чынам новых людзей. У выніку была і ўвага СМІ, і новыя сябры, і рэзананс у ВНУ. Безумоўна, улады вымушаныя былі рэагаваць адпаведным чынам.

З акцыяў іншых арганізацыяў мяне ўразіў сэмінар для інвалідаў-калясачнікаў, праведзены ў Баранавічах Асацыяцыяй Беларускіх Мэдыкаў. Да ўдзелу былі запрошаныя маладыя людзі, якія проста фізычна не маглі прыйсьці ў нейкія офісы і нічога ня ведалі пра грамадзкія арганізацыі. Сябры АБМ наведвалі іх і распавядалі пра сваю дзейнасьць, пра пляны і магчымасць зьмяніць жыцьцё, знайсьці аднадумцаў на будучым сэмінары. Мэдыкі зьвярталіся да людзей па-беларуску, яны былі першыя, хто рабіў гэта, але моўнае пытаньне ні разу не паўстала як тэма для дыскусіі. Выступоўцамі на сэмінары былі мясцовыя спэцыялісты, якія могуць нешта прапанаваць інвалідам-калясачнікам. Сэмінар стаў для іх штуршком зрабіць нешта карыснае для людзей з абмежаванымі фізычнымі магчымасьцямі і па-новаму пагляд-

# недзяржаўныя арганізацыі і грамадзтва

зець на ўласны патэнцыял.

Нават калі б не было такіх натхнёных водгукаў у мясцовых СМІ, чуткі пра добрых беларусаў, якія робяць карысную справу, сталі ружовымі акулярамі, празь якія цяпер глядзяць у рэгіёне на ўсе грамадзкія арганізацыі.

**- Ці маюць беларускія НДА патрэбу ў прыцягненьні чалавечых рэсурсаў і што менавіта яны могуць прапанаваць новым людзям?**

- Ідэальнай была б сытуацыя, у якой кожны чалавек так ці інакш быў хаця б мінімальна зьвязаны зь дзейнасьцю нейкай арганізацыі. Хай яго актыўнасьць ня будзе лёсавызначальнай для ўсёй краіны, але адчуваньне ўсеагульнай далучанасьці, узаемадапамога паміж сябрамі арганізацыі, міжарганізацыйная салідарнасьць - гэта той падмурак, якога сёньня не стае «трэцяму сэктару». Яго зьяўленьне пазбавіць улады магчымасьці маніпуляваць узаемаадносінамі паміж грамадзкасьцю і НДА.

Магчымасьці і рэсурсы дзеля прыняцьця новых людзей безумоўна ёсьць. Можна толькі параіць быць больш аптымістычнымі, падрыхтаванымі і адкрытымі для новых людзей, часьцей праводзіць акцыі, скіраваныя на шырокую аўдыторыю. Думаю, часам варта рызыкаваць зарэгістраванасьцю і спакоем дзеля праўдзеньня сапраўды масавых і актуальных акцыяў, бо інакш - навошта арганізацыя?

Узгадваю сябе-першакурсьніцу, якая толькі прыехала ў Менск. Выпадкова я трапляла ў цэнтар сапраўды цікавых падзеяў, часам сустракала ўлёткі ці засьпявала ў факультэцкім шапіку нумар нармальнай газэты. Але прайшоў цэлы год, перш чым я знайшла арганізацыю, якой спатрэбілася мая праца.

Давайце навучымся не ўспрымаць людзей як шэрую масу, якую трэба ў нечым пераканаць, дзеля якой трэба нешта рабіць. Яны - нашыя будучыя партнэры, і мы можам наблізіць час узаемаразуменьня і супрацоўніцтва.

# Супрацоўніцтва НДА ў межах Асамблеі

Віктар Карніенка,
**старшыня Гомельскага абласнога аб’яднаньня «Грамадзянскія ініцыятывы»**

**- Сп. Віктар, як па-Вашаму, ці спрыяе Асамблея як структура наладжваньню супрацоўніцтва паміж арганізацыямі-сваімі сябрамі?**

- На першых парах, калі Асамблея была толькі створаная, гэтая задача выконвалася як мінімум лепш. З моманту заснаваньня Асамблеі ў 1997 годзе былі прынятыя накірункі дзейнасьці і галоўныя задачы: наладжваньне інфармацыйнага абмену і супрацоўніцтва, пабудова сыстэмы ўзаемадапамогі і калектыўнай абароны правоў няўрадавых арганізацыяў, пашырэньне ўплыву «трэцяга сэктару» на грамадзтва і прыцягненьне ў Асамблею новых арганізацыяў. Дык вось мне здаецца, што па гэтых накірунках справа калі і прасунулася, то ня вельмі далёка - значна менш, чым магла.

Замест выкананьня гэтых задачаў Асамблея занялася крыху іншым - арганізацыяй масавых кампаній, якія маюць вельмі ўскоснае дачыненьне да клясычнага «трэцяга сэктару»: мабілізацыйная кампанія, назіраньне, кампанія па абароне Курапатаў. Не скажу, што гэта дрэнна, я вельмі паважаю тых самаахвярных людзей, якія гэта робяць. Але калі ўзгадваць асноўныя задачы Асамблеі - усё гэта ня мае да іх абсалютна ніякага дачыненьня.

Мне здаецца, што ўнутры Асамблеі ад пачатку існавалі два погляды на разьвіцьцё: першы - як структура для арганізацыі і правядзеньня кампаніяў; другі - для арганізацыі сыстэмнай працы па адстойваньні і лябіраваньні інтарэсаў «трэцяга сэктару». Што тычыцца сыстэмнай працы, я проста ня ведаю, што робіцца па гэтых кірунках, - а гэта ўжо пра нешта сьведчыць: я як старшыня, іншыя сябры нашай арганізацыі дастаткова актыўна працуем у «трэцім сэктары» і калі б нейкая сыстэма тут існавала - было б заўважна.

**- Вопыт МІЦу, ЗБСу, «Вежы» дэманструе, што на сёньня беларускі «трэці сэктар» па нейкіх прычынах ня можа бараніцца ад гвалту і рэпрэсіяў з боку «першага сэктару». Як вядомая, «Грамадзянскія ініцыятывы» непасрэдна сутыкнулася з такімі праблемамі...**

- У свой час нашаму аб’яднаньню аказвалі дапамогу і Праваабарончы цэнтар «Вясна» і «Прававая ініцыятыва» - гэта ўсё на узроўні канкрэтных арганізацыяў. У мяне былі канкрэтныя прапановы сумеснай дзейнасьці па абароне няўрадавых арганізацыяў - нагодай быў сумнавядомы Дэкрэт №8. Мне здаецца, што ў межах Асамблеі шмат што можна было б зрабіць. Прыкладам можа быць дзейнасьць Беларускай Асацыяцыі Журналістаў па абароне незалежнай прэсы.

На жаль, Асамблея пакуль што ў гэтым сэнсе не зусім праяўляецца. Апошняе аптымістычнае з майго пункту гледжаньня мерапрыемства было ў студзені гэтага году, калі зьбіраліся прадстаўнікі праваабарончых арганізацыяў, розных прававых цэнтраў і тыя структуры «трэцяга сэктару», якія трапілі пад прэс улады. У тым ліку і нашае аб’яднаньне, якое недзе з 1999-га году знаходзіцца ў жорсткіх адносінах з уладамі, прычым ня толькі мясцовымі. На сустрэчы выпрацоўваліся пэўныя прапановы і нашае аб’яднаньне гатовае было ўдзельнічаць у рэалізацыі тых плянаў на любым узроўні - нават фінансавым, знайшлі б сродкі, каб стварыць такі мэханізм калектыўнай абароны. На жаль, далей плянаў праца не пайшла - гэта не зусім правільна.

І яшчэ адзін важны момант: наша аб’яднаньне дастаткова разгалінаванае і моцнае - каля 500 сябраў арганізацыі, афіцыйнае юрыдычнае прадстаўніцтва ў 12 раёнах Гомельскай вобласьці, сябры арганізацыі пражываюць ва ўсіх 23 раёнах Гомельскай вобласьці. Існуе міт, што Асамблея больш патрэбная маленькім арганізацыям, быццам бы аб’яднаўшыся разам яны стануць мацнейшымі. Магчыма і так, але эфэктыўна працуючая кааліцыя вельмі патрэбна і такім арганізацыям, як «Грамадзянскія ініцыятывы».

Калі Асамблея пачне выконваць сваю місію і свае задачы, якія былі пазначаныя па час заснаваньня, - гэта будзе вельмі станоўчым момантам у разьвіцьці ўсяго беларускага «трэцяга сэктару». Калі будуць абазначацца нейкія пляны ці нейкае дзеяньне па гэтым накірунку, аб’яднаньне «Грамадзянская ініцыятыва» зь вялікім задавальненьнем будзе працаваць разам са структурамі Асамблеі.

**- На Ваш погляд, якім чынам можна пабудаваць працу Асамблеі, каб салідарнасьць НДА «запрацавала»?**

- Я ўжо раней дасылаў у Рабочую групу свае прапановы. Сёньня ў межах Асамблеі можна стварыць чатыры спэцыяльныя групы. Першая

- група маніторынгу, якая б фіксавала факты парушэньня правоў і інтарэсаў няўрадавых арганізацыяў па ўсёй краіне.

Другая - юрыдычная група, але не пажарная каманда, якая езьдзіць ад «Грамадзянскіх ініцыятываў» да «Вежы» і дапамагае ім абараняцца. Трэба сур'ёзна прааналізаваць заканадаўства, якое рэглямэнтуе дзейнасьць няўрадавых арганізацыяў і, самае галоўнае, практыку выкарыстаньня гэтага заканадаўства. Я ўжо прыводзіў прыклад БАЖу і СМІ: прымаецца нейкі дыскрымінацыйны закон - арганізацыя тэрмінова інфармуе ўвесь сьвет. А мы ніколі гэтым не займаліся. Ва ўсялякім выпадку, калі нашая арганізацыя ўваходзіла ў Асамблею і я быў сябрам Рабочай групы, ніхто не рабіў такога аналізу дзеючага заканадаўства. У нас ёсьць проста жудасныя прыклады нарматыўных актаў, якія б маглі ўзрушыць грамадзкую думку прынамсі ў Эўропе.

Было б карысна рабіць, напрыклад, параўнальны аналіз заканадаўстваў Беларусі і той жа самай Расеі, іншых краінаў. Ґалоўным вынікам працы гэтай групы павінны стаць канкрэтныя прапановы па зьменах у заканадаўства, а ўжо ўсе арганізацыі-сябры Асамблеі (і ня толькі) разам будуць дамагацца, каб гэтыя нормы былі ў рэшце рэшт прынятыя. Тут ужо, для дасягненьня мэты, трэба выкарыстоўваць у тым ліку і масавыя кампаніі. Пакуль што мы нават не сфармулявалі свае карпаратыўныя патрабаваньні да ўлады, а часам проста падмяняем сабой іншыя грамадзкія інстытуты.

Задача трэцяй групы - супрацоўніцтва зь незалежнымі СМІ. Я магу прывесьці шмат прыкладаў з нашага жыцьця, калі дзяржаўныя СМІ скажаюць інфармацыю пра дзейнасьць няўрадавых арганізацыяў ці зусім яе блякуюць. Ёсьць падзеі, якія нельга абысьці, і дзяржаўныя СМІ ўзгадваюць пра іх, але ня ўзгадваюць пра структуры «трэцяга сэктару», якія маюць самае непасрэднае дачыненьне да падзей. Зразумела, дзяржава наўмысна не распаўсюджвае інфармацыю пра карысную дзейнасьць структураў «трэцяга сэктару». І група супрацоўніцтва са СМІ магла б такую блякаду прарваць ці хаця б паспрабаваць гэта зрабіць.

Ну, і чацьвертая група, якая павінна быць, - гэта група па міжнародных кантактах. У нас ёсьць розныя дыпляматычныя місіі, амбасады розных краінаў - і яны таксама павінны ведаць пра беларускі «трэці сэктар», чым ён займаецца.

Нейкія спантанныя кантакты адбываюцца па ўсіх накірунках, якія я называў, але, наколькі мне вядома, сыстэмнай працы пакуль што няма. Ґэтага бракуе дзейнасьці Асамблеі.

**- Апошнім часам - прынамсі зь Менску - гучаць нараканьні на працу рэгіянальных Асамблеяў. Як Вы ацэньваеце іх дзейнасьць і ролю ў дзейнасьці нацыянальнай Асамблеі?**

- Я лічу, што рэгіянальныя Асамблеі не былі штучнымі ўтварэньнямі. Яны проста не ўпісаліся ў палітыку, якая існуе сёньня ў межах нацыянальнай Асамблеі. У мяне таксама шмат нараканьняў і на арганізацыйную мадэль сёньняшняй Асамблеі, якая таксама не спрые ўзаемадзеяньням. Я ня быў прыхільнікам самай лёгкай формы рэгістрацыі, калі пэўная колькасьць арганізацыяў за ўсіх стварае структуру і пасьля ўсе будуць карыстацца яе рэсурсамі і сродкамі. Мне здаецца, гэта памылка, так ніколі ня будзе. У стварэньні Асамблеі павінныя былі прыняць удзел усе яе сябры.

На апошнім III кангрэсе прапаноўваліся канкрэтныя мадэлі стварэньня і рэгістрацыі абласных і нацыянальнай Асамблеяў. Ґэта тэма актуальная і сёньня. Як мэнэджэр па адукацыі і нейкі практык я перакананы ў тым, што арганізацыйна-прававая форма любой структуры мае выключную важнасьць ва ўсёй далейшай працы.

У тым ліку і па гэтай прычыне я не лічу некаторыя дэкляраваныя накірункі дзейнасьці Асамблеі эфэктыўнымі. Спачатку ў межах Асамблеі мы павінны былі навучыцца вырашаць тыя пытаньні, якія актуальныя для ўсяго «трэцяга сэктару» краіны, а значыць і ўсіх без выключэньня сябраў кааліцыі. Супрацоўніцтва па гарызанталі, па розных арганізацыях і накірунках дзейнасьці можа быць, але гэта не задача Асамблеі. Яна можа дапамагаць, прыкладам, прадастаўляць памяшканьне ці забясьпечваць памнажэньне інфармацыйных матэрыялаў для круглых сталоў экалягічных, праваабарончых і іншых «галіновых»накірункаў. Але пры Асамблеі ня трэба ствараць нейкія арганізацыйныя мадэлі па разнастайных накірунках дзейнасьці.

Калі сёньня заканадаўства турбуе ўсе арганізацыі - ад чарнобыльскіх да праваабарончых - гэта падстава для сумеснай працы; калі Дэкрэт №8 тычыцца абсалютна ўсіх пароўну - гэта таксама падстава для супрацоўніцтва. Ґэтыя пытаньні трэба вылучыць з агульнага блёку - імі Асамблея і павінна займацца. Я перакананы ў тым, што ўсе 500 арганізацыяў абсалютна не цікавіць кампанія па назіраньні ці па мабілізацыі на выбарах - ведаю гэта дакладна. Калі мы будзем навязваць інтарэсы, мэтады працы асобных арганізацый усёй кааліцыі - нічога добрага не атрымаецца, скончыцца тым, што ў Асамблеі застанецца адна арганізацыя са сваімі рэгіянальнымі аддзяленьнямі і філіямі. Каб гэтага не адбылося, на IV Кангрэсе трэба тэрмінова вярнуцца да першапачатковых, толькі прадэкляраваных на ўстаноўчым сходзе ў 1997 годзе задач Асамблеі.

# Супрацоўніцтва нда ў межах Асамблеі

**- Ці спрыяе Асамблея як структура наладжваньню супрацоўніцтва паміж арганізацыямі-сваімі сябрамі?**

- На мой погляд, спрыяе. Ва ўсякім выпадку, іншай структуры падобнага ўзроўню, у якой былі б аб'яднаныя сотні рознакірункавых няўрадавых арганізацыяў з усёй краіны, у Беларусі не існуе. Сьведчаньнем шырокага супрацоўніцтва могуць быць прыклады ўдзелу ў непалітычных частках нядаўніх выбарчых кампаніяў - незалежным назіраньні і мабілізацыйнай кампаніі.

Ёсьць яшчэ прыклады. Іншае пытаньне, наколькі ўдалым быў той удзел. Апрача таго, не падлягае сумневу той факт, што большасьць арганізацыяў-сябраў Асамблеі шукалі і шукаюць тут сабе партнэраў. Асамблея як вялікі форум дэмакратычных няўрадавых арганізацыяў далёка яшчэ ня вычарпала свой патэнцыял і зараз знаходзіцца на новым, спадзяюся, больш якасным этапе свайго разьвіцьця.

**- Суды з наступным закрыцьцём МІЦу, ЗБС, «Вежы» прымусілі многіх назіральнікаў скептычна паставіцца да беларускага «трэцяга сэктару» як да структуры, якая можа абараняць «сябе і сваіх»...**

- На вялікі жаль, у сёньняшніх умовах арганізацыям, якія адстойваюць дэмакратычныя каштоўнасьці, а таксама людзям добрай волі надзвычай цяжка абараніць «сябе і сваіх» ва ўмовах татальнага ціску і непрыняцьця з боку дзяржавы. І ў гэтай бядзе МІЦ, ЗБС, «Вежа» не адзінокія. «Сябе і сваіх» сёньня ня ў стане абараніць ані незалежныя СМІ, ані палітычныя партыі, ані прафсаюзы, ані прадпрымальнікі і г.д. Абараніць сябе можна будзе толькі тады, калі, напрыклад, праблемы студэнтаў будуць знаходзіць свой водгук у асяродзьдзі прадпрымальнікаў, праблемы прадпрымальнікаў - сярод настаўніцтва, праблемы настаўнікаў - сярод студэнтаў. Іншымі словамі, справа скранецца зь мёртвае кропкі толькі тады, калі кола праблемаў замкнецца ў адзін ланцуг, калі пачне дзейнічаць г.зв. прынцып ланцуговай рэакцыі. Немагчыма абараніць ЗБС у той час, калі выкладчыкі альбо абыякава, альбо трасучыся ад страху за свае месцы, маўчаць. На жаль, беларускае грамадзтва перад небясьпекай дзяржаўнага ціску застаецца па-ранейшаму разьяднаным.

**- Ці існуе ў сьвядомасьці прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў панятак «салідарнасьць»?**

- Перакананы, што панятак салідарнасьці існуе ў сьвядомасьці ўсіх прадстаўнікоў беларускіх арганізацыяў. Іншая справа, у што яна ўвасабляецца на практыцы. У сёньняшніх варунках большасьць схільная толькі салідарна спачуваць і салідарна клясьці рэпрэсіўны рэжым. Так адбываецца ня толькі таму, што па-іншаму салідарызавацца большасьць ня ў стане. Досьвед папярэдніх гадоў занадта сумны. Рэжым з упартасьцю маньяка ламаў хрыбет усім, хто быў, на яго погляд, таго варты. І ніякая салідарнасьць - ані ўнутраная, ані міжнародная - не дапамагала. Варта згадаць гісторыю закрыцьця «Свабоды» і тое, у што затым пераўтварылася гэтая зацкаваная рэжымам газэта. У выніку яе апошняе закрыцьцё засталося практычна незаўважаным. Напэўна, большасьць прадстаўнікоў грамадзкіх арганізацыяў страшэнна стаміліся ад пастаянных паразаў і безвыніковасьці. Зараз як паветра неабходныя агульнакраёвыя станоўчыя, пераможныя, яркія кампаніі.

**- Што, на Ваш погляд, павінна адбыцца, каб салідарнасьць «запрацавала»?**

- Рэанімаваць салідарнасьць у межах «трэцяга сэктару» сіламі аднаго «трэцяга сэктару» практычна немагчыма. Немагчыма салідарна і вынікова бараніцца ад дзяржавы тады, калі грамадзтва танчыць на «славянскіх базарах». На жаль, яно - «беларускае грамадзтва» - сталее вельмі марудна. Каб сасьпець, яму яшчэ патрэбны час. І ніхто сёньня ня здатны дакладна спрагназаваць, колькі таго часу патрэбна. Прысьпешыць яго высьпяваньне можа толькі стваральная, выніковая, прыкметная дзейнасьць усяго «трэцяга сэктару», прыкладам чаго можа быць яскравая і запамінальная доўгатэрміновая агульнакраёвая кампанія. І толькі тады любыя, нават ледзь прыкметныя рэпрэсіі ў дачыненьні газэты, прафсаюзу ці студэнцкай арганізацыі атрымаюць магутную хвалю салідарнай падтрымкі. «Трэці сэктар» мусіць адчуваць, прынамсі, пасыўную падтрымку грамадзтва, і толькі тады салідарнасьць «запрацуе» напоўніцу.

**- З боку Асамблеі ня раз рабіліся спробы наладзіць супрацоўніцтва на тэрытарыяльным узроўні: былі створаныя абласныя Асамблеі, праводзіліся «галіновыя сталы», нават плянавалася ладзіць нацыянальныя кампаніі. Але, як паказаў час, дадзеныя схемы не апраўдалі спадзяваньняў. Чаму так здарылася? Іх варта рэанімаваць ці ад іх трэба цалкам адмовіцца, каб стварыць дзейсныя структуры?**

- Ня думаю, што трэба даваць такія рэзкія ацэнкі, маўляў, дадзеныя схемы не апраўдалі спадзеваў. Перадусім, трэба вызначыцца, чаго мы чакалі ад абласных Асамблеяў ці «галіновых сталоў». Калі мы спадзяваліся на абмен інфармацыяй, досьведам, дык абмен адбываецца. Калі мы спадзяваліся на супрацу арганізацыяў, дык дзе-нідзе яна дае плён.

Што да нацыянальных кампаніяў, дык мы ўсе маем ня надта багаты досьвед іх правядзеньня. Зрэшты, удзел у прэзыдэнцкай кампаніі шмат чаму нас навучыў, таму сёньня ўжо ёсьць ад чаго адштурхоўвацца. Увогуле, трэба шукаць кампрамісны варыянт. Ва ўсякім выпадку, наяўнасьць дзейсных структураў на тэрытарыяльным узроўні не зашкодзіць, а наадварот - дысцыплінуе арганізацыі на месцах.

# недзяржаўныя арганізацыі і сродкі масавай інфармацыі

Зьміцер Дрыгайла,
**журналіст «Белорусской деловой газеты»**

**- Як складваюцца ўзаемаадносіны паміж СМІ і «трэцім сэктарам»?**

- Трэба глядзець на тое, якія гэта СМІ - дзяржаўныя ці недзяржаўныя. У цэлым, калі праглядаеш прэсу, заўважаеш, што «трэцяму сэктару» надаецца мала ўвагі, прынамсі, у цэнтральных СМІ. Прычыны розныя: па-першае, стан незалежных СМІ, які не дазваляе мець адмыслова-га чалавека, каб ён спэцыялізаваўся толькі на недзяржаўных арганізацыях; па-другое - гэта сама дзейнасьць недзяржаўных арганізацыяў, якія ў многіх выпадках апынаюцца проста «салдатамі апазыцыі» ці нейкімі падазронымі асобамі, што ня могуць ажыцьцяўляць сваю дзейнасьць так, як яны гэтага хочуць.

Некаторыя недзяржаўныя арганізацыі дасылаюць лісты, даюць абвесткі, хаця, безумоўна, гэтага вельмі мала. Тым ня менш, нейкае жыцьцё ідзе. І тут вялікая праблема «местачковасьці» інфармацыі: тая, што падаецца ў якасьці прэс-рэлізаў, рассылак, - сырая, над ёй трэба яшчэ вельмі шмат працаваць. СМІ з радасьцю возьмуць гэтую інфармацыю, калі яна будзе цікавая, калі прадстаўнікі НДА здолеюць пераканаць журналістаў, што гэта насамрэч цікава.

**- На Ваш погляд, наколькі НДА спраўляюцца з рольлю ньюсмэйкераў?**

- Роля НДА як патэнцыйных ньюсмэйкераў можа быць вельмі высокай. Грамадзкіх арганізацыяў у нас вельмі шмат - не адна тысяча, - пры такой колькасьці абавязкова штодня будуць дзьве-тры падзеі, вартыя таго, каб пра іх напісаць у самым прыстойным, рэйтынгавым, тыражным СМІ. Іншая справа, што некаторыя няўрадавыя арганізацыі лічаць гэта непатрэбным, падыходзяць да гэтага ня так апантана, як хацелася б.

Безумоўна, ня ўсе: напрыклад, Задзіночаньне беларускіх студэнтаў, «New Faces», «Грамадзянскі форум», Беларускае аб'яднаньне маладых палітыкаў, «Разные-равные», «Нэкст стоп - Нью лайф» - гэта тыя, хто на слыху. Хаця насамрэч такі топ-рэйтынг можна скласьці прыкладна з двух дзясяткаў арганізацыяў, якія ўвесь час заяўляюць пра сябе - гэта ў іх проста ўвайшло ў звычку. І паколькі такія арганізацыі набіраюцца досьведу штодзённай працай, яны ўсё лепш і лепш гэта робяць.

Што да прадстаўнікоў рэгіянальных НДА, то тут вельмі складана кагосьці ўзгадаць. У лепшым выпадку хіба што інфармацыйную рассылку эўра-рэгіёну «Нёман». Пра тое, што адбываецца на Гарадзеншчыне, мы ведаем менавіта дзякуючы ёй. Тое ж, што робіцца на Магілёўшчыне ці на Віцебшчыне - для мяне абсалютная цемрадзь.

**- З пункту погляду журналіста і рэдакцыйнай палітыкі, наколькі цікавай уяўляецца інфармацыя, што прадастаўляецца беларускімі грамадзкімі арганізацыямі?**

- Гэта вялікая праблема, якая, тым ня менш, вельмі проста вырашаецца. Увесь час, калі ідуць плянэркі, абмеркаваньні з рэдактарамі, ставіць ці не тую ці іншую інфармацыю пра дзейнасьць НДА, бывае вельмі цяжка патлумачыць, а чаму гэтая інфармацыя павінна быць у выданьні. Вельмі часта пры наяўнасьці сапраўды цікавай фактуры ў паведамленьнях ад арганізацыі не даецца выніку - што будзе далей, на што дадзеная падзея паўплывала. Бывае, што ідзе голая інфармацыя, а камэнтараў няма, ці тыя, што ёсьць, не ажыўляюць тэкст, хаця пры ўмелай падачы з гэтых камэнтараў могуць выцякаць тыя высновы, якія неабходна зрабіць. Калі гэтыя высновы ёсьць - зь інфармацыяй працаваць нашмат прасьцей.

Напрыклад, НДА правяла нейкую акцыю - да нас паступіла інфармацыя, праз тры тыдні іншая акцыя - зноўку інфармацыя. А прааналізаваць гэтую чаргу падзеяў, даць яе ў цэласнасьці яны ня могуць. Бывае, робіш матэрыял і бачыш, што няма фактуры, праз два тыдні ты робіш іншы матэрыял і бачыш, што згрупаваць інфармацыю мажліва, але гэта будзе штучнае групаваньне.

Збоку вельмі складана ацаніць, ці гэта зьвё-

ны аднаго ланцуга, ці гэта нешта рознае. Калі акцэнты расстаўленыя менавіта ў рассылцы - «памятаеце, адбылася такая падзея, а потым яна прайшла вось тут, а потым - тут», - за месяц атрымаўся такі лягічны шэраг, які будзе працягнуты. У такім выпадку журналісту СМІ, вядома ж, прасьцей.

**- Вельмі часта прадстаўнікі беларускіх НДА наракаюць на тое, што інфармацыйную прастору недзяржаўных СМІ «акупавалі» палітычныя партыі - газэты пакінулі зьмяшчаць інфармацыю пра дзейнасьць грамадзкіх арганізацыяў. У адносінах да «трэцяга сэктару» сытуацыя насамрэч патавая?**

- Па-першае, палітычных партыяў у нас нашмат меней, хаця інфармацыі ад іх нашмат болей. Паколькі палітычных партыяў меней, яны «на кантролі» СМІ, мы іх адсочваем і тэлефануем ім самі. Журналісты патрабуюць ад іх інфармацыю, і партыйныя прэс-службы ўжо прызвычаіліся да таго, што гэтую інфармацыю трэба даваць. АГП, ЛДПБ, БНФ і «Народная Грамада» - у іх усё файна, узорна-паказальныя рассылкі: па чатыры разы на дзень паведамляюць, што яны робяць, хто што заявіў, хто куды паехаў.

Зь недзяржаўнымі арганізацыямі адсачыць сытуацыю нашмат складаней: іншая колькасьць, задачы, адрозны ад партыяў працоўны графік. Таму параўнаньне не зусім аднаго шэрагу. Але калі хаця б палова з НДА дасылала інфармацыю так, як робяць гэта палітычныя партыі - мы б ні пра што больш не пісалі, толькі пра грамадзкія арганізацыі.

**- У пэрспэктыве якую ролю могуць заняць НДА ў адносінах з СМІ?**

- Яны павінныя заняць тую ролю, якую займаюць грамадзкія арганізацыі, напрыклад, ва ўкраінскай прэсе. Там ёсьць адмысловыя часопісы, бюлетэні, палосы ў газэтах. На Беларусі гэтага значна меней. Можа таму, што Беларусь меншая, ці палітычнае жыцьцё не такое актыўнае, ды і колькасьць НДА не такая вялікая. Але па ўсёй Эўропе гэтая інфармацыя абсалютна адкрытая, і яна трапляе на розныя палосы: нейкая палітычная акцыя - на палітычную паласу, грамадзкая акцыя - на грамадзкую, культурніцкая - на культурніцкую і г.д. Усё залежыць ад таго, як салодка і смачна паданая гэтая падзея.

**- Як Вы ацэньваеце выданьні НДА на масмэдыйным рынку Беларусі?**

- Я вельмі мала ведаю такіх выданьняў. Ёсьць некалькі, якія выдаюць нейкія сацыялягічныя лябараторыі («Беларускія фабрыкі думак», напрыклад). Яны працуюць няблага, і да іх ніякіх нараканьняў няма.

У Менску з НДА-выданьняў ёсьць «Бюлетэнь» Асамблеі. Ён шмат пра што распавядае, вельмі добра структураваны, і зь ім лёгка працаваць. Ёсьць неблагі часопіс, які выдае Рада, - «Содействие». Таксама добры часопіс, які інфармуе пра падзеі ў «трэцім сэктары». Рэгіянальныя бюлетэні да нас не трапляюць - ва ўсякім разе я ня ведаю, ці проста ня памятаю такіх. Адзінае, што магу сказаць, - у Беларусі спэцыялізаваных выданьняў значна меней, чым на Ўкраіне: за тыдзень прабываньня там мне далі чатыры ці пяць мясцовых выданьняў НДА.

Шкада, што мала ведаем пра выданьні «трэцяга сэктару», бо яны шмат у чым былі б карыснымі для журналістаў. Па-першае, яны могуць даць кантакты. Калі ідзе гаворка пра нейкую арганізацыю, самы мінімум, які можа быць - хаця б тэлефон рэдакцыі, а праз яго ўжо можна зьвязацца з арганізацыяй. Некаторыя часопісы друкуюць тэлефоны кожнай арганізацыі, пра якую яны пішуць. Па-другое - гэта, натуральна, інфармацыя. Інфармацыя, якая структураваная, напісаная з разьлікам на чытача, тады яе нашмат лягчэй пераварваць. Па-трэцяе - новыя інфармацыйныя нагоды: калі ня ў кожным, то ў палове матэрыялаў зазначана, што гэтая падзея будзе працягнутая, напісана, калі гэта адбудзецца. Так што ў такіх часопісах вельмі шмат чаго можна знайсьці.

# "НДА І ПАЛІТЫКА"

Вінцук Вячорка,
**старшыня Грамадзкага аб'яднаньня БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ, сябра Рабочай групы Асамблеі**

**- Як сёньня складаюцца ўзаемаадносіны беларускіх НДА з палітыкай?**

- Узаемадачыненьні бываюць паміж аб'ектамі альбо суб'ектамі аднаго кшталту. Палітыка ж ахоплівае ўсе праявы і інстытуты грамадзянскай супольнасьці. Па-першае, НДА знаходзяцца ў палітычным полі хаця б таму, што ёсьць палітыка лукашэнкаўскага рэжыму - душыць няўрадавыя арганізацыі ды ствараць фіктыўныя, умантаваныя ў дзяржаву. Няўрадавыя арганізацыі мусяць на такую палітыку мець свой палітычны адказ - калі ня хочуць быць зьнішчаныя ці заняволеныя. Па-другое, пагроза незалежнасьці краіны закранае ўсіх яе грамадзянаў, у тым ліку сябраў няўрадавых арганізацыяў, і яны ня маюць права маўчаць, баючыся, што іх абвінавацяць у «палітызацыі».

**- Ці мусіць «трэці сэктар» у сытуацыі, якая склалася ў краіне сёньня, супрацоўнічаць з палітычнымі партыямі і наагул удзельнічаць у палітычнай дзейнасьці?**

- Жыцьцё ўжо адказала на гэтае пытаньне. Беларускія грамадзкія арганізацыі шчыльна зьвязаныя з палітычнымі партыямі. Гістарычна склалася, што рэальныя, ня створаныя пад чыюсьці замову няўрадавыя арганізацыі і структуры палітычных партыяў (той жа БНФ) паходзяць з аднаго і таго ж кораня, адных і тых жа асяродзьдзяў. Няўрадавыя арганізацыі падзяляюць каштоўнасьці незалежнасьці і дэмакратыі - тыя ж самыя, што і партыі. Усе ведаюць, што партыйныя і грамадзкія актывісты разам ладзяць і палітычныя, і грамадзкія кампаніі. Ніякія штучныя аналёгіі з краінамі даўняй і стабільнай дэмакратыі, дзе «сэктары» жорстка падзеленыя, у нас не падыходзяць.

**- Апошнім часам стала папулярнай думка, што грамадзкая і палітычная дзейнасьць лідэраў «трэцяга сэктару» мусіць быць разьмежаванай. Як па-Вашаму, ці павінны адбывацца такі працэс?**

- Наколькі я ведаю сытуацыю ў такіх краінах, як Азэрбайджан, Грузія - наўмысьля называю краіны, якія не дасягнулі нармальнага ўзроўню дэмакратыі, - там вельмі часта палітычныя лідэры адначасова зьяўляюцца лідэрамі грамадзкіх утварэньняў і наадварот - грамадзкія лідэры робяцца палітычнымі. А як разьмежаваць грамадзкую і палітычную дзейнасьць у нашых малых гарадах і мястэчках? Гэта асаблівасьць пераходнага этапу - па-беларуску ці па-азэрбайджанску. А ідэя разьмежаваньня ідзе ад прадстаўнікоў заходніх краінаў, дзе ёсьць ня толькі падзел паміж сэктарамі, але і падзел галінаў улады, свабода прэсы, няма пагрозы зьнішчэньня нацыянальнай культуры і дзяржаўнасьці... Тое самае, дарэчы, магу сказаць пра прэсу і палітыку.

**- Якой можа быць роля беларускіх НДА ў рознага кшталту кааліцыях, у тым ліку палітычных?**

- У нашай краіне пацьвердзілася жыцьцяздольнасьць грамадзка-палітычных кааліцыяў. Калі палітычныя партыі спрабуюць нешта ўтварыць паміж сабой, то гэта вышэй за кансультацыйны ўзровень не разьвіваецца. Маю на ўвазе Кансультацыйную Раду апазыцыйных палітычных партыяў. А вось Каардынацыйная рада дэмакратычных сілаў, куды ўваходзяць і партыі, і грамадзкія аб'яднаньні, і прафсаюзы - аб'яднаная агульнымі каштоўнасьцямі. Падчас буйных, жыцьцёва важных кампаніяў суб'екты КРДС даволі лёгка ў параўнаньні зь іншымі структурамі знаходзяць спосаб дамовіцца і падзяліць функцыянальныя абавязкі.

**- Ці рэальна сёньня наладзіць супрацоўніцтва паміж грамадзкімі арганізацыямі і дэпутацкім корпусам?**

- Цяперашніх дэпутатаў нельга лічыць дэпутатамі ў нармальным сэнсе слова: гэтыя людзі насамрэч ня выбраныя, а прызначаныя ўладаю. Ня бачу шанцаў пры самай добрай волі іх перавыхаваць. Што ж да будучых мясцовых выбараў, у якіх сапраўды варта аб'яднаць намаганьні ўсіх дэмакратычных незалежніцкіх, прабеларускіх сілаў, то ў іх выніку могуць зьявіцца, - праўда, кропкава - нармальныя сапраўдныя дэпутаты, зь якімі можна і абавязкова трэба супрацоўнічаць. Іх трэба вучыць, трэба карыстацца іхным уплывам.

Дэмакратычныя дэпутаты разам зь няўрадавымі арганізацыямі могуць эфэктыўна ўзьнімаць мясцовыя сацыяльныя, культурніцкія, адукацыйныя пытаньні, змагацца за тую ж самую беларускую школу ў варунках лінгвістычнай дыскрымінацыі. Тут падвойная выгода: няўрадавыя арганізацыі могуць выкарыстоўваць аўтарытэт дэпутатаў, а дэпутаты - людзкі і досьведны рэсурс няўрадавых арганізацыяў.

Сьвятлана Каралёва,
**старшыня каардынацыйнага савету рэспубліканскай грамадзкай арганізацыі «Жаночы адказ»**

**- Як сёньня складваюцца ўзаемаадносіны беларускіх НДА з палітыкай?**

- Дзіўнае пытаньне. Усе НДА займаюцца палітыкай - гэта адназначна. Але наколькі эфэктыўна грамадзкія арганізацыі фармуюць моладзевую, сацыяльную, прававую палітыку ў краіне - гэтае пытаньне больш складанае.

**- Ці мусіць у дадзенай палітычнай сытуацыі беларускі «трэці сэктар» супрацоўнічаць з палітычнымі партыямі і наагул удзельнічаць у палітычнай дзейнасьці?**

- Кожны сам абірае, з кім і як супрацоўнічаць, - гэтага ніхто ня можа дыктаваць грамадзкай арганізацыі. Тут узьнікае іншае пытаньне: ці існуе тая культурная палітыка, якая дакладна вызначае, што такое «супрацоўніцтва», ці выконвае грамадзкая арганізацыя пэўны заказ палітычнай партыі, ці наадварот палітычная партыя займаецца дзейнасьцю грамадзкай арганізацыі. Прыкладам, калі грамадзкая арганізацыя займаецца адукацыяй сябраў нейкай палітычнай партыі - чаму гэта нельга рабіць? Альбо палітычная партыя ня можа займацца стратэгічным плянаваньнем, таму што гэта патрабуе вялізных прафэсійных якасьцяў - калі ласка, грамадзкая арганізацыя можа дапамагчы.

Прывяду прыклад «Жаночага адказу»: існуе праблема гендэрнай адукацыі і ўдзелу жанчыны ў палітыцы, і для мяне супрацоўніцтва з палітычнымі партыямі вельмі істотнае - празь іх нашмат лягчэй займацца палітыкай і прасоўваць сваіх кандыдатаў.

Але гэта ўсё ня ў нашай краіне: у нас ні палітычныя партыі, ні грамадзкія арганізацыі ня могуць нармальна існаваць у такіх умовах, у якіх зараз знаходзяцца.

**- Як па-Вашаму, ці павінная быць разьмежаванай грамадзкая і палітычная дзейнасьць лідэраў «трэцяга сэктару»?**

- Калі вы зьяўляецеся лідэрам палітычнай арганізацыі, вы ня можаце прадстаўляць інтарэсы грамадзкіх арганізацыяў, - гэта вызначаецца вашым статусам. Вы ня можаце ўваходзіць у Асамблею няўрадавых арганізацыяў. Вы абралі свой шлях, шлях палітычнага лідэра - тады выступайце, нешта прапаноўвайце, але ня ў якасьці лідэра грамадзкага. У адваротным выпадку структура набудзе палітычную афарбоўку, а арганізацыю дзеля прасоўваньня да ўлады будуць выкарыстоўваць у сваіх інтарэсах.

Паглядзіце, што здарылася з Асамблеяй. Пры ўсёй маёй павазе да Беларускага Народнага Фронту, Асамблея цалкам была выкарыстаная ў інтарэсах гэтай палітычнай структуры. У нас жа існуюць і лібэралы, і сацыял-дэмакраты, і іншыя, але дзейнасьць Асамблеі была зьвязаная толькі з гэтай палітычнай партыяй, таму што яе склад ўваходзілі лідэры і кіраўнікі гэтай партыі.

**- Якую ролю могуць адыгрываць беларускія НДА ў рознага кшталту кааліцыях, у тым ліку палітычных?**

- Я лічу, што неабходная больш прадуктыўная кааліцыя палітычных партыяў. І тут грамадзкія арганізацыі могуць дапамагчы, бо маюць досьвед стварэньня кааліцыяў, ведаюць, як весьці перамовы, вырашаць канфлікты інтарэсаў. Трэба супрацоўнічаць з партыямі, таму што НДА ня могуць займацца, напрыклад, выбарчым заканадаўствам - гэта іх ня тычыцца. Палітычныя партыя павінныя стварыць свой саюз, але не такі, як ёсьць, - КРДС. Саюз павінен быць больш дакладным, партыі павінныя мяняць закон.

Палітычныя партыі, безумоўна, павінны існаваць - гэта гарант дэмакратыі. Але ніякай улады ў іх няма, і людзі, якія ідуць у палітыку, папросту самаахвярныя. Самы адмоўны імідж - у палітычных партыяў, нават у грамадзкіх арганізацыяў ён крыху больш станоўчы.

Я лічу, што Асамблеі ня трэба ўваходзіць у палітычныя саюзы, у тым ліку ў КРДС, - палітычныя партыі маюць сваю структуру, свае электаральныя тэхналёгіі, дакладна вызначаныя мэты. Зьвяржэньне існуючай улады - ня мэта Асамблеі, гэта можа быць мэтай толькі партыі. Калі будзе дакладны падзел на грамадзкі і палітычны сэктары - ня будзе лішніх людзей зь іх дэструктыўным уплывам.

Калі ўзьнікаюць нейкія крызысныя сытуацыі, мы даем палітычным партыям вельмі шмат палітычнай волі, якую яны ня могуць выкарыстаць. І гэта аўтаматычна перакладаецца на грамадзкія арганізацыі, чыімі рукамі дасягаецца такі вынік.

**- Апошнім часам неаднойчы выказвалася ідэя пра неабходнасьць у наладжваньні супрацоўніцтва паміж грамадзкімі арганізацыямі і дэпутацкім корпусам. Ці рэальна гэта на сёньняшні дзень?**

- Безумоўна. НДА робяць памылку, калі адмаўляюцца ад удзелу ў мясцовых выбарах. Яны павінныя прасоўваць сваіх прадстаўнікоў, каб абараняць сацыяльныя інтарэсы грамадзтва. Калі арганізацыя хоча займацца вырашэньнем мясцовых праблемаў, яна абавязаная гэта рабіць, не істотна, якім чынам. Яна павінна браць у гэтым самы актыўны ўдзел, хаця б дзеля таго, каб абараніць сябе і каб выконваць нейкія сацыяльныя заказы, бо для грамадзтва сацыяльны спэктар на сёньняшні дзень вельмі істотны.